Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

**Цэнтральнага Бюро Краязнаўства**

ПРЫ

**ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ**

№ 8-9 (35-36) Жнівень-Верасень 1928

**ГОД ВЫДАНЬНЯ ЧАЦЬВЕРТЫ**






ВЫДАНЬНЕ
Інстытуту Беларускае Культуры
МЕНСК—1928

Выдаючы № „Нашага Краю“, якi цалкам прысьвечаны толькi аднэй Мазырскай акрузе, ЦБК i Рэдакцыя часопiсу кiравалiся наступнымi меркаваньнямi.

У кастрычнiку м-цы мiнулага 1927 г. на пленуме ЦБК ставiлася пытаньне аб спосабах падтрыманьня i пашырэньня час. „Наш Край“. Пленум прызнаў неабходным у гэтых мэтах павялiчыць сярод краязнаўчых организацый БССР падпiску на часопiс. У першую чаргу да актыўнай кампанii ў гэтым напрамку Пленумам былi прыцягнуты акруговыя т-вы краязнаўства. Каб даць пэўныя стымулы да пашырэньня падпiскi сiламi акруговых т-ваў, Пленум ухвалiў наступную пастанову: для акругi, якая дасьць найбольшы лiк падпiшчыкаў у пачатку 1928 г., ЦБК бярэ на сябе абавязак выдаць спэцыяльны № „Нашага Краю“. Маючы на ўвазе гэтую пастанову Пленуму, акруговыя т-вы i паасобныя краязнаўцы разгарнулi падпiсную кампанiю на час. „Наш Край“. Найбольш актыўная кампанiя была праведзена ў Мазырскай акрузе, дзе было зарэгiстравана да 1-III-28 г. 127 падпiшчыкаў—лiчба хоць i невялiкая, але ў нашых умовах досыць прыкметная, бо складае амаль 1/4 усiх платных падпiшчыкаў „Нашага Краю“. Такiм чынам, згодна дырэктыў Пленуму ЦБК ад 23-25/Х-28 г., васеньнi № „Нашага Краю“ вырашана было запоўнiць мазырскiмi матар‘яламi. Мазырскае Акруговае т-ва Краязнаўства з вялiкай энэргiяй пачало зьбiраць матар‘ялы для спэцыяльнага № „Нашага Краю“. У вынiку гэтай працы рэдакцыя часопiсу атрымала шмат артыкулаў, якiя былi напiсаны мазырскiмi краязнаўцамi. Выключэньнем зьяўляецца толькi адзiн артыкул, напiсаны ў Менску. Дзякуючы таму, што ад мазырскiх краязнаўцаў было атрымана вельмi многа матар‘ялаў, Рэдакцыя выдае падвойны № „Нашага Краю“. Ня гледзячы на гэта, частку мясцовых матар‘ялаў ня прышлося скарыстаць. Такiм чынам зусiм адсутнiчаюць артыкулы аб прамысловасьцi i с.-гаспадарцы Мазыршчыны. Прычына як у слабой апрацоўцы матар‘ялаў, так i ў досыць поўным высьвятленьнi гэтых галiн у беларускiм экономiчным часопiсе „Савецкае будаўнiцтва“. ЦБК лiчыць неабходным падкрэсьлiць, што „Мазырскi“ № „Нашага Краю“ ёсьць першая спроба сыстэматычнага i плянавага краязнаўчага апiсаньня паасобных буйных абшараў Беларусi. ЦБК думае, што гэты шлях зьяўляецца правiльным i абяцае даць вельмi добрыя конкрэтныя вынiкi.

---

М. Азбукін.

# Мазырская акруга.

## Географічны нарыс.

### I.

Мазырская акруга, у склад якой уваходзіць большая частка даваеннага Мазырскага павету, Азарыцкая воласьць даўнага Бабруйскага павету і заходнія воласьці былага Рэчыцкага павету, ляжыць у самым асяродку вялікай Прыпяцкай нізіны і лічыцца найбольш тыповай часткай арыгінальнай, рэзка адасобленай Палескай географічнай краіны.

Надзвычайна роўная паверхня, лясістасьць, панаваньне пяскоў, вялізныя прасторы гіпнава-асаковых балот, павольныя поўнаводныя рэкі, раскіданыя каля іх шэрыя вёскі з хатамі, крытымі дорам, экстэнсыўная гаспадарка з жывёлагадоўчым ухілам,—вось галоўныя адзнакі палескага краявіду, вельмі характэрныя для Мазыршчыны.

### II.

Геолёгічная гісторыя Палесься і ў тым ліку Мазыршчыны ня можа лічыцца добра вывучанай, хаця ў апошнія гады, дзякуючы працам Туткоўскага, Жырмунскага і іншых дасьледчыкаў, вывучэньне яе значна пасунулася наперад.

Найдаўнейшыя пароды, якія выяўлены на дне Палескай катліны шляхам сьвідраваньня глыбокіх прабоін, гэта сярэдня-дэвонскія пескавікі. Думка Максімовіча аб тым, што зондаваньне тут паказала няглыбокае заляганьне гранітаў[1]), пакуль што нікім не пацвярджалася. У аснове Палесься, відавочна паўсюды, пад крэйдавымі і трацьцёвымі пластамі ляжаць сярэдня-дэвонскія пескавікі. Вапнякоў і долёмітаў сярэдня-дэвонскага часу, якія выступаюць на паверхню ў Віцебскай і Аршанскай акругах і якія былі знойдзены Армашэўскім у Бабруйшчыне каля вёскі Радуцічы, у Мазыршчыне ня знойдзена.

У заходняй частцы Мазыршчыны, паводле Жырмунскага, сярэдня-дэвонскія пескавікі ляжаць на значнай абсолютнай вышыні, утвараючы выгін, які цягнецца з поўначы на поўдзень ад Віцебска-Балтыцкай дэвонскай пліты да Украінскага гранітна-гнэйсавага груда. Гэты выгін, як думае Жырмунскі, утварыўся ў канцы палеозойскай або ў пачатку мэзозойскай эры, мабыць адначасна з Уральскімі і Тыманскімі гарамі. Спачатку ён быў нагэтулькі высокі, што ані з захаду, ані

[1]) Максимовичъ. Днепръ и его бассейнъ. Кіевъ. 1901. Ст. 24.

з усходу сюды не магло пранікнуць мора, і, пачынаючы з позьняга дэвону аж да канца юрскага пэрыоду, Мазыршчына, як можна думаць, была ўвесь час сухазем‘ем [1]). Туткоўскі таксама зазначае, што трыасавых і юрскіх адкладаў у Палесьсі няма, але ён дапускае, што ў сярэдня-юрскую эпоху ў Палесьсі маглі існаваць морскія пратокі, якія злучалі юрскае мора Расіі з адпаведнымі морамі Польшчы ды Заходняй Эўропы. Юрскія адклады, па думцы Туткоўскага, маглі быць у Палесьсі змыты ў працягу ніжня-крэйдавай эпохі [2]). Аб сувязі юрскіх мораў Усходняй і Заходняй Эўропы гаварыў і Карпінскі, які абапіраўся на падобнасьць фаўны заходня-эўропейскай і ўсходня-эўропейскай юры.

Жырмунскі, аднак, даводзіць, што юрская морская фаўна Расіі і Польшчы нагэтулькі розьняцца, што няма ніякай патрэбы дапускаць такую сувязь. Ён думае, што выгін дэвонскіх адкладаў у Палесьсі быў неперамагальнай перашкодай для праніканьня юрскіх мораў, якія прасьціраліся тады і на захад і на ўсход ад Палескага сухазем‘я.

Заляганьне дэвонскіх пескавікоў на вялікай абсолютнай вышыні наглядаецца толькі ў сярэдніх частках Палесься. На захад ад Пінску і на ўсход ад Птычу дэвонскія адклады апускаюцца ніжэй ад роўню мора, і ні ў Гомлі, ні ў Берасьці іх не давялося дасягнуць нават у найглыбейшых сьвідраваных прабоінах. Там, на ўскрайках Палесься пачынаюцца 2 западзіны ў дэвонскіх адкладах: Сярэдня-Дняпроўская і Польская, утвораныя, паводле Ласкарова, у пэрыод часу паміж сярэднім дэвонам і юрой.

У пачатку крэйдавага пэрыоду калі Польшча была пакрыта морам, Палесьсе ўсё яшчэ заставалася сухазем‘ем, але з усходу і заходу сюды пачалі ўжо ўразацца морскія затокі. Даўны дэвонскі груд, відаць, яшчэ стрымліваў распаўсюджаньне мора ў Палесьсі, але ўжо быў падмыты і пачаў падавацца на сваіх заходніх і ўсходніх схілах. Нарэшце, у канцы крэйдавага пэрыоду размытая дэвонская града перастала быць бар‘ерам паміж Заходняй і Усходняй Эўропай, і моры іх злучыліся ў адзіны бязьмежны акіян.

Верхня-крэйдавыя адклады пашыраны блізка-што па ўсім Палесьсі, але тоўшча іх у раёне дэвонскага выгіну ледзьве дасягае 25 м., у той час як у Берасьці перавышае 150 м., а ў Гомлі—175 м. У паўночнай частцы Мазыршчыны крэйда залягае беспасрэдна пад ледавіковымі адкладамі, а ў паўднёвай частцы—пад пластамі олігоцэнавай эпохі. Трацьцёвыя моры, можа-быць, залівалі сабой блізка-што ўсё Палесьсе, але адклады іх выяўлены ў межах Мазыршчыны толькі на поўдзень ад Прыпяці. Туткоўскі кажа, што трацьцёвыя адклады Мазыра належаць да Харкаўскага, Кіеўскага (спондылевая гліна) ды Бучакскага паверхаў і зьяўляюцца блізкімі да адначасовых утварэньняў Украіны.

У міоцэнавую эпоху трацьцёвага пэрыоду, калі Польшча заставалася яшчэ морам, уся Беларусь (і ў тым ліку Мазыршчына) аканчальнаператварылася ў сухазем‘е.

З перадледавіковых адкладаў Мазыршчыны прыметную ролю ў краявідзе граюць так званыя „чорныя“ або „зялёнаватыя“ гліны спрэчнага ўзросту, вельмі пашыраныя на поўдзень ад Прыпяці. У тых месцах, дзе яны выступаюць на паверхню, звычайна растуць грабовыя і наагул шыракаліставыя лясы.

Аднак у большасьці выпадкаў даўныя земныя пароды (у тым ліку і трацьцёвыя) хаваюцца пад тоўстымі пластамі ледавіковых і пась-

---

[1]) Жирмунский. Основные черты тектоники Западного Края. Изв. Моск. Отд. Геол. Ком. 1919. т. I.

[2]) Тутковский. Геологический очерк Минской губ. т. I. Киев.

сьляледавіковых адкладаў, разьмяшчэньне якіх вызначае сабой агульныя асаблівасьці палескага краявіду.

III.

Паводле асаблівасьцяй чацьвярцёвых адкладаў Мазыршчыну можна падзяліць на дзьве часткі: паўночна-ўсходнюю краіну падысподняе марэны і паўднёва-заходнюю чыста зандравую бескаменную краіну. Мяжа паміж гэтымі краінамі цягнецца прыблізна па рацэ Лані, далей на паўднёвы ўсходна Князь-Возера—Пятрыкоў—Скрыгалоў—на поўдзень ад Мазыра на Барбароў. Удоўж гэтай мяжы Туткоўскім апісаны канцовыя морэны, месцам, напрыклад, на поўнач ад Князь-Возера, выяўленыя вельмі тыпова, багатыя каменьнем і ўзгоркаватыя.

На паўднёвы ўсход ад паласы канцовых морэн чырвона-буры морэнны суглінак, пашыраны ў паўночна-ўсходняй Мазыршчыне, выкліньваецца і з-пад яго высоўваюцца перадледавіковыя пяскі і суглінкі. У ваколіцах Тураву даледавіковыя суглінкі ляжаць на самай паверхні, але звычайна яны хаваюцца пад пазьнейшымі безнакіднёвымі пяскамі, якія, паводле Туткоўскага, належаць да флювія-гляцыяльных (рэчна-ледавіковых) адкладаў. Такія-ж безнакіднёвыя пасьляледавіковыя або позьняледавіковыя пяскі пашыраны і ў паўночна-ўсходняй Мазыршчыне, дзе яны насьцелены паверх морэннага суглінку. З гэтых пяскоў складзены вядомыя палескія кучугуры (выдмы, дюны), і іх распаўсюджанасьць па Палесьсі дадае гэтай краіне тую аднастайнасьць, якой яна слыне. Палескія выдмы часта бываюць пакрыты лесам, звычайна маюць даволі выразную падковападобную форму і адзначаюцца досыць плоскімі схіламі. Выгнуты край выдмаў павернуты на паўночны ўсход, і гэта дало повад Туткоўскаму пабудаваць тэорыю, згодна якой гэтыя выдмы нібы-та зьяўляюцца тыповымі барханамі, утворанымі ў сухую пару пасьля адступаньня ледавіка, калі тут панавалі паўночна-ўсходнія вятры (фэны), і ўсё Палесьсе было сухой бязводнай пустыняй [1]). Туткоўскі кажа, што стромы схіл палескіх дюн накіраваны на паўднёвы захад, а гэта азначае, што вецер, пад уплывам якога яны стварыліся, запраўды дзьмуў з паўночнага ўсходу.

Аднак працы Лянцэвіча ў 1922 г. у замежнай частцы Палесься паказалі, што там стромым схілам выдмаў зьяўляецца паўночна-ўсходні. Вывучэньне аналёгічных дюн у Нямеччыне і ў некаторых раёнах Расіі (Якаўлевым у Чарэпавецкай акрузе, Земляковым на мяжы б. Казанскай і Ніжагародзкай губ., Кабаковым у Вяцкай губ.) таксама сьведчыць, што выгнуты край выдмаў зьяўляецца стромым і, значыць, падветраным. Падковападобная форма дюны, згодна гэтых прац, тлумачыцца зарастаньнем грады пяску травой на канцох і прасоўваньнем сярэдніх частак грады пад уплывам ветру. Ад барханаў гэткія выдмы адрозьніваюцца значна вузейшай больш выцягнутай формай, якая дазваляе іх называць параболічнымі дюнамі.

У зьвязку з гэтым вывады Туткоўскага аб тым, што Палесьсе было калісь пасьля ледавіковай эпохі пустыняй з моцнымі паўночна-ўсходнімі вятрамі, трэба прызнаць спрэчнымі. Для належных вывадаў аб пахаджэньні кучугур Мазыршчыны патрэбны новыя нагляданьні над іх папярочнымі разрэзамі.

Наймаладзейшымі адкладамі Мазыршчыны зьяўляюцца сучасныя ўтварэньні: торф і алювіяльныя рэчныя ды азёрныя адклады.

[1]) Тутковский, П. Геологический очерк Минской губ. ч. I. Киев.
Яго-ж: Геологические исследования на территории б. Минской губ. ч. II. Витебск 1925.

Асаблівым фізыка-географічным раёнам Палесься зьяўляецца Мазырскае ўзвышша, дзе над трацьцёвымі і ледавіковымі адкладамі залягае парода, якую да апошняга часу называлі лёэсам, а ў цяперашнія часы пачынаюць прызнаваць за лёэсаваты супясок. У ніжніх частках сваёй тоўшчы гэтая парода адзначаецца выразнай пластаватасьцю. Ад тыповага лёэсу гэтая парода адразьняецца лягчэйшым мэханічным складам, але ўсе іншыя адзнакі мае тыповыя для лёэсу. Паверхня Мазырскага ўзвышша, як і ў іншых лёэсавых краёх, прарэзана многалічнымі равамі, якія хутка разрастаюцца ў час раставаньня сьнягоў і пасьля дажджоў.



Левы бераг р. Прыпяці з награмаджэньнем пяскоў у ваколіцах Мазыра.
Фот. 1928 г. М. У. Бычэўскага.

Абсолютная вышыня ўзвышша дасягае 200 мэтраў над роўнем мора.

Блізка-што ўся астатняя прастора Мазырскай акругі зьяўляецца тыповай нізінай, абсолютная вышыня якой павольна нарастае з усходу на захад і ад Прыпяці на поўдзень і поўнач, на агул кажучы ад 100 да 150 м.

Магчыма, што сток вады на ўсход, адпаведны гэтаму агульнаму нахілу паверхні, зьяўляецца фактам нядаўнага пахаджэньня, а ў першыя часы пасьляледавіковай эпохі вада Палесься магла сьцякаць на захад па прытоках Бугу і толькі часткова на ўсход па даліне сучаснай р. Славечны [1]). Згодна гэтаму дапушчэньню, Прыпяць не магла прабіцца праз Мазырскае ўзвышша, якое нібы-та мела свой працяг далей на ўсход і было злучана з Хойніцкім падняцьцем. Такім чынам, Прыпяць у сваім сучасным выглядзе прыхільнікамі гэтага дапушчэньня лічыцца за раку вельмі маладую. Аднак трэба адзначыць, што яна пасьпела ўжо прамыць сабе даволі глыбокае рэчышча, утварыўшы выразныя берагавыя тэрасы з старарэччамі („старыкамі") [2]) якраз у

[1]) Гл. А. Смоліч. Географія Беларусі.

[2]) Гедройц, А. Геологич. исследования в губерниях Виленской, Гродненской, Минской и др. Мат. по геол. России XVII, 1895. Ст. 198.

тым раёне, які паводле гэтага дапушчэньня быў раней мяжой Палескай пасьляледавіковай вадзяной прасторы.

IV.

Роўнасьць і слабы нахіл паверхні выклікаюць асаблівы характар рэк Палесься. Дзякуючы невялікаму нахілу дна, яны марудна цякуць сярод плоскіх балотных берагоў, парослых чаротам, асакой, сітнякамі (Scirpus) і інш. Жывой сілы рэк не хапае для пераносу пяску, а часам нават і муці, якія апускаюцца на дно і такім спосабам павышаюць ровень вады ў рэках. З гэтых адкладаў часта ствараюцца мяліны ды выспы, якія падзяляюць раку на некалькі пратокаў. Часам рэчныя адклады згруджаюцца ўдоўж берагоў, утвараючы як-быццам натуральныя грэблі, паміж якімі рака цячэ, бывае, вышэй суседніх паплавоў. Зразумела, што веснавое раставаньне сьнягоў і нават летнія дажджы, паднімаючы яшчэ і без таго высокі ровень вады ў рэках, прымушаюць іх шырака разьлівацца і забалочваць лярэчныя раўніны. Часта пасьля разьводзьдзяў рэкі мяняюць свае рэчышчы, пакідаючы на месцы сваіх даўнейшых дарог многалічныя старарэччы, так званыя старыкі.

Ува ўсходняй частцы Мазыршчыны, дзе Прыпяць мяняе свой усходні кірунак на паўднёва-ўсходні, яна бяжыць з значнай хуткасьцю і траціць сваё чыста палескае аблічча.

Наагул усходняя частка Мазыршчыны лепш дрэнавана і далёка менш забалочана ў параўнаньні з заходняй.

На захадзе Мазыршчыны знаходзяцца найвялікшыя балоты і найвялікшыя азёры, у тым ліку слыннае Князь-Возера. Яно займае плошчу ў 47 кв. клм. пры даўжыні ў 15 клм. і шырыні каля 3,5 клм. Тутkoўскі лічыць яго ледавіковым і даводзіць, што яно ніякім чынам ня можа разглядацца як рэштка „мітычнага“ Палескага возера або „Гэродотавага мора“, аб якім гаварылі дасьледчыкі мінулага веку. Возера Князь ня мае стоку, але ў сувязі з малой мінэралізацыяй грунту зьяўляецца несалоным. Як і ўсе палескія вазёры, Князь-Возера мае акругленую форму і плоскія, ледзь прыкметныя, балотныя, няпрыступныя берагі. З усіх бакоў возера патроху зарастае балотнай расьліннасьцю, прычым з паўднёвага захаду гэтая расьліннасьць насоўваецца на возера па паверхні вады, утвараючы плывучы зыбісты дыван—дрыгву. Каля паўночна-ўсходніх берагоў у зьвязку з мацнейшым паўзьбярэжным хваляваньнем, выкліканым перавагай паўднёва-ўсходніх вятроў, такі дыван ня мог утварыцца, і зарастаньне адбываецца толькі па дне.

З іншых азёр Мазыршчыны найважнейшым зьяўляецца суседняе з Князь-Возерам Белае возера, вядомае сваімі рыбагадоўчымі сажалкамі.

V.

Масы вады, якія сплываюць з Паўночна-Беларускіх ды Валынскіх узвышшаў і гуртуюцца ў Палескай катліне, прыметна ўплываюць на палескі клімат. Ізотэрмы ліпня і наагул летніх месяцаў у раёне Палесься выгінаюцца на поўдзень, так што лета тут трохі халаднейшае, чымся ў Расіі і нават у Польшчы на такой самай геаграфічнай шырыні [1]). Сярэдняя тэмпэратура ліпня ў Мазыры +19°.

Наадварот, узімку замерзлыя балоты ня ўплываюць на кірунак ізотэрм, і зімовая тэмпэратура правільна збывае ў межах Мазыршчы-

[1]) А. Кайгарадаў. „Кліматычны атляс Беларусі“. Менск. 1927.

ны з паўднёвага-захаду на паўночны ўсход. Сярэдняя тэмпэратура ў студзені для Мазыра—6,4, у той час як для Пінску—5,4, а для Васілевіч—6,7.

На Прыпяці каля Мазыра лёд трымаецца ў сярэднім 109 дзён, прычым у сярэднім рака замярзае 8 сьнежня, а ўзьнімаецца 27 сакавіка. Дзён з марозам у Мазыршчыне ў сярэднім каля 145, без адлігі—каля 70, з сьнегавым насьцілам, каля 100. У сярэднім прымаразкі канчаюцца ў канцы красавіка і зноў пачынаюцца ў пачатку кастрычніка.

Збываньне тэмпэратуры ўзімку з захаду на ўсход адбіваецца на характары і сярэдняй гадавой тэмпэратуры, якая таксама, як і сярэдняя тэмпэратура зімы, зьмяншаецца ня толькі ў кірунку на поўнач, але таксама і на ўсход. У Мазыры яна дасягае 6,3°, у Пінску 6,8°, у Васілевічах-жа 6,0°.

Вельмі характэрнай зьяўляецца сярэдняя тэмпэратура вэгетацыйнага пэрыоду, які ў Мазыршчыне цягнецца 195—200 дзён. Яна дасягае 14—14,2°.

Для характарыстыкі клімату проф. Кайгарадаў дае так званыя актыўныя сумы тэмпэратур, г. зн. суму сярэдніх дзённых тэмпэратур вэгетацыйнага пэрыоду, з якіх вылічваецца лік дзён вэгетацыйнага пэрыоду, памножаны на 5 (бо ніжэй ад 5° вэгетацыйныя процэсы большасьці культурных расьлін заміраюць). У Мазыршчыне гэтыя актыўныя сумы дасягаюць 1750—1850°, таксама як у Піншчыне і Беласточчыне. Такім чынам у межах БССР Мазыршчына мае найвыгаднейшыя тэмпэратурныя ўмовы для ўзрастаньня цеплалюбных расьлін.

Колькасьць ападкаў у Мазыршчыне, паводле Кайгарадава, хістаецца ад 550 да 650 мм. і, такім чынам, павінна лічыцца даволі высокай. Найбольш ападкаў бывае ў ліпні (каля 100 мм), найменш у лютым (20 мм.). Цікава, што да апошняга часу польскія падручнікі ўсьлед за Ромэрам падкрэсьлівалі беднасьць Палесься ападкамі і тлумачылі гэта катлінным рэльефам краіны. Кайгарадаў даводзіць, што мікрорэльеф ня ўплывае на колькасьць ападкаў і на аснове нагляданьняў мэтэоролёгічных станцый трэцяга парадку гаворыць, што ў Палесьсі выпадае больш ападкаў, чымся на суседніх узвышшах.

Лік дзён з ападкамі ў Мазыршчыне хістаецца ад 150 да 180, з навальніцаю ад 12—14, хмарных дзён 140—150, ясных 45—50.

Багацьце на грунтавую ваду страхуе Мазыршчыну ад небясьпечнай сушы. Варта, аднак, адзначыць, што ў апошнія гады падарожнікі па Палесьсі (Фядзюшын, Станчынскі, Рагавы) кажуць, што сухія гады, пачынаючы з 1920 году, зусім зьмянілі краявід шмат якіх куткоў Палесься. Непраходныя даўней балоты ператварыліся ў сухія месцы, зьбяднела расьліннасьць сочных даўней паплавоў, зьвяліся некаторыя віды вадзяных і балотных жывёлін.

VI.

Глебавае акрыцьцё Мазыршчыны, абсьледванае П. Рагавым у 1924 г., адзначаецца панаваньнем мокрых пяскоў, сярод якіх астраўкамі раскіданы сухія пяскі, супяскі і суглінкі. Процэс глебаўтварэньня адзначаецца тут сваёй інтэнсыўнасьцю. Карбонатнасьць глебы сустракаецца рэдка, але наглядалася ў морэне на паўночны захад ад Князь-Возера. На паўночным усходзе заўважана патрэсківаньне падзолаў. Месцам наглядалася выпацяваньне салей з рашчынаў. На паўднёвым усходзе Рагавы бачыў на месцы асушаных балот утварэньне карбонатаў, аналёгічнае саланчаком.

[1]) Кайгарадаў, А. Кліматычны атляс Беларусі. Карта № 20, 21, 22, 23, 24.

Глебатворчымі пародамі зьяўляюцца на паўночным усходзе морэна і наагул чацьвярцёвыя пароды на паўднёвым захадзе—пяскі, падасланыя вышэйуспамінанымі „чорнымі“ глінамі спрэчнага ўзросту. Каля Ельску наглядаліся асабліва цяжкія колёідальныя гліны. На паверхні наагул пераважваюць бедныя на фізычную гліну пяскі (5—6% частачак $<$ 0,01 mm.) і суглінкі (10% фіз. гліны). Выключэньнем зьяўляюцца ўрадлівыя цёмна-каляровыя тураўскія гліны (да 60% фізычнай гліны) у 70—10 *cm.* тоўшчаю, якія Туткоўскі заве перадледавіковым суглінкам. Другое выключэньне—лёэсаватыя глебы пад Мазыром і Юравічамі.

Рагавы падзяляе ўсе глебы Мазыршчыны на 6 тыпаў:

1) пяскі, якія ў межах двохмэтравых разрэзаў не зьмяшчаюць грунтавой вады; іх падзолістасьць выяўляецца зьнізу, як агляеньне;

2) пяскі з вадзяной падсьцілкай, падзоліста-балотныя з пераносам перагнойных продуктаў уніз;

3) пяскі на морэне, слаба-ападзоленыя, пашыраныя ў паўночна-ўсходняй Мазыршчыне;

4) пяскі на „чорных“ глінах паўднёвага захаду акругі, падзоліста-балотныя;

5) лёэсаватыя, дужа ападзоленыя супяскі і суглінкі;

6) цёмнакаляровы цынамонавага колеру, маргелісты суглінак, які з кіслатой дае бурбалкі.

Апрача таго ў далінах рэк наглядаюцца тарфяністыя і мінэральныя глебы паплавоў.

VII.

У сувязі з перавагай пескавых глеб, у Мазыршчыне пануюць хваёвыя бары. Полянская[1]) адзначае два найболей пашыраныя тыпы мазырскага сухога бору: 1) бор верасовы і 2) сухі бор, пазбаўлены ніжняга паверху расьліннага акрыцьця. У вільгатнейшых месцах пашыраны трэці тып—бор-ягаднік (Pinetum myrtillosum), які з свайго боку ў болотных месцах пераходзіць у сасновую імшару (Pinetum sphagnosum). Найболей пашыраным тыпам бору ў Мазырскай акрузе зьяўляецца верасовы бор (Pinetum callunosum) з папарацьцю Pteridium aquilinum у травяным акрыцьці і з хмызьняком зяноўцу (Cytisus) і жоўтазелю (Genista tinctoria). Значна радзей сустракаюцца бары-ягаднікі з чарнічнікам, брусьнічнікам, рознымі прушаўніковымі (Pirolaceae) і мохам Polytrichum. У нізкіх месцах у такіх барох зьяўляюцца кусты буякоў (Vaccinium uliginosum) і багуну (Ledum palustre).

Побач з тыповымі барамі ў Мазыршчыне вельмі пашыраны бярозавыя гаі з маладым хвойнікам, якія зьявіліся на месцы павысяканых бароў.

На суглінках і асабліва на „чорных“ глінах Паўднёвай Мазыршчыны пераважваюць шыракалістaвыя лясы, складзеныя пераважна з дубу і грабу, да якіх падмешаны лём, вяз, бераст, клён, ліпа, ясень і асіна. Падлескам у такіх лясох бываюць два гатункі брызьліны (Evonymus verrucosa і E. europaea), ляшчына, зрэдка шыпшына (Rosa mollis Smith). Яловыя лясы, у сувязі з кліматычнымі ўмовамі, трапляюцца ў

[1]) Полянская, О. Геоботанічны нарыс Мазырскае акругі. Мат. да вывуч. флёры і фаўны Беларусі. I. Менск, 1927.

Мазыршчыне надта рэдка. Мяжа паўсюднага пашырэньня елкі пралягае на поўнач ад паўночнай мяжы Мазыршчыны, а ў самой Мазыршчыне можна гаварыць толькі аб астраўным разьмяшчэньні елкі. Часьцей за ўсё елка сустракаецца на марэнных суглінках паўночна-ўсходняй часткі акругі ў відзе падмешкі ў шыракалістввых лясох. Маленькія астраўкі чыстых ельнікаў сустракаюцца ў Тураўскім, Лельчыцкім і Ельскім раёнах.

Пераходным тыпам паміж борам і шыракалістввым лесам можна лічыць субары або саснова-дубовыя лясы, найболей пашыраныя ў паўднёва-заходнім кутку акругі на ападзоленых супяскох, падсьціланых глінамі.

Усе пералічаныя тыпы лесу пашыраны галоўным чынам на вадападзельных раўнінах і рэдка спускаюцца ў даліны рэк, дзе, можна думаць, спачатку скрозь або блізка што скрозь цягнуліся няшырокімі палосамі заліўныя дубовыя гаі. У цяперашнія часы ад гэтых лясоў захаваліся толькі маленькія астраўкі, паказаныя на геоботанічнай карце Мазырскай акругі [1]). Месца паёмных дубовых гаёў занялі паплавы, якімі справядліва славіцца Палесьсе, і якія даюць галоўную масу сырцу для слынных палескіх сенапрасавальняй.

Па лагчынках і ўдоўж дробных рэчак, даліны якіх кепска дрэнаваны, месца дубовых гаёў займаюць прысадныя лясы чорнай вольхі (Alnus glutinosa) з куп'яватай паверхняй. На купінах такіх лясоў каля камлёў дрэў растуць Valeriana officinalis, Cuscuta virosa, Lysimachia vulgaris, а ў прамежках паміж дрэвамі—балотныя расьліны: Menyanthes trifoliata (бабок), Comarum palustre, Equisetum limosum (хвошч) і г. д.

Тыповыя балоты, пазбаўленыя дрэўнай расьліннасьці, у Мазыршчыне вельмі пашыраны. Найвялікшыя балотныя масывы цягнуцца па паўднёвай акраіне акругі ўдоўж мяжы з УССР.

Другі вялікі балотны масыў цягнецца шырокай паласой удоўж правага берагу Ствігі і Прыпяці вышэй вусьця Вубарці.

На поўнач ад Прыпяці найвялікшыя балоты згуртаваліся навокала Князь-Возера, якое раней, відавочна, займала значна большую прастору.

Большасьць балот Мазыршчыны належыць да тыпу гіпнава-асаковых або травяністых ці нізінных, як іх часта называюць. Асокі, чарот, віды Scirpus'аў ды Juncus'аў, лотаць (Caltha palustris L.), бабок, белакапытнік (Calla palustris L.), Myosotis palustris (незабудка), Equisetum limosum вызначаюць знадворны выгляд гэтых балот. Куп'яватая адмена такіх балот удоўж беларуска-украінскай мяжы вядома пад назвай „Галы".

Сфагнавыя імшары ў Мазыршчыне сустракаюцца вельмі рэдка, пераважна на паўночных ускрайках. Тарфяны мох гіне ў балотах, да якіх сягае вада рэчных разводзьдзяў, а такімі зьяўляюцца галоўныя балотныя масывы Мазыршчыны. Найвялікшае сфагнавае балота паказана на геоботанічнай карце Мазыршчыны каля паўднёва-ўсходняга канца Князь-Возера, а на глебавай карце П.Рагавога—на паўночны ўсход ад гэтага возера.

Мяккая зіма і даволі высокая тэмпэратура вэгетацыйнага пэрыоду дазваляюць у Мазыршчыне расьці шмат якім заходня-эўропейскім і некаторым стэпавым расьлінам, якія не сустракаюцца ў паўночнай Беларусі. Граб (Carpinus betulus L.), зімазялён (Viscum album), эўропейская брызьліна зьяўляюцца тут звычайнымі відамі. Да паўднёвых форм, тыповых для Мазыршчыны, належаць Cytisus biflorus L'Herit,

[1]) Гл. вышэйпаказаную працу О. Полянскай.

Genista tinctoria L., Anthericum ramosum, дзікая ігруша, дзікі жываплот (Crataegus monogyna) і інш. Надзвычайна цікаўнымі расьлінамі зьяўляюцца Trapa natans (вадзяныя арэхі) і Rhododendron flavum Don (Azalea pontica L.). Абедзьве гэтыя расьліны ўжо зрабіліся рэдкімі, і абедзьвюм пагражае звод. Апошняя расьліна знойдзена у трох месцах Валынскага Палесься і ў двох месцах у Мазыршчыне; асноўнае месца пашырэньня яе—Закаўказьзе і Малая Азія. Самае паўночнае месца, дзе яна знойдзена, ляжыць каля паўднёва-ўсходняга канца возера Князь. О. Полянская, якая яе там знайшла, кажа, што ваколічныя сяляне лічаць яе за сродак ад каросты і зьнішчаюць. Між тым Rhododendron flavum зьяўляецца рэліктам (рэшткай) трацьцёвай флёры і мае вялікае навуковае значэньне. У раёнах, пакрытых морэнай, яго няма.

Магчыма, што ў Мазыршчыне гэты кусток перацярпеў усю ледавіковую эпоху, але хутчэй можна думаць, што ён сюды прасунуўся пазьней з поўдня, дзе потым пасьпеў зьнікнуць.

Побач з наяўнасьцю расьлін, адсутных у паўночных частках Беларусі, для Мазыршчыны характэрна адсутнасьць шмат якіх паўночных відаў, пашыраных у паўночнай і сярэдняй Беларусі. Мы ўжо адзначылі, што елка ў Мазыршчыне сустракаеццца толькі зрэдка параскіданымі астраўкамі. Яшчэ радзей трапляецца тут ялёнец (яловец, Juniperus communis). Хаця асобныя экзэмпляры гэтага куста часам спатыкаюцца блізка-што каля паўднёвай мяжы Палесься, але ў краявідзе ён тут ужо ня грае ролі.

## VIII.

Калісьці Мазыршчына карысталася славай краіны, багатай на дзікага зьвера, і паляваньне было адным з галоўных заняткаў тутэйшых насельнікаў. У цяперашнія часы дзікія зьвяры, за выключэньнем хіба ваўкоў ды зайцоў, зрабіліся рэдкасьцю і ў краявідзе граюць другарадную ролю. Пасьля вайны зрабіліся надзвычайна рэдкімі ласі, а за апошнія гады значна зьменшыўся нават лік вавёрак. Месцам яшчэ ёсьць дзікі (Sus scrofa); на рацэ Бобрык і ў Нараўлянскім раёне на Славечне захаваліся апошнія сем'і баброў (Castor fiber)[1]). З іншых грызуноў варта адзначыць сонь—Myoxys dryas і M. glis, з якіх апошняя зьяўляецца тыповай для Заходняй Эўропы. З паўночных жывёлін зусім няма ў Мазыршчыне пардвы (Lagopus lagopus L.), дапасаванай да жыцьця на сфагнавых балотах. Паўднёвую мяжу гэтай птушкі Фядзюшын праводзіць удоўж лініі сашы Бабруйск—Слуцак[2]).

Характэрна для Мазыршчыны, як і для ўсяго Палесься, вялікая колькасьць вадзяных і балотных птушак, якія граюць у краявідзе вельмі прыметную ролю. Адзінкамі заходзяць сюды дроп-дудак (Otis tarda), палянік (Oedicnemus crepitans) і іншыя тыповыя прадстаўнікі стэпавай орнітофаўны.

З гадаў асаблівай увагі заслугоўвае чарапаха (Emys orbicularis), паўночная мяжа якой пралягае ад Рэчыцы на паўночны захад праз Бабруйск да пачаткаў Нёмну, а з вадаземнікаў—жарлянка (Bombina bombina), Hyla arborea і павітуха (Pelobates fuscus Laur). Наагул у параўнаньні з Паўночнай Беларусьсю Мазыршчына адзначаецца багацьцем на гадаў і вадаземнікаў[3]).

1) Фядзюшын, А. Аб біолёгіі і пашыранасьці бабра Castor fiber (L.) на Беларусі.

2) Фядзюшын, А. Справаздача аб экспэдыцыі для вывучэньня фаўны ўсходняй часткі БССР улетку 1925 г.

3) Аб мяккунох Мазыршчыны гл. працу Аўчыньнікава ў „Матар'ялах па флёры і фаўне Беларусі", выданых Інбелкультам, т. II.

IX.

Можна думаць, што першыя паселішчы чалавека ў Мазыршчыне не зьявіліся каля рэк, якія ў старыя часы былі паўсюды, а месцам засталіся і дагэтуль адзінымі шляхамі комунікацыі. У эпоху зьбіральнай гаспадаркі рэкі, дзякуючы сваім рыбным багацьцям, найбольш забясьпечвалі чалавека харчамі. Пазьней і аж да цяперашняга часу лярэчныя паплавы, якія пры дапамозе чалавека замянілі сабой даўныя дубовыя лясы, зрабіліся апорай гадоўлі жывёлы. З другога боку рэкі Палесься, дрэнуючы суседнія балоты, ствараюць сухія астраўкі, выгодныя для будаваньня паселішчаў.

Магчыма, што найбольш стала першапачатковыя насельнікі Па-



Цагельня ў ваколіцах Мазыра.

лесься аселі ў такім здаўна бязьлесным лярэчным раёне, якім магло быць, напрыклад, Тураўскае поле цёмнакаляровых глеб. Калі там у эпоху зьяўленьня чалавека нават і былі такія самыя густыя лясы, як і ў іншых раёнах Мазыршчыны, дык у кожным выпадку чалавек там іх зьнішчыў раней і раней як у іншых месцах перайшоў там да сталага земляробства. Урадлівасьць Тураўскага поля была, бясспрэчна, галоўнай прычынай панаваньня Тураву ў першыя пэрыоды гістарычнага жыцьця Палесься.

Мазыр, лежачы на плоскаўзвышшы лёэсаватых супяскоў і абапіраючыся на менш урадлівы, але больш абшырны земляробчы раён, таксама як і Пінск, мог і павінен быў высунуцца на першае месца толькі з цягам часу, значна пазьней, чымся Тураў.

У процілежнасьць урадлівым астраўком Тураўскаму і Мазырскаму, у якіх насельніцтва жыве досыць густа, рэшта Мазыршчыны, як гэта

відаць, напрыклад, з дазымэтрычнай карты В. П. Семенова Тянь-Шанского, дагэтуль застаецца блізка што пазбаўленай сталых насельнікаў. Асабліва рэдка залюднены раёны Князь-Азёрскага і Вяліка-Галоўскага балотных масываў.

І сярод акруг БССР Мазыршчына ў цэлым па гушчыні залюдненьня займае апошняе месца. Паводле перапісу 1926 г. у Мазыршчыне лічыцца 352811 насельнікаў пры прасторы ў 16031 кв. клм. Такім чынам на 1 кв. клм. прыпадае 22 чал. (26), тады як сярэдняя гушчыня па БССР раўняецца 39,6 і ў іншых акругах хістаецца ад 34,2 (Бабруйская акр.) да 51,3 (Віцебская акр.).

У 1897 г. былы Мазырскі павет меў гушчыню насельнікаў 11,2 на 1 кв. в. або 11,8 на 1 кв. клм., тады як у Наваградзкім павеце гушчыня залюдненьня дасягала 47,7 на кв. в. або 54,6 на 1 кв. клм.

Затое Мазыршчына адзначаецца шпарчэйшым узрастаньнем ліку і гушчыні насельнікаў. За 17 год з 1897 да 1914 г. гушчыня залюдненьня ў б. Мазырскім павеце павялічылася на 51,6%, а ў б. Наваградзкім—толькі 31,2%.

Прычына такой зьявы ляжыць ня толькі ў розьніцы прыроднага прыросту, але таксама ў міграцыях насельнікаў. З б. Наваградзкага павету што-год выяжджала многа перасяленцаў у Амэрыку і ў адлеглыя раёны б. Расіі, а Палесьсе, наадварот, было раёнам іміграцыі. На месцы асушаных балот і выкарчаваных лясоў зьяўляліся новыя пасёлкі перасяленцаў ня толькі з ўрадлівых густа-залюдненых куткоў самога Палесься, але таксама і з Украіны, Польшчы і асабліва з Паўночнай Беларусі. Пачынаючы ад заканчэньня прац заходняй экспэдыцыі па асушцы балот, гушчыня залюдненьня ў Палесьсі пачала ўзрастаць асабліва хутка.

Калі прыняць пад увагу толькі сельска-гаспадарчую плошчу, адкінуўшы лясы і няпрыгодныя землі, дык гушчыня сельскага люду ў Мазыршчыне будзе роўная 52,7 на 100 дзес.[1]), г. зн. досыць вялікая (у ўрадлівай Случчыне толькі 57,2) [1]).

Гэта тлумачыцца эксплёатацыяй лясоў і балот, якія не ўваходзяць у сельска-гаспадарчую плошчу, але граюць значную ролю ў гаспадарцы, дзякуючы выпасу на іх жывёлы.

## X.

Гарадзкое жыцьцё ў Мазыршчыне, як і ў іншых частках Палесься разьвіта слаба. Аднак, трэба асьцерагацца недаацэньваць ролі мястэчак, з якіх некаторыя маюць значэньне важных гандлёва-прамысловых асяродкаў.

У межах Мазырскай акругі В. Семенов-Тянь-Шанский [2]) палічыў за запраўдныя экономічныя гарады толькі Мазыр, Жыткавічы і Нароўлю. На жаль, ён пры вызначэньні гарадзкога характару паселішчаў з-за недахвату патрэбных статыстычных матар'ялаў мусіў адмовіцца ад галоўнай прыметы гарадоў--проценту нясельскіх заняткаў у кожным паселішчы—і кіраваўся толькі данымі аб гандлёва-прамысловай бойкасьці паселішчаў, г. зн. аб гандлёва-прамысловых зваротах, падзеленых на лік насельнікаў гэтых паселішчаў.

За 1923 год мы маем прыблізныя даныя аб нясельскіх занятках у галоўных паселішчах Мазыршчыны, а таксама зьвесткі аб ліку крам у гэтых поселішчах і аб іх зваротах за 1923—24 г. Перапіс 1926 г.

---

[1]) Бяз Юравіцкага раёну. Гл. „Статыстычны Штогоднік 1923—24", выд. ЦСУ, Менск, 1925.

[2]) Город и деревня Европейской Росии. СПБ. 1910 г.

пакуль што даў толькі агульны лік насельнікаў па кожным паселішчы, а таксама процант гаспадарак несялянскага тыпу па дробных паселішчах. Комбінуючы гэтыя даныя, мы можам з ніжэйпаказанай табліцы зрабіць некаторыя вывады аб паселішчах гарадзкога тыпу ў Мазырскай акрузе.

| Назва паселішча | Лік насельнікаў у 1926 | Лік насельнікаў у 1923 | Лік асоб, якія жылі за кошт нясельскіх заняткаў у 1923 г. | Лік крам у 1923 г. | Іх зварот у тыс. р. за паўг. з 1-X 1923 да 1-IV 1924 | Лік гаспадарак у 1926 | У т. л. несялянскага тыпу |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Горад Мазыр | *9623* | 8323 | 8040 | 157 | 946 | — | — |
| „ Каленкавічы | *6152* | 5625 | 4624 | 89 | 242 | — | — |
| „ Пятрыкоў | *5689* | 5774 | 4856 | 55 | 182 | — | — |
| „ „ з вёскай Белка | 6401 | — | — | — | — | — | — |
| Мястэчка Тураў | 5393 | 6217 | *2407* | 22 | 50 | — | — |
| „ „ з прдм. Заяцель і Запясочча | 7182 | — | — | — | — | — | — |
| „ Жыткавічы | 2975 | 2895 | *1350* | 27 | 50 | — | — |
| „ Капаткевічы | 2617 | 2439 | *1104* | 29 | 83 | — | — |
| „ Нароўля | *2513* | 2550 | 1789 | 26 | 71 | — | — |
| Сяло Юравічы | 3081 | 2729 | *1369* | ? | ? | 694 | 378 |
| „ Азарычы | *1668* | 1166 | 1139 | 31 | 23 | — | — |
| „ Скрыгалаў | 1938 | 1994 | *625* | 5 | 12 | — | — |
| „ Лельчыцы | 1457 | 1360 | *640* | 5 | 38 | 338 | 201 |
| „ Ельск | *927* | 1434 | 747 | 14 | 88 | 244 | 182 |
| „ „ з пас. Новы Каралін | 1114 | — | — | — | — | 291 | 218 |
| „ „ „ з ст. Ельск | 1170 | — | — | — | — | 309 | 236 |
| „ Скароднае | 831 | — | *503*(26)? | — | — | 180 | 109 |
| Пасёлак Капцэвічы | *1056* | — | — | — | — | — | — |
| „ Птыч | 683 | — | — | — | — | 171 | 143 |
| „ „ з станцыяй | *727* | — | — | — | — | 183 | 155 |
| „ Пасталы | *502* | — | — | — | — | 194 | 194 |

З табліцы відаць, што нясельскія заняткі пераважваюць у Мазыры, Каленкавічах, Пятрыкове, Нароўлі, Юравічах, Азарычах, Ельску, Скародным, Птычы і Пасталах. Тое самае можна сказаць і адносна фабрычна-вакзальнага пасёлка Капцэвічы, хаця офіцыйных даных аб нясельскіх занятках у ім няма. Адносна Лельчыц даныя 1923 і 1926 г. супярэчаць адны другім. У іншых паселішчах пераважваюць сельскія заняткі.

Аднак трэба прызнаць, што ў кожным з іх процант нясельскіх заняткаў даволі вялікі. Фактычна ў кожным з іх мы маем злучэньне маленькага паселішча гарадзкога тыпу з аднэй або некалькімі вёскамі. Экономічна асяродкі гэтых паселішчаў зьяўляюцца калі не запраўднымі гарадамі, дык усё-ж такі тыповымі паселішчамі гарадзкога тыпу, а з гэтай прычыны іх трэба прымаць пад увагу пры вылучэньні гарадзкой люднасьці ў акрузе. На жаль, вельмі цяжка выявіць дакладна лік асоб, якія жывуць у асяродках гэтых пасёлкаў мяшанага тыпу, але ўмоўна можна палічыць замест усёй людпасьці асяродкаў людпасьць,

якая ў гэтых пасёлках жыве за кошт нясельскіх заняткаў. Тады для падлічэньня гарадзкой люднасьці па ўсёй Мазыршчыне нам прыдзецца зьвяртаць увагу на лічбы, паказаныя ў табліцы курсывам. Для Юравіч падкрэсьлена не агульная лічба, а таксама лічба нясельскай люднасьці паводле даных 1923 г., бо там, хаця нясельскія заняткі і пераважваюць, але вельмі мала перавышаюць 50%, і значыць паселішча складаецца з амаль-што роўных мястэчка і сяла. Для Скароднага падкрэсьлена лічба, вылічаная за 1926 г. шляхам пропорцыянальнага падзелу агульнага ліку насельнікаў адпаведна ліку гаспадарак сялянскага і несялянскага тыпу. Падлічыўшы падкрэсьленыя лічбы, маем 36882 або 10,45% ад усяго насельніцтва акругі.

Вёскі Палесься, у сувязі з недахватам выгодных да сядзібы зямель і ў зьвязку з імкненьнем люднасьці будавацца каля рэк, адзначаюцца даволі значнай велічынёй. Паводле Ваейкава [1]), сярэдняя колькасьць насельнікаў вёскі ў б. Мазырскім павеце ў 1905 г. дасягала 271 чал., тады як у суседняй Бабруйшчыне толькі 198, у Меншчыне 177, а ў б. Віцебскім павеце нават 56. У 1924 г. сярэдняя залюдненасьць вёскі па Мазырскай акрузе (без Юравіцкага раёну) была роўнай 207 чал. У Жыткавіцкім раёне яна спадала да 90, у Каленкавіцкім падымалася да 493.

Паводле Заборскага [2]), для Палесься характэрна асаблівая форма вёсак, так званая widlica, складзеная з дзьвёх роўналежных вуліц, злучаных завулкамі, або з дзьвёх вулак, якія пасярэдзіне вёскі крыжуюцца. Гэта нешта сярэдняе паміж сярэдня-беларускай вуліцоўкай— г. зн. вёскай, выцягнутай абапал аднэй вуліцы,—і украінскай купавой вёскай з многімі вуліцамі і завулкамі. Асобныя буйныя паселішчы Мазыршчыны, напр. сяло Ляскавічы, Скрыгалаў, сялянскія часткі Тураву і інш. маюць нават тыповую купавую форму. Аднак, побач з гэтым сюды пранікаюць з поўначы і тут вельмі пашыраны нават на поўдзень ад Прыпяці агульна-беларускія вуліцоўкі, і нават хутары ды маленькія вёскі—„прысёлкі“ (Weiler).

Вёскі Мазыршчыны звычайна здалёк кідаюцца ў вочы, дзякуючы высокім азяродам для сушкі снапоў. Палескія азяроды адрозьніваюцца ад паўночна-расійскіх „зародаў“ перш-на-перш тым, што ніколі не разьбіраюцца. Ёўні існуюць побач з азяродамі, і іх паўднёвая мяжа блізка што супадае з беларуска-украінскай этнографічнай граніцай.

Вясковыя хаты звычайна цягнуцца радамі і франтонамі выходзяць на вуліцу. Уваход блізка шта заўсёды з шырокага боку хаты праз падворак.

Стрэхі хат у большасьці выпадкаў драўляныя з дору, двохскатныя. Гаспадарчыя будынкі крыюцца саломай і маюць часьцей чатырохскатную страху.

Чым далей на поўдзень, тым часьцей сустракаюцца хаты з пабелкай навокала акон. Гэта ўжо пераход да украінскіх беленых хат. Перавага хат з пабелкай навокала акон або зусім пабеленых хат пачынаецца ўжо на Валыні, па той бок граніцы Мазыршчыны з УССР. Такім чынам мяжа гэтай перавагі ў агульных рысах супадае з этнографічнай мяжой паміж беларусамі і украінцамі, якая разьдзяляе перавагу ўкраінскіх і беларускіх уплываў у адзеньні, звычаях і фольклёры. Як мы казалі, гэтая мяжа адпавядае паласе абшырных балот тыпу Галы. На поўнач ад гэтай мяжы аж да Прыпяці, паводле Карскага, у мове паляшукоў яшчэ пераважваюць паўночна-украінскія

[1]) А. Воейков. Людность селений Евр. России и Зап. Сибири. Изв. Р. Г. О. XLV. 1909, вып. I—III.

[2]) B. Zaborski. O kształtach wsi w Polsce i ich rozmieszczeniu. Kraków 1927.

ўплывы, але быт і экономічныя інтарэсы ставяць усіх паляшукоў бліжэй да беларусоў, як да украінцаў.

Часам паляшукоў разглядаюць як патомкаў таго славянскага народу, які палажыў пачатак з аднаго боку украінцам, з другога боку—беларусам. *Праф. Воўкаў* лічыў іх за мэханічную мешаніну беларусаў і украінцаў. Ёсьць, аднак, падставы лічыць іх за больш-менш аднастайную масу. Антраполёгічна яны адзначаюцца выразнымі стойкімі прыметамі. Яны—брахікефалы, ніжэй ад сярэдняга росту, часьцей сьветлавалосыя, чымся брунэты, часьцей маюць шэрыя, а ня цёмныя валасы. У параўнаньні з украінцамі, паляшукі, як і паўночныя беларусы, зьяўляюцца чысьцейшымі славянамі без падмешкі турэцкай крыві. Сюды не пранікалі горды печанегаў, полаўцаў і татар, якія расплыліся ў масах украінскага люду. Можна думаць, што ў эпоху вандроўных навал на Украіну ў Палесьсе накіроўваліся толькі ўцекачы-славяне з стэпавай і лесастэпавай Украіны, але гэта яшчэ ня былі сучасныя нам украінцы.

Паляшукоў аднак нельга лічыць за спрадвечных насельнікаў Мазыршчыны. Ёсьць падставы для дапушчэньня, што яны прышлі сюды з поўдня. На гэта, між іншым, паказваюць назвы старых паселішчаў, розных Забалацьцяў, Зарэччаў, Загор'яў, якія ляжаць на поўнач ад адпаведных балот, рэк і ўзгоркаў. На жаль, вывучэньне топонімії Мазыршчыны пакуль-што толькі пачалося.

А. Харузін [1]) кажа, што хата стварылася з чарацянай буды, аблепленай глінай. З цягам часу такі будан ператварыўся ў будынак з чатырохбаковай страхой, падобны да украінскай ляпянкі. У Палесьсі чатырохбаковая страха замянілася двохскатнай, а матар'ялам хаты зрабілася дрэва, бо гліняныя хаты ў вільгатным клімаце Палесься аказаліся няпрыгоднымі. Але і тут больш даўны тып хаты, прадстаўлены сучаснымі гаспадарчымі будынкамі і хатамі беднякоў, мае чатырохбаковую страху і наагул стаіць бліжэй да украінскай хаты. Спачатку драўляную хату, калі яна паходзіць з глінянай, маглі па звычаі тынкаваць і бяліць, як гэта і цяпер робіцца ў Паўночнай Украіне. Потым ад тынкаваньня і бяленьня захавалася толькі пабелка каля вакон, і нарэшце яна зусім зьнікла.

Эволюцыя палескай хаты магла быць такой толькі ў тым выпадку, калі насельнікі Палесься прышлі адкульсьці з стэпаў, дзе яны мусілі і маглі будаваць жыльлё з гліны.

## XII.

У быце і гаспадарцы паляшукоў захавалася многа старасьветчыны. Шмат якія вёскі, лежачы сярод непраходных балот, маюць магчымасьць зносіцца з знадворным сьветам толькі ўзімку па лёдзе або ўлетку на чаўнох па рэках і каналах. Гаспадарка ў такіх раёнах, бязмаль адрэзаных ад усяго сьвету, павінна быць экстэнсыўнай і мусіць забясьпечваць сама сябе ўсімі патрэбнымі рэчамі хатняга ўжытку.

Але на ўсходзе, дзе апрача шырынёвай лініі чыгункі ёсьць яшчэ чыгунка Жлобін—Карасьцень і дзе часьцей сустракаюцца астраўкі адносна ўрадлівай глебы, гаспадарка прыметна пасунулася наперад, падпала ўплыву рынкаў і інтэнсыфікавалася. У заходняй Мазыршчыне інтэнсыўнасьць гаспадаркі зьмяншаецца на поўнач і на поўдзень ад Прыпяці, як галоўнай артэрыі, якая зьвязвае краіну з рынкамі.

Зямлякарыстаньне ў Мазыршчыне падворнае; цераспалосіца і далёказямельле выяўлены вельмі рэзка.

[1]) Славянское жилище в Северо-Западном крае. Вильна, 1907.

Зямля ў буйных вёсках падзяляецца звычайна на тры паясы, якія концэнтрычна разьмешчаны навокала вёсак [1]). Першы пояс, беспасрэдна прылеглы да сядзіб, часам урэзаны паміж гумнамі і падворкамі, добра ўгноены, засяецца бульбай ды гароднінай. Другі, больш адлеглы пояс зямель, так званыя палеткі, цягнецца навокала вёскі не далей за $1^1/_2$—2 клм. Тут глебу таксама гнояць і звычайна засяюць без перапынкаў, прыблізна ў такім парадку: 1) бульба па гнаі, 2) жыта, 3) грэчка. Папару на палетках ня бывае. Трэці пояс, закінуты найдалей ад сядзіб, часта складаецца з астраўкоў сярод балот і лясоў. Гэта так званая стараполіца, якую зусім ня гнояць, бо вывазка гною туды абыходзіцца занадта дарага, або гнояць асаблівым так званым кашарным спосабам. Гэты спосаб заключаецца ў тым, што статак авечак і маладога быдла заганяецца на ноч і на адпачынак у час пашы на вучастак стараполіцы, які падлягае ўгнаеньню. Статак пасьвіцца ў працягу тыдня па чарзе кожным гаспадаром, які за гэта мае права заганяць на свой вучастак. За лета кожны гаспадар пасьпявае пасьвіць статак 2-3 разы і, такім чынам, гноіць каля $^3/_4$ дзесяціны.

Звычайна пасьля кашары на стараполіцы сеюць жыта, потым грэчку і зноў жыта, а затым кідаюць поле ў аблогу на год ці два. Аднак кашары магчымы толькі пры наяўнасьці вялікіх прастораў для выпасу і пры самых экстэнсыўных формах гадоўлі жывёлы. Без кашары-ж старопаліца застаецца нягноенай і ў працягу 5—10 год ляжыць аблогай, пасьля чаго адзін год сеюць жыта або грэчку.

Трохпалёўкі ў Мазыршчыне блізка што няма, а сыстэма ральніцтва зьяўляецца комбінацыяй інтэнсыўнай вольнай сыстэмы на пагноях з надта экстэнсыўнай аблогавай на стараполіцы.

Большая частка зямлі яшчэ і дагэтуль занята ў Мазыршчыне лясамі ды балотамі, але процант балот у зьвязку з мэліорацыяй хутка зьмяншаецца, прычым за іх кошт узрастае плошча ворнай зямлі і асабліва сенажацяй. За 30 гадоў з 1887 да 1917 г. у б. Мазырскім павеце разьмеркаваньне зямлі па ўжыткоўнасьцях зьмянілася так:

| | 1887 | 1917 |
|---|---|---|
| Ворная зямля . . . | 13,0 | 15,6 |
| Сенажаць . . . . | 6,2 | 17,0 |
| Выган . . . . | 2,1 | 6,3 |
| Лес і хмызьняк . . | 40,1 | 43,6 |
| Іншая прыгодная зямля . | 0,7 | 0,7 |
| Неразьмяркована па ўжыткоўнасьцях . . | — | 2,3 |
| Разам прыгоднай зямлі . | 61,8 | 85,5 |
| Няпрыгоднай зямлі . . | 38,2 | 14,5 |

Разворанасьць такім чынам засталася вельмі нізкай. Пры гэтым з усёй прасторы ворнай зямлі толькі 61,2% (1927 г.) занята засевам, пад лубінам толькі 0,1%, пад незавораным папарам—3,0% і пад аблогай 35,7%.

Зразумела, што земляробства ня толькі не дае тавараў для вывазу, але нават ня можа забясьпечыць збожжам мясцовую люднасьць. У 1911—13 гг. чысты прывоз збожжавых продуктаў у Мазыршчыну складаў 215 тыс. пудоў і, хаця ў час разрухі хлеб адсюль вывозіўся, але ў 1924-25 г. сюды зноў было прывезена 42 тыс. пуд. збожжавых грузаў.

[1]) Гл. А. Смоліч „Нарыс сыстэмы земляробства Мазырскага Палесься“.

Толькі бульбы вывозіцца адгэтуль трохі больш, чымся прывозіцца (13 тыс. пудоў у 1924-25 г., ня лічачы вывазу бульбянай гарэлкі).

У пропорцыях палявых культур зьвяртае на сябе ўвагу вялікі процант грэчкі і бульбы. У 1927 г. азімае жыта займала тут 45,4%, ярыца 0,4%, пшаніца-азімка 1,2%, яравая пшаніца 1,6%, ячмень 3,5%, авёс 7,1, грэчка 16,5, проса 4,8, струковыя расьліны (гарох, боб і сачыўка) 0,2, лён 2,8, каноплі 1,1, бульба 13,9, засеўныя травы 0,7. Вялікі процант грэчкі тлумачыцца панаваньнем пескавых глеб; інтэнсыўная культура палеткаў адпавядае высокаму проценту бульбы. Мяккі клімат зьяўляецца прычынай высокага ў параўнаньні з рэштай БССР проценту проса. Нізкі процант засеўных траў стаіць у сувязі з багацьцем Мазыршчыны натуральнымі сенажацямі і выганам.

Сярод грачаных пастораў Мазырскай акругі рэзка выдзяляецца Тураўскі востраў цёмна-каляровых глеб, які можна назваць аўсяна-пшанічным. Аўса там сеюць каля 20%, азімай пшаніцы 11%, наадварот грэчкі блізка што ня сеюць. Рэшту Мазыршчыны можна падзяліць на 6 сельска-гаспадарчых раёнаў: 1) паўднёва-заходні (б. воласьці: Танеская, Лельчыцкая, Буйнавіцкая, Скараднянская, паўднёвая частка б. Мялешкавіцкай, да пэўнай меры Дзёрнавіцкая) лясны, самы экстэнсыўны, грачана-прасяны раён з адносна невялікім процантам азімага жыта (менш за 36,5%) і вялікім процантам ярыцы (3,5—8,8%), 2) таксама лесабалотны экстэнсыўны паўночна-заходні раён (б. Дзякавіцкая, Жыткавіцкая, Грабаўская, да пэўнай меры Камаровіцкая вол.), 3) сярэдні бульбяна-грачаны раён на поўнач ад Прыпяці (б. Ляскавіцкая, Пятрыкоўская, Лучыцкая, Капаткевіцкая вол.), 4) паўночна-ўсходні ільняны раён (б. воласьці Крукавіцкая, Карпавіцкая, Азарыцкая, Даманавіцкая, Дудзіцкая, Аўцюцевіцкая), 5) густазалюднены раён лёэсаватых глеб Мазырскага ўзвышша (б. воласьці Скрыгалаўская, Слабадзкая, паўн. частка Мялешкавіцкай, часткова Міхалкаўская), з невялікім травазасевам і наагул найболей інтэнсыўны, 6) паўднёва-ўсходні бульбяны раён па ніжняй Прыпяці.

Экстэнсыўнасьць гаспадаркі ў Мазыршчыне нельга тлумачыць, як гэта звычайна робіцца выключна культурнай адсталасьцю яе насельнікаў, таксама як экстэнсыўнасьць земляробства ў заходніх штатах Паўночнай Амэрыкі нельга тлумачыць „някультурнасьцю“ амэрыканцаў. Прогрэсыўныя элемэнты наглядаюцца ўва ўсіх галінах мазырскай гаспадаркі і свабодна жывуць і разьвінаюцца побач з гэтай экстэнсыўнасьцю, якая залежыць ад рынычных умоў. Між іншым тут ужо зьніклі прымітыўныя земляробчыя прылады, і нават слынную палескую саху можна ўбачыць надзвычайна рэдка і то толькі ў самых глухіх кутках.

Галоўным багацьцем Мазыршчыны зьяўляюцца яе сенажаці, ня вельмі продукцыйныя, але дужа вялікія. У той час як у сярэднім па БССР на 100 дзесяцін ворнай зямлі прыпадае толькі 46 дзес. сенажаці, у Мазыршчыне—109. У дадатак да гэтага тут многа больш, як у іншых акругах рэспублікі, выгану ды яшчэ лясы і так званыя няпрыгодныя землі выкарыстоўваюцца сялянамі для выпасу.

Зразумела, што асноўным заняткам насельнікаў побач з ральніцтвам зьяўляецца гадоўля жывёлы. Гэтая галіна сельскай гаспадаркі мае найвялікшае таварнае значэньне. У 1911-13 г. г. з б. Мазырскага павету вывозілася 6615 штук быдла і 17 тыс. пудоў мяса. Нават зараз-жа пасьля гаспадарчай разрухі пасьля імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайны ў 1924-1925 г. Мазырская акруга здолела вывезьці 4151 гал. быдла і 3 тыс. пуд. мясных продуктаў. Да вайны вялікія гурты жывёлы пераганаліся грунтавымі дарогамі аж у Менск.

У 1923 г., паводле даных бюджэтнага абсьледваньня, у Буйнавіцкай воласьці рынычнае адчужэньне ў серадняцкіх гаспадарках на 75,6% складалася з продуктаў гадоўлі жывёлы, на 0,7% з продуктаў земляробства і на 14,2% з продуктаў пабочных промыслаў.

Паводле даных 1916 г. у межах цяперашняй Мазырскай акр., ня гледзячы на блізкасьць фронту, на 100 гаспадарак прыпадала 451,1 штук быдла. У паўднёвых валасьцях на 100 гаспадарак прыпадала асабліва многа быдла, а ўласна ў б. Буйнавіцкай вол. 672,8, а ў б. Скараднянскай аж 672,8. Найменш быдла трымалі насельнікі валасьцей, якія ляжаць каля Прыпяці.

Гадоўля быдла адзначаецца яскрава выяўленым мясным кірункам. Процант дойных кароў у статку быдла параўнаўча невялікі, разы ў 2 меншы, чымся ў Віцебшчыне ці Меншчыне. У 1916 г. на 100 штук быдла ў Мазыршчыне прыпадала 41,3 кароў. На мяса гадуюць маладняк і валоў, якія перад продажам на мяса скарыстоўваюцца, як працоўная жывёла. У 1916 г. ў б. Мазырскім павеце было 19107 валоў (у той час як у б. Менскім пав.—114, а ў Магілеўскім толькі 5). У сярэднім па акрузе на 100 гаспадарак, паводле даных 1916 г., прыпадае 53,9 валоў, а ў б. Скараднянскай воласьці аж 122,5.

Побач з гадоўляй быдла на мяса вельмі пашырана ў Мазыршчыне гадоўля сьвіней. Аднак у гэтай справе Мазыршчына адстае ад сярэдня-беларускіх раёнаў. Праўда на 100 гаспадарак тут прыпадае паводле перапісу 1916 г. 215,0 сьвіней (у Случчыне 109,8), але ў параўнаньні з колькасьцю быдла сьвіней тут нямнога (у 1916 г. на 100 шт. быдла ў Мазыршчыне было 66,9 сьвіней, тады як у б. Барысаўскім павеце 156,6, а ў Ашмяншчыне аж 229,1).

Гадоўля авечак наагул разьвіта слаба. У 1916 г. на 100 душ сельскага люду прыпадала 44,2 авечак (у б. Клімавіцкім павеце 190,8, у Рослаўскім пав. Смал. губ. 247,8).

Мясны кірунак гадоўлі быдла тлумачыцца адарванасьцю Палесься ад рынкаў, а слабое разьвінаньне гадоўлі авечак—переважна мокрых выганаў і сенажацяй, якія спрыяюць размнажэньню матыліцы (Distomum lanceolatum). Гадоўля птушак, ня гледзячы на выгодныя ўмовы, у Мазыршчыне пашырана слаба. У 1924 г. тут прыпадала на 100 гасп. 261 курыца, 3,8 качкі, 9,1 гусей, 0,3 індыкоў, г. зн. менш як ува ўсіх іншых акругах БССР.

З другарадных галін сельскай гаспадаркі варта адзначыць садоўніцтва, пчалярства, рыбацтва і гадоўлю рыбы ў ваколіцах возера Белага. Прымітыўнае пчалярства з калодамі на дрэвах у лесе і з дапасаваньнямі супроць даўно ўжо ня страшных з прычыны сваёй малалічнасьці медзьвядзёў дагэтуль яшчэ кідаецца ў вочы.

Для эканомічнага разьвінаньня Мазыршчыны надзвычайна вялікае значэньне мае лес. Лес дае галоўны продукт вывазу, лес дае базу для фабрычнай прамысловасьці, лес дае шмат заработкаў сялянству па павале лесу, дастаўцы яго на рум і сплаве. Пад лесам у Мазырскай акрузе знаходзіцца каля 37,5% усяе зямлі. У 1913 г. станцыі чыгункі Жыткавічы, Капцэвічы, Птыч і Мазыр (Каленкавічы) вывезьлі 5118000 пуд. лясных грузаў, а па рэках (у 1912 г. было вывезена) 40199000. У 1923-24 г. усе станцыі чыгункі з Мазыршчыны вывезьлі да 5.000.000 пудоў, але па рэках было вывезена ўжо толькі 2500000 пудоў. Зьмяншэньне вывазу па рэках у значнай меры залежыць ад пашырэньня апрацоўкі дрэва на мясцох, але таксама і ад спыненьня вывазу на захад у сувязі з утварэньнем мяжы з Польшчай, якая разрэзала вадазбор Прыпяці на 2 часткі.

Нетракапальная справа ня мае ў Мазыршчыне сур'ёзнага значэньня, калі ня лічыць здабываньня торпу, якое хутка пашыраецца за апош-

нія гады. Небагатыя паклады бурага вугалю пад Мазыром пакуль што не выкарыстоўваюцца. Слаба разгорнутая прамысловасьць пры багацьці на лес не дазваляе чакаць значных посьпехаў у справе здабываньня падземнага апалу. Пабудова буйных электрастанцый, якія працавалі-б па торпе, нерацыянальна ў сувязі з адсутнасьцю спажыўцоў электрычнасьці.

Апрацоўчая прамысловасьць, ня лічачы хатняга вырабу тканіны ды адзеньня і саматужнага вырабу драўлянай ды глінянай пасуды, не пашырана.

Фабрычная прамысловасьць абмяжоўваецца перапрацоўкай харчовых продуктаў і дрэва. Асабліва пашырана броварная і крухмальная прамысловасьць, зьвязаная з багацьцем краіны на бульбу. У сучасны момант робяцца захады да замены на броварах бульбай кіяхоў, з якіх пачалі вырабляць гарэлку ад часу разбурэньня гаспадаркі пасьля грамадзянскай вайны.

Лесапільна-фанерная справа, прадстаўленая буйнымі пільнямі і фабрыкамі ў Капцэвічах, Пасталах і Мазыры, паспела ўжо цалкам адрадзіцца. Наяўнасьць адпаведных умоў дазваляе спадзявацца на пашырэньне ў будучыні сярніковай, папяровай і скураной прамысловасьці. Прамысловасьць па сухой перагонцы дрэва прадстаўлена дробнымі саматужнымі прадпрыемствамі.

Галоўнай перашкодай для эканомічнага прогрэсу Мазыршчыны зьяўляецца недахват выгодных палепшаных дарог. Але ўжо цяпер, пасьля таго, як пралажаны дарогі Бранск-Берасьце і Жлобін-Карасьцень, Мазыршчына гэтак пасунулася наперад, што старое прадстаўленьне аб ёй, як аб забытым і забітым краі, у якім найцікаўнейшай зьявай лічылі хваробу каўтун, даўно зрабілася анахронізмам.

---

**А. Крукоўскі.**

# Карысныя выкапні.

Шырокіх досьледаў па вывучэньні карысных выкапняў на Мазыршчыне яшчэ не праведзена, а таму і поўных вестак аб гэтым падаць ня можна. Профэсар *П. А. Туткоўскі*, на падставе сваіх досьледаў прызнае, што выдатных тут выкапняў няма, але ёсьць значныя запасы вельмі неабходных мінэральных матар‘ялаў, сырцу.

Вынайдзеныя карысныя выкапні, паводле профэсара *Туткоўскага*, падзяляюцца на наступныя катэгорыі: а) матар‘ялы для гліняных вырабаў, б) матар‘ялы для шкляных вырабаў, г) матар‘ялы мінэральнага апалу, д) балотныя руды і мінэральныя фарбы, е) мінэральнае ўгнаеньне і ж) будаўнічыя матар‘ялы.

Матар‘ялы для гліняных вырабаў (за выключэньнем вырабаў фарфару і парцаляны[1]) раскіданы ў шматлікай колькасьці ў розных мясцох акругі ў выглядзе морэнных валунных і перадледавіковых безвалунных суглінкаў. Лепшыя гатункі перадледавіковых суглінкаў могуць быць скарыстаны для ганчарных вырабаў, а ўсе для цагляных.

Так, паводле досьледаў профэсара *Туткоўскага*[2]), перадледавіковыя безвалунныя суглінкі падсьцілаюць больш маладыя адклады на тэрыторыі акругі, а на паверхні выходзяць пераважна на плошчы, паўночнаю мяжою якое зьяўляецца р. Прыпяць, з поўдня і ўсходу лінія праз *в. Букчу* Тураўскага р.—*в. Дуброву* Лельчыцкага р. да р. Прыпяці. Выхады іх на паверхню і няглыбокае заляганьне на памянёнай плошчы ёсьць на

¹) Паводле досьледаў профэсара і акадэміка *П. А. Туткоўскага.*

²) Геологический очерк Минской губ. Вып. I—Киев, 1926 г. Геологические исследования на территории б. Минской губ. ч. II. Витебск.

абшарах Лельчыцкага р. каля дарогі паміж *в. Данілегі і Дубровай* на глыбіні да 2-х мэтр. (слаісты буры суглінак), каля в. Дубровы (буры) на глыбіні да 2-х мэтраў, Уборская-Рудні на глыбіні да 2-х мэтраў; на абшарах Пятрыкоўскага раёну каля *в. Лясkавічы*, на глыбіні да 4-х мэтраў (шэры), на захад ад *в. Макарыч*, у абрыве берагу Прыпяці, на глыбіні да 5 мэтр., таўшчыня пласту 1 мэтр. (шэры), на глыбіні 3 саж. у абрыве Прыпяці каля *г. Пятрыкова* буры па дарозе з *в. Вятчына ў Грабаў*, у 6 клм. ад 1-й, залягае на глыбіні зьверх мэтру (шэры і буры), на паўночным ускрайку в. Грабаў, на глыбіні да 2-х мэтр. (шэры слаісты). У Тураўскім раёне ў ваколіцах *в. М.-Малешава* (буры), ад в. Марыямпаля ў абшарах паміж правым берагам Прыпяці і левым берагам рэчкі Сьцьвічі, у ваколіцах м-ка *Турава, в. Заяцельлі Дварэц, Чэрнічы, Пагост, Сьляпцы, Сямурадцы, Старажоўцы* (суглінак вільгатны цёмна-буры, сухі-сьветла-буры), на абшарах правага берагу Прыпяці ад *Альман* да *в. Перарова* (тут суглінкі такога тыпу, што і для Турава, каля вёскі-ж Перарова яны з дамешкай мэргелю), каля *в. Ганеж* (цёмна-буры тыпу Тураўскага, крыху слаісты) залягае на глыбіні зьверх мэтру, паміж *в. Букчай* і *Прыбалавічам*. (Прыбалавічы Лельчыцкага р.—буры), паміж Танежам і Салагубавым (буры), каля *в. Азяраны*, на правым бер. р. Сьцьвігі (Зьдзвігі), к усходу ад тае-ж вёскі (буры). Апрача гэтага на тэрыторыі Тураўскага раёну шэры перадледавіковы суглінак сустракаецца каля м-ка *Турава* (праслойкі), *в. Запясочча, Азяран, Перарова* (праслойкі).

Па тых-жа досьледах морэнныя (ледавіковыя) валунныя суглінкі выходзяць на паверхню, або залягаюць блізка ў Лельчыцкім на поўнач ад *в. Астражанкі*, у Пятрыкоўскім раёне каля в. і саўхозу *Дарашэвічы*, на ўсход ад *в. Галубіцы*, на захад ад *х. Лобча* тоўшчаю ў 3 мэтр., тут-жа суглінкі выступаюць у абрыве берагу р. Прыпяці, на сядзібе *в. Макарыч*, з вялікаю колькасьцю валуноў, на ўсход ад тае-ж вёскі, за палосаю пяскоў, на левым беразе Прыпяці паміж *г. Пятрыковам* і *в. Макарычы*, на вуліцах г. Пятрыкова і ў абрыве берагу Прыпяці каля Пятрыкова, каля *в. Слабада-Краснасёлкі*.

Па матар'ялах Мазырскага акруговага т-ва краязнаўства, дасланых з розных месц настаўнікамі, членамі т-ва краязнаўства і паводле ўласных назіраньняў яшчэ трэба адзначыць выхады суглінкаў на паверхню і блізкае заляганьне ў іншых мясцох акругі (падаецца апісаньне, далёка яшчэ ня поўнае).

### У Азарыцкім раёне.

Чырвоныя, валунныя, цагляныя суглінкі залягаюць у вуроч. *Цагельня* (яно на ўсход ад м. Азарычы, у адлегласьці 2-х клм.) на плошчы да 3 гэкт., на глыбіні 5 мэтр. і больш ад паверхні, у *вур. Пчальнік*, у адлегласьці 1 клм. ад *в. Салавейкі* (Азарыцкага с.с) на глыбіні $^{1}/_{4}$ мэтру ад паверхні; на паўночны захад і ў адлегласьці 3-х клм. ад *в. Вялікія-Ліцьвінавічы* (Азарыцкаг с/с.), дзе суглінкі займаюць плошчу да 5 дзес., залягаючы на глыбіні да 5 мэтр. ад паверхні. Шэры суглінак каля Азарыч знойдзены на сядзібе беларускае сямілеткі, на глыбіні 1 мэтра ад паверхні, а таксама каля балота, якое прылягае да аграномічнага пункту. У Валосавіцкім с/с. суглінак сустракаецца ў наступных мясцовасьцях: у *вур. Забродзьдзе* (на захад ад *в. Мушычы*, у адлегласьці 0,5 клм.) на плошчы да 3-х гэкт., на глыбіні да 0,5 мэтр. ад паверхні (суглінак чырвоны, валунны), у *вур. Кражэ* (на паўдн. захад ад вёскі. у адлегласьці 2 клм.) на плошчы да 45 гэкт., на глыбіні 1 мэтр. ад паверхні (валунны, чырвоны), у *вур. Летнае)* на паўдн. зах. ад вёскі, у адлегласьці 2 клм., на плошчы да 15 гэкт.. на глыбіні 1 мэтр. (чырвоны. валунны), у *вур. Лясоўшчына* (на паўдн. зах. ад вёскі) у адлегласьці 2 клм., на плошчы да 5 гэкт., на глыбіні 1 мэтра ад паверхні (чырвоны, з праслойкамі шэрага, валунны), у *в. Перахад* (на захад ад вёскі ў адлегласьці 1 клм.), на плошчы да 42 гэкт., на глыбіні да 0,75 мэтр. (шэры) у *в. Падліпкі* (на паўдн. захад ад вёскі, у адлегласьці 1,5 клм.) на плошчы 1 дзес., на глыбіні 0,5 мэтра (чырвоны, з праслойкамі шэрага, валунны), у *в. Язьмінкі* (на захад ад вёскі, у адлегласьці 1 клм.) на плошчы 0,5 дзес., на глыбіні да 2-х мэтраў ад паверхні (жаўтаваты, валунны), у *в. Падгашчы*, на ўсход ад *в. Некрашы*, у адлегласьці 0,5 клм., на плошчы 2 дзес., на глыбіні 0,5 мэтра (чырвоны, валунны), у *в. Падзеля* (на поўдзень ад вёскі, у адлегласьці 0,5 клм., на плошчы 3 гэкт., на глыбіні 1 мэтра (чырвоны, валунны). Каля *в. Крукавічы* (Крукавіцкага с/с.), у *вур. Лясьніца* (на поўдзень ад вёскі, у адлегласьці 2 клм.), на глыбіні $^{3}/_{4}$ арш. ад паверхні (чырвоны, валунны). У Каранёўскім с/с. каля *в. Карані* на плошчы 200 кв. саж., на глыбіні 1,5 арш. (чырвоны). У Людзьвінаўскім с/с. каля *в. Вузнаж* у вур. Глінішча на поўдзень ад вёскі, у адлегласьці 1 клм.), на плошчы 2536 кв. мэтр, на глыбіні 0,5-1 мэтр. (чырвоны, валунны), у *вур. Крупіцы* (на захад ад вёскі, у адлегласьці 2,5 клм.) чырвоны, валунны на плошчы 1046 кв. мэтр., шэры на плошчы 10264 кв. мэтр.; на глыбіні 0,5 мэтра ад паверхні.

У Навасёлкаўскім с/с каля *в. Навасёлкі* у вур. *Грыбовая Града* (у адлегласьці 4-х клм. ад вёскі) на плошчы $^{1}/_{10}$ кв. клм. на глыбіні 5 мэтр. (жоўты), у *в. Корміцы* (у адлегласьці 3-х клм.) на плошчы да 0,5 кв. клм., на глыбіні 1,5 мэтр. (чырвоны), у вур. *Пажогі* (у адлегласьці 3 клм. ад вёскі, на беразе рэчкі) на плошчы $^{1}/_{20}$ клм, на глыбіні 5 мэтр. (чырвоны), у тым-жа вур., на адлегласьці 4 клм. ад вёскі, на плошчы $^{1}/_{12}$ кв. клм.

на глыбіні 6 мэтр. (жоўты). У вур. *Цыдова* (у адлегласьці 1 клм.) на плошчы 1/8 кв. клм., на глыбіні 1 мэтр. (жоўты).

### У Жыткавіцкім раёне.

Суглінкі выходзяць у Браніслӑускім с/с. каля *в. Лагвошча*, у вур. Чарноцін (на ўсход ад вёскі, у адлегласьці 0,5 клм.) на плошчы да 1-е дзесяціны, на глыбіні 1 аршына ад паверхні (сыры, сіняваты, сухі, цёмна-шэры), у *вур. Выган* (на ўсход ад вёскі, у адлегласьці 0,5 клм.) на плошчы 15 дзес., на глыбіні 0,5 арш. (сыры, сіняваты, сухі, цёмна-шэры), у вур. *Трылесіны* (на захад ад вёскі, у адлегласьці 1/8 клм.) на плошчы 1 дзес., на глыбіні 3/4 арш. (шэры суглінак); каля *х. Грады* (навокал хутара) залягае на плошчы 0,5 дзес., на глыбіні 3/4 арш. (буры, безвалунны), каля *в. Браніслӑу у вур. Адзёр* (на захад ад вёскі, у адлегласьці 2 клм.) на плошчы да 1 дзес., на глыбіні 1/4 арш. (жоўты), у вур. *Глінішчык*) на паўдн. зах. ад вёскі, у адлегласьці 2-х клм.) залягае на плошчы каля 3-х дзес., на глыбіні да 1/4 арш. (сухі, цёмна-шэры, сыры, сіняваты). Таксама выхады суглінкаў ёсьць каля *заводу „Труд"* (б. Пасталоўскі) на поўнач ад заводу, у адлегласьці 1,5 клм.), на глыбіні 1 арш. ад паверхні (жоўты, пяшчаны).

### У Каленкавіцкім раёне.

Каля *в. Гарбавічы* Антонаўскага с/с, у вур. *Дуброва* (на захад ад в., у адлегласьці 0,5 клм.) залягае на плошы 1 дзес., на глыбіні 1,5 мэтра (чырвоны, валунны), каля в. 1-е *Антонаўкі*, у адлегласьці 1 клм., каля шляху у *м. Каленкавічы* (жоўты суглінак у лажбінцы, зарослай сітнікамі), каля в. II-е *Антонаўкі* (шэры суглінак), у Вяліка-Бокаўскім с/с. чырвоны-морэнны суглінак выходзіць на паверхню каля *в. Вялікі-Бокаў*, па левы бок шляху з В. Бокава ў Мазыр, у адлегласьці 0,3 клм. ад вёскі. У Гулевіцкім с/с. каля *в. Гулевічы* у вур. *Гародца* (на захад ад вёскі, у адлегласьці 1 клм.) па плошчы 1 гэкт., на глыбіні 30—50 см. ад паверхні (чырвоны, валунны) у *в. Пяшчанка* (на поўнач ад вёскі, у адлегласьці 1/4 клм.) залягае на плошчы 2 гэкт., на глыбіні 50 см. (чырвоны, з праслойк. шэрага, валунны), у вур. *Падгука* (на поўнач ад в., у адлегласьці 1/4 клм.) на плошчы 3 гэкт., на глыбіні 50 см. (чырвоны, валунны), у *вур. Курганы* (на паўдн. зах. ад вёскі, у адлегласьці 0,15 кіл.) на плошчы 0,5 гэкт., на глыбіні 40—50 см. (шэры-валунны), у *вур. Есяньне* (на паўдн. зах. ад вёскі, у адлегласьці 2 клм.) на плошы 2-х гэкт., на глыбіні 30 см. (чырвоны, валунны) каля *в. Пеніца* Гулевіцкага с/с, у вур. *Мяленьня* (на ўсход ад в., у адлегласьці 2-х клм.) на плошчы 5 гэкт., на глыбіні 45—70 см. (чырвоны, валунны), каля *в. Фабіянаўкі* (Гулевіцкага с/с, у *в. Падзарасьлей* (на поўдзень ад в., у адлегласьці 1/4 клм.) на плошчы 12 гэкт., на глыбіні 0,5—1,5 мэтра (чырвоны, валунны). У Дудзіцкім с/с суглінкі выходзяць каля *в. Дудзічы* ў *в. Вілюга* (на поўдзень ад в., у адлегласьці 1,5 клм.) на плошчы 8 дзес., на глыбіні 1 мэтр. (жаўтаваты, валунны і шэры), у *вур. Міжымкі* (на ўсход ад вёскі, у адлегласьці 2-х клм. на плошчы 10 дзес. на глыбіні 0,5 мэтра (чырванаваты, валунны і шэры), у вур. *Паташня* (на поўнач ад в., у адлегласьці 1 клм.) на плошчы да 5 дзес., на глыбіні 0,5—0,75 мэтра (валунны, чырвоны і шэры), у *в. Ляцкава* (на поўдзень ад вёскі, у адлегласьці 2,5 клм.) на плошчы 5 дзес., на глыбіні да 1 мэтра (чырванаваты, валунны, з праслойкамі шэрага), каля *в. Есіпавай Рудні* (шэры суглінак), на глыбіні да 3/4 аршын. У Казіміраўскім с/с каля *в. Раманаўкі* ў вур. *Залатуха* (на захад ад вёскі, у адлегласьці больш 1 клм.) на плошчы 1 дзес., на глыбіні 3/4 арш. (шэры), у вур. *Пад борам* на поўдзень ад в., у адлегласьці 1 клм.) залягае на плошчы 2 дзес., на глыбіні 3/4 арш. (шэры), у вур. *Пярэвар* (на захад ад в., у адлегласьці 7,5 клм.,) на плошчы 1 дзес., на глыбіні 3/4 арш. (чырвоны), у вур. *Клетнае* (на поўдн.-зах. ад в., у адлегласьці 5,2 клм.) на плошчы 1 дзес., на глыбіні 3/4 арш. (чырвоны), у вур. *На Пагонах* (у адлегласьці больш 1 клм., у заход. кірунку) залягае на плошчы да 1 дзес., на глыбіні 3/4 арш. (чырвоны), у вур. *Пад Заламаччам* (у паўднёв. кірунку, на адлегл. 2,1 клм.) на плошчы 2 дзес., на глыбіні 3/4 арш. (чырвоны), каля *в. Казіміраўкі* ў вур. *Брадкі* (на поўдзень ад в., у адлегласьці 1,6 клм.), залягае на плошчы 1 дзес., на глыбіні 1 арш. (шэры) у вур. *Для Мосту* (на поўдз. ад в., у адлегласьці 1 клм.) на плошчы 1 дзес., на глыбіні 1 арш. (шэры), у вур. *Спарожа* (на поўдз. ад в. у адлегласьці 2,1 клм.) на плошчы 2 дзес., на глыбіні 1 арш. (шэры). У Мала-Аўцюцевіцкім с/с каля *в. Аляксандраўкі* у вур. *Кавалёўшчына* (на захад ад вёскі, у адлегласьці 4 клм.) залягае на плошчы 1 гэкт., на глыбіні 0,9 мэтра (чырвоны, валунны), у вур. *Гліняныя Ямы* (у адлегласьці 3 клм. на захад) на плошчы 1,5 гэкт., на глыбіні 0,5 мэтр. (жоўты, валунны), у вур. *Масьцішчы* (на поўдзень ад вёскі, у адлегласьці 5 клм.) залягае на плошчы 3 гэкт., на глыбіні 0,8 мэтра ад паверхні (чырвоны, валунны). Каля *в. Сырод* М.-Аўцюцевіцкага с/с. суглінкі ёсьць у вур. *Кузалескі* (на поўнач ад в., у адлегласьці 2 клм.) на плошчы 2 гэкт., на глыбіні 0,5 мэтр. (чырвоны, валунны, з праслойк. шэрага) на захад ад вёскі Сырод, у вур. *Выган* на плошчы 4 гэкт. на глыбіні 0,7 мэтр. (жоўты, валунны). У Прудкаўскім с/с. каля *в. Загорыны* ў вур. *Бар'як* (на паўдн. зах. ад вёскі, у адлегласьці да 1 клм.) залягае на плошчы 4 дзес., на глыбіні 1—1, 5 мэтра (сьветла-буры), у вур. *Акопы* (у тым-жа кірунку, але ў адлегласьці 0,5 клм.) залягае на плошчы да 12 дзес.,

на глыбіні ад 0,5—1 мэтра (сьветла-буры), у вур. *Падгор'е* (яно на паўдн. ўсход, у 6 клм.) на плошчы да 10 дзес., на глыбіні 1 мэтра (сьветла-буры). У Сухавіцкім с/с каля *в. Сухавічы* у вур. *Даўгушы* (яно на поўдзень ад в.) на плошчы да 30 кв. саж., на глыбіні 0—5,1—5 мэтра (чырвоны, валунны), у вур. *Грон* і (на паўдн. зах.) на плошчы 25 кв. саж., на тэй-жа глыбіні, што і ў Даўгушох, (буры з праслойкамі шэрага), у вур. Чыхалёўка (яно на поўдзень ад в., на ўскрайках яе) залягае на плошчы 25 дзес., на глыбіні 0,5—1,5 мэтра (чырвоны, валунны); каля *в. Туравічы* Сухавіцкага с/с, у вур. *Ямы* (на зах. ад вёскі) на плошчы да 50 дзес., на глыбіні 0—5, 1,5 мэтра (чырвоны, валунны) у вур. *Мутыўля* (на поўдзень ад в.) на плошчы да 60 кв. саж., на глыбіні 0,5—1,5 мэтра (чырвоны валунны), у вур. *Заборак* (на поўдзень ад в.) залягае на плошчы да 1 дзес., на глыбіні 0,5—1,5 мэтр. (чырвоны, валунны), каля вёскі *Шыйчы* Сухавіцкага с/с, у вур. *Выган* (на захад ад в.) на плошчы да 100 гэкт., на глыбіні 0,25—0,5 мэтра (чырвоны, валунны), у вур. *Прыбортні* (на зах. ад в., у адлегласьці 0,5 клм.) на плошчы да 100 гэкт. на глыбіні 0.25—0,5 мэтра (чырвоны, валунны), у вур. *Ля цэркві* (на поўнач ад в.), залягае на плошчы да 50 гэкт., на глыбіні 0,25—0,5 мэтра (чырвоны, валунны), у вур. *Жабунак* (на поўн. ад в., у адлегласьці 0,25 клм.) на плошчы да 40 гэкт., на глыбіні 0,25—0,5 мэтр. чырвоны, валунны і (шэры). Яшчэ ў Каленкавіцкім р. суглінкі выходзяць на паверхню лапінамі ад паўстанку *Халоднікі* Зах. чыгункі (б. Падольскае), абапал Коле і ў кірунку да ст. Гародчыцы (суглінкі жоўтыя і чырвоныя, валунныя) і даходзячы да ст. Каленкавічы. Каля станцыі таксама ёсьць суглінкі, паміж станцыяй і мястэчкам Каленкавічы, на левы бок шашы (валунныя суглінкі), па правы бок шашы, пры выезьдзе з м-ка Каленкавіч у кірунку да Мазыра—чырвоны валунны суглінак, на глыбіні да 1 арш., тут-жа і невялічкая прымітыўная цагельня.

### У Капаткевіцкім раёне.

Суглінкі знаходзяцца каля в. *Ванюжычы* Навасёлкаўскага с/с. у вур. *Сяргеіха* (на поўдзень ад Ванюжычы, у адлегаласьці 0,01 клм.) на плошчы да 2 гэкт., на глыбіні 0,25—1 мэтр. (буры, валунны), у вур. *Дзедаў Лес* (на ўсход ад в., у адлегласьці 0,03 клм.) на плошчы 0, 5 гэкт., на глыбіні 0,25-1 мэтр. (чырвоны), у вур. *Глінішча-Іванаўскае* (на ўсход ад в., на адлегласьці 3 клм.) на плошчы 2 гэкт., на глыбіні 0,25—1 мэтр. (чырвоны), у вур. *Космаў Рог* (на паўн. ўсх. ад в., у адлегласьці 0,5 клм. (залягае на плошчы 1,5 гэкт., на глыбіні 0,25—1 мэтр. ад паверхні (буры і шэры), у вур. *Красныя Астраўкі* (на поўдзень ад в., у адлегласьці 0,25 клм.) залягае на плошчы 1,5 дзес., на глыбіні 0,25—1 мэтр. (шэры), у вур. *Пуцькі* (на ўсход ад в., у адлегласьці 0,25 клм.) залягае на плошчы 0,5 гэкт., на глыбіні 0,25—1 мэтр. (белы). Каля в. *Піліпавічы* (Навасёлк. с/с) суглінкі ёсьць у вур. *Горнае* (на поўдзень ад в., у адлегласьці 0,05 клм.) на плошчы 1 гэкт., на глыбіні 0,5—1,5 мэтр. (жоўты, валунны), у вур. *Гарохавішча* ( на ўсх ад в., у адлегласьці 1 клм.), на плошчы 2 гэкт., на глыбіні 0,5—1,5 мэт. (чырвоны, валунны), у Галоўчыцкім с/с. суглінкі ёсьць каля в. *Старыя Галоўчычы* ў вур. *Доўгі-Курган, Забалоцьце, Сіпава* (на захад ад вёскі, у адлегласьці 0,5 клм.) на плошчы 5 дзес., на глыбіні 0,5 мэтр. (белы, безвалунны), каля в. *Новыя-Галоўчыцы* (Галоўчыцкага с/с). У вур. *Грабіна* (на поўдз., у адлегласьці 1,5 клм.), на плошчы 50 дзес., на глыбіні 2-х мэтр. (цёмна-шэры, валунны), у вур. *Руслаўшчына* (на ўсход, у адлегласьці 1 клм.) на плошчы 10 дзес., на глыбіні 1,5 мэтр. (чырвоны, валунны), у в. *На Гары* (каля сядзіб в. чырвоны, валунны).

### У Каралінскім раёне.

Суглінкі знаходзяцца каля в. *Боўгаркі* Ельскага с/с на плошчы 0,5 квад. вярсты, на глыбіні 1 арш. ад паверхні (жоўты, пяшчаны з праслойкамі шэрага, валунны); у Махнавіцкім с/с каля в. *Заводны-Востраў* у вур. *Горнае* (у 2 клм. ад вёскі) на плошчы каля 3 гэкт., на глыбіні 1,07 мэтр. (жоўты), у вур. *Глінка* (ва ўсе бакі ад вёскі) на плошчы каля 3-х гэкт., на глыбіні 70 см. (жоўты, пяшчаны), у вур. *Рубеж* (у 2-х клм.) на плошчы 3 гэкт., на глыбіні да 1 мэтра (жоўты, пяшчаны з валунамі), у вур. *Сярвітут* (у 2 клм.) на плошчы 3 гэкт., на глыбіні 71 см. (шэры, валунны); каля в. *Махнавічы* у вур. *Гліннае* (на ўсход ад в., у адлегласьці звыш 3-х клм.) на плошчы каля 4-х гэкт., на глыбіні 20 см. (шэры, сыры, белаваты, з сіняватым адценьнем), у вур. *Запалетак* (на захад ад в., у адлегласьці 2 клм.), залягае на плошчы каля 4 гэкт. на глыбіні 0,5 мэтр. (шэры, у ім трапляюцца бэлемніты), у вур. *Пераясьніцкі* (на поўд. ад в., у адлегласьці 0,25 клм.) на плошчы каля 4 гэкт., на глыбіні 0,2 мэтра (буры). У Санюкоўскім с/с каля в. *Габруйкі* у вур. *Німча* (на паўднёвы захад ад вёскі, у адлегласьці 0,3 клм.) на плошчы 0,5 дзес., на глыбіні 0,2 арш. (шэры) каля в. *Княжабор'е* навокал вёскі (у вур. *Сёмае* і *Дзесятае*) на плошчы 2,5 дзес., на глыбіні 0,5 арш. (жоўты), каля х. *Мазуры*, у вур. *Барсукі* (на захад ад в., у адлегласьці 0,5 вярсты) на плошчы 3,15 гэкт.. на глыбіні 0,7 мэтр. (сыры, сіняваты, сухі, жоўты), каля в. *Палаўкі* ў вур. *Млыновы Лясок* (на ўсход ад вёскі, у адлегласьці 1 клм., на плошчы 5 гэкт., на глыбіні 0,7 мэтр., у вур. *Палаўкі* (на захад) на плошчы 20 гэкт., на глыбіні 0,7 мэтр. (чырвоны, валунны); каля в. *Санюкі* ў вур. *Васілеўскія* (на паўнач ад вёскі ў адлегласьці 0,5 клм.)

на плошчы 2 гэкт., на глыбіні 0,25 мэтр. (чырвоны, морэнны). У Скародненскім с/с каля в. *Валаўск* у вур. *Дуброва* (на захад ад вёскі, у адлегласьці 0,5 клм.) на плошчы 10 гэкт., на глыбіні 1 арш. (жоўты); каля в. *Мядзьведнае* ў вур. *Юрскі Лясок* (на поўн. ад в., у адлегласьці 0,5 клм.) на плошчы 2,5—3 гэкт., на глыбіні 0,25 мэтра (жоўты), у вур. *Піліпіха* (на захад ад в., у адлегласьці 0,25 клм.) на плошчы 2 гэкт., на глыбіні 0,25 мэтр. (буры, пяшчаны), каля м-ка *Скароднае*, у вур. *Замогілкамі* (на паўдн. ўсх., у адлегласьці 0,2 клм.) на плошчы 3—4 гэкт., на глыбіні 0,80—1,4 мэтр. (чырвоны, слаба пяшчаны).

### У Лельчыцкім раёне.

Суглінкі ёсьць, апрача паказных у Туткоўскага [1]), яшчэ ў Буйнавіцкім с/с каля в. *Буйнавічы* у вур. *Бярэзьняк* (на захад), на плошчы 0,25 кв. в., на глыбіні 0,5 арш. (шэры), у вур. *Клячытно* (на поўнач. ад в., у адлегласьці. 3,2 клм.) на плошчы 0,1 кв. вярст., на глыбіні 0,25 арш. (шэры), у вур. *Дабрын* (у адлегласьці 1,6 клм., на поўнач ад в.) на плошчы 0,5 на глыбін 0,5 арш. (шэры; у Стадоліцкім с/с (шэры суглінкі) каля в. *Стадолічы* ў вур *Дубнік* (на ўсход ад в., у адлегласьці 0,25 клм.) на плошчы 2 дзес., на глыбіні 10 см., у вур. *Вялікі Лес* (на поўдзень ад в., у адлегласьці 0,25 клм.) на плошчы каля 15 дзес., на глыбіні 10 см.

### У Нараўлянскім раёне.

Суглінкі ёсьць у Барбароўскім с/с. каля в. *Праўцюкі* ў вурочышчы *Млынішча* (на ўсход ад вёскі, у адлегласьці 0,25 клм.) на плошчы да 700 кв. мэтр., на глыбіні 0,5 мэтра (буры, валунны), у вур. *Паддуброўка* (у адлегласьці $^1/_{10}$ клм. на паўноч. ўсх. ад в. Праўцюкі) на плошчы 5000 кв. мэтр., на глыбіні 0,5 мэтра (чырвоны, валунны), у вур. *Абуховічава* граніца (на поўн. ад Праўцюкоў, у адлегласьці 0,5 клм.) на плошчы 100 кв. мэтр., на глыбіні 0,75 мэтр. (чырвоны, валунны). З вурочышчаў: *Млынішча* і *Паддуброўка* сялянства вёскі скарыстоўвае суглінкі для вырабу цэглы. Каля в. *Барбарова* (таго-ж с/с.) суглінкі залягаюць у вур. *Цыгельня* (на паўн. зах. ад вёскі, у адлегласьці 2 клм.) на плошчы да 20 гэкт., на глыбіні 0,5 мэтр. (сухі, жаўтаваты, сыры, сінявата-жоўты з валунамі, згодна паведамленьня, у абразцох валуноў ня відаць); у вур. *Капліца* (на зах. ад в., у адлегл. 1,5 клм.) на плошчы 3 гэкт. (сухі, жаўтаваты, сыры, сінявaты, валунны); у вур. каля *Бервута* (у адл. ад в. на 0,5 клм., у паўн. зах. кірунку) на плошчы 3 гэкт., выходзіць на паверхню, магутнасьць пласта у абрыве дасягае да 20 мэтр. (буры, валунны суглінак). Каля в. *Стрэльска* (Барбароўскага с/с.) суглінкі ёсьць у вур. *Прыдаткі* (на захад ад в., у адлегл. 30 мэт. на плошчы 45 кв. арш. (чырвоны, валунны), у вур. *Маргі* (на ўсход ад в., у адлегл. 1 клм.) на плошчы 70 кв. арш. (жаўтаваты, валунны).

У Бярозаўскім с/с. суглінкі знаходзяцца каля в. *Майдан*, на глыбіні 50 см. (гразна-жоўты, пяшчаны), на ўсход ад в. *Бярозаўка*, на глыбіні 20 дцм. (жоўты з праслойкамі шэрага, магчыма безвалунны, бо ў абразцох валуноў няма, у паведамленьні з месц значыцца тое-ж); каля колёніі *Осіпаўка* (на паўдн. ўсход, у адлегл. 5 в.), на глыбіні 30 дцм. (шэры з жоўтым, валунны).

У Вуглоўскім с/с суглінкі ёсьць каля в. *Вуглы* ў вур. *Глінішча* (на паўд. ўсх., у адлегл. 2 клм. ад вёскі), дзе ён знаходзіцца на плошчы да 150 дзес., на глыбіні 0,5 мэтр. (жоўты і шэры, валунныя); у вур. *Завод* (на поўдз. ад в., у адлегласьці 1.05 клм.) на плошчы да 5 дзес., на глыбіні 0,75 арш. (шэры безвалунны, чырвоны з праслойкамі шэрага валунны).

У Красноўскім с/с суглінкі ёсьць каля в. *Красноўкі* шэры (у абразцох валуноў няма), каля х. *Дзятлік* (шэры, пяшчаны).

У Дзямідаўскім с/с суглінкі знаходзяцца каля в. *Дзямідава* ў вур. *Разбойскі лясок* (на захад ад в., у адлегласьці 4 клм.) на плошчы каля 1 дзес., на глыбіні 0,5 арш. (цёмна-шэры з праслойкамі жоўтага), у вур. *Асінскі лясок* і *Пагної* (на поўнач ад в. у адлегл. I на 3 клм., II -на 0,5 клм.) на плошчы 0,5 дзес.. на глыбіні 1 арш. (цёмна-шэры, пяшчаны), у вур. *Салапок* (на захад ад в., у адлегл. 0,25 вяр.) на плошчы 0,25 дзес., на глыбіні 1—1,5 арш. і ў вур. *Асінскі лясок* і *Пагної* ёсьць яшчэ советла-шэры, безвалунны суглінак.

У Бібікаўскім с/с каля в. *Акулінкі* (на поўн. у адлегласьці 1-2 клм.), на плошчы прыблізна каля 6 гэкт., на глыбіні 0,5—3 мэтраў (жоўты, валунны і чырвоны), у вур. *Брадок* (навокал вёскі) на значнай плошчы, на глыбіні 0,5—3 мэтраў (чырвоны, валуны), каля в. *Бібікі* (навокал) на плошчы да 6 гэкт., на глыбіні 0,5 мэтр. (жоўты і чырвоны, валунны), у вур. *Страліца* (у адлегласьці 1—2 клм. на поўдзень ад в.) на глыбіні 0,5 мэтр. чырвоны, валунны), каля в. *Гурыны* ў вур. *Высокае* (на поўнач, у адлегласьці 1—1,5 клм.) чырвоны, валунны, на глыбіні 0,5—3 мэтр., навокал в. *Гурыны* на плошчы да 6 гэкт., на глыбіні 0,5—3 мэтр. (чырвоны і жоўты, валунны), каля в. *Сядзельнікі* (на поўн., у

---

[1]) Геологический очерк Минской губ., вып. I—Киев 1916 г. и геологические исследования на территории б. Минской губ., ч. II—Витебск 1925 г. .

адлегласьці 1 клм.) на плошчы да 6 гэкт., на глыбіні ад 0,5—3 мэтр. (чырвоны, валунны); у Вербавіцкім с/с. каля в. *Вербавічы* ў вур. *Журэжава* і *Лясішча* (1—на паўдн. ўсход, у адлегласьці 1,5 клм. ад в., ІІ-е на поўн., ў адлегласьці 3-х клм.) белы безвалунны суглінак на плошчы 1,5 гэкт., на глыбіні 50 см., руды на плошчы 5.5 гэкт., на глыбіні 20 см., у Міхалкаўскім с/с каля в. *Міхалкі* ў вур. *Камень*, сухі, жоўты, сыры, зеленаваты суглінак.

### У Пятрыкоўскім раёне.

Апрача прыведзеных зьвестак паводле Туткоўскага, суглінкі яшчэ ёсьць у Бабуніцкім с/с. каля в.: *Бабуніч* у вур. *Глінішча* (у адлегласьці 1,5 клм. на ўсход ад в.) на плошчы 1 гэкт., на глыбіні 1,5 мэтра (жоўты, з праслойкамі шэрага, валунны), у вур. *Смаглоўска-цагельня* (на поўнач ад в., у адлегласьці 4,5 клм.) на плошчы 0,5 гэкт., на глыбіні 1 мэтр. (жоўты, з праслойкамі шэрага, безвалунны), у вур. *Вяпры* (на зах. ад в., у адлегласьці 4,5 клм.) на плошчы 1 гэкт., на глыбіні 0,5 мэтр. (шэры, жоўты, валунны).

Яшчэ вялізныя натоўпы морэнных, валунных, бурых суглінкаў абгаляюцца ў раўчакох Мазырскіх узвышшаў каля г. Мазыра і ў ваколіцах суседніх вёсак, як *Бабры, Бабранята, Навікі* і інш. Месцамі пласты суглінка ў равох вышлі на паверхню таўшчынёю да 2 мэтр. і больш (гл. фотогр. № 5.).

Апрача чырвоных і бурых суглінкаў яшчэ сустракрецца ў равох у меншай колькасьці шэры і ў малой колькасьці зеленаваты (безвалунны) суглінкі (зеленаваты, сыры, высушаны, шэры). Таўшчыня пластоў суглінкаў у апісаных мясцох розная, яна віхаецца ад ¼ арш. (х. *Града Браніслаўск.* с/с.) да 10 мэтр. і больш (*в. Бабунічы, Загорыны* і інш.).

Прамысловасьць па апрацоўцы апісанага сырцу яшчэ на Мазыршчыне не разьвіта. Так, маецца (паводле даных Мазырскае Акруговае Плянавае камісіі) коопэрацыйных і арцельных 7 прадпр. з гадавою продукцыяй 315000 шт. цэглы, 4 прыватных вырабляюць у год 195000 цаглін, 2 дзяржаўных вырабляюць у год 745000 шт. цэглы і 1 Камтрэсту, каля г. Мазыра, выробляе ў год 1.000.000 штук цэглы, усяго, такім чынам, 14 прадпрыемстваў вырабляюць у год 2.255.000 штук цэглы, а патрэба акругі ў цэгле вызначаецца ад 6—9 мільёнаў штук цэглы. Як відаць з паказанага, больш буйным прадпрыемствам па вырабе цэглы зьяўляецца цагельня Камтрэсту (гл. фотогр. № 6), а іншыя прадпрыемствы дробныя.

Матар'яламі для шкляных вырабаў зьяўляюцца белаватыя пяскі, частка якіх пры разьдзьмуваньні вятрамі адмучана. Пяскі гэтыя ў вялізарнай колькасьці (па падліках Мазырскага АКРЗА іх 3% плошчы акругі, ці 42.008,53 дзес.) раскіданы ў розных частках акругі. Імі зьяўляюцца шматлічныя барханы (шмат іх апісана акадэмікам і профэсарам П. А. Туткоўскім[1]) і рачныя дюны. Аграмады пяскоў займаюць вялікія абшары на тэрыторыі *Пхоў* (пры перасячэньні б. Падольскаю чыгункаю Прыпяці каля Мазыра), Каленкавічы, Гулевічы, Пеніца (Каленкав. р.), Града Юравіцкага р. і левым берагам р. Прыпяці, затым шмат пяскоў ёсьць на плошчы ад *в. Даманавіч* Каленкавіцкага р. і м-кам Азарычы, на тэрыторыі каля *в. Козенкі, Матрункі, Тварычаўка* і *Вялікі-Бокаў* Каленкавіцкага р., у абшарах каля *в. Канатоп* і *Белабярэзскае Рудні* Нараўлянскага раёну, *в. Валаўская Рудня, х. Белякі* і *Кузьмічы* па берaзе р. Батыўлі паміж *в. Кузьмічы* і м-ка *Скароднае* па берaзе р. Славечны Каралінскага р. Каля г. Мазыра вялізарныя натоўпы пяскоў знаходзяцца на левым берaзе р. Прыпяці ў вур. *„Пхоў"*, каля *в. Баравікоў* (у 2-х клм. ад гор. у паўночным і паўн.-ўсх. кірунках). Паводле дасьледаў геолёга П. А. Туткоўскага пяскі Мазыршчыны амаль што чыста кварцавыя і будучы вышчалачанымі, яны бяз значнае папярэдняе падрыхтоўкі годны для вырабаў высокае якасьці шкла на вокны і люстэркі. У цяперашні час гэты від сырцу ў такім кірунку яшчэ не выкарыстоўваецца, а ў невялікай колькасьці скарыстоўваецца пры вырабах матар'ялаў для агнятрывалага будаўніцтва.

[1]) Геологический очерк Минской губ. Вып. 1—Киев 1916 г. Геологические исследования на территории б. Минской губ. ч. II—Віцебск. 1925 г.

Матар'ялам мінэральнага апалу зьяўляецца сучасны торп, прадстаўлены пяводле Туткоўскага на Мазыршчыне 2-ма гатункамі: 1) махавым (утварыўся з мхоў), куды не заходзяць веснавыя воды (дажджавыя) у часе паводкі рэк; з балот часта імхі перабіраюцца і ў блізкаляжачыя лясы, служачы, такім чынам, фактарам забалочваньня; 2) травяным ці асаковым (утварыўся з розных відаў асок, чаротаў), які займае рачныя поймы і блізкаляжачыя да іх балоты і заліваюцца ў часе веснавое паводкі.

Торпу на Мазыршчыне вельмі многа; па агульных вельмі няпоўных падліках Мазырскага АКРЗА запас торпу на Мазыршчыне ў сырым відзе дасягае трох міліярдаў куб. мэтраў, што пры нашай гадавой патрэбе ў апале забясьпечвае акругу на 6000 г. Мала таго, запасы торпу пастаянна павялічваюцца і папаўняюцца: Палескія балоты, як кажа профэсар і акадэмік П. А. Туткоўскі, „являются настоящими, постоянно действующими фабриками торфа“. Каля г. Мазыра, на левым беразе р. Прыпяці і крыху водаль ёсьць таксама залежы торпу, ад *в. Сітні* Каленкавіцкага р-ну пачынаецца масыў тарпяных балот плошчаю да 1000 гэкт. (гл. фотогр. № 2).



Фот. М. У. Бычэўскага.

Пачатак тарпянога масыву плошчаю ў 1000 гэкт. у Каленкавіцкім р. каля в. Сітні. 1928 г.

Паводле даных таго-ж профэсара Туткоўскага на Мазыршчыне (у вак. *Ляскавіч* і *Дарашэвіч* Пятрыкоўскага р-ну) у пластох зямлі сустракаецца яшчэ торп вельмі добрае якасьці, спрасаваны да плотнасьці дрэва, які ўтварыўся яшчэ ў часы ледавіка. Гэты від сырцу на Мазыршчыне яшчэ толькі пачынае выкарыстоўвацца, але на будучы год мяркуецца пашырыць распрацоўку торпу (цяпер саматужная арцель вядзе распрацоўку торпу каля *в. Курацічы* Пятрык р.).

Па даных кнігі „Верхнее Поднепровье и Белоруссия“, т. IX, под. р. В. П. Семенова, каля *в. Прудка* (таго-ж с/с), Каленкавіцкага р., у 9 вярстах ад г. Мазыра ёсьць буры вугаль на глыбіні 5 саж., магутнасьцю ў 4 фут.. Балотныя жалезныя руды (буры жалязьняк) сустра-

каюцца на Мазыршчыне ў розных мяйсцох [1]), займаючы мейсцамі значныя плошчы (каля *в. Хамічоў* таго-ж с/с Азарыцкага раёну буры жалязьняк знаходзіцца на плошчы 600 дзес.) Наогул-жа жалезная руда знойдзена ў наступных мясцовасьцях:

*па Азарыцкім раёне каля в. Рылавічы* (Хаміцкі с/с. ), у вур. *Падліпка* і *Віляўка*, каля п. *Яўтушкавіцкая-Рудня* (Людзьвінаўскі с/с), каля *в. Карані* (таго-ж с/с), у вур. *Вытрашч*); у Жыткавіцкім р. каля *п. Пасталы*, а паводле вестак проф. П. А. Туткоўскага яшчэ каля *в. Юркевіч* і *Палянкі*, у Каленкавіцкім раёне каля *в. Есіпавай-Рудні* (Зеляноцкі с/с), у вур. *Гарадок, Сечаны Лес*, каля *в. Рудня-Гарбавіцкая* (Антонаўскі с/с) у вур. *Узлужжа* і *Папова Града*, у Слабадзкім с/с. каля *в. Слабада* ў вур. *Анікеяў Брод* і балоце *Рудзішча*.

У Капаткевіцкім раёне—каля *в. Руданька* (Белкі) і м-ка *Капаткевіч* у балоціне *Гальца*; у Каралінскім раёне, каля *в. Санюкоў* (таго-ж с/с) па р. Мытве, каля *в. Рамнзоў* (таго-ж с/с), па р. Чэрцень, каля *в. Заводны-Востраў* (Махнавіцкі с/с) у вур. *Вярбаньске, Рудая Валока, Папоў Востраў, Вілкі, Сьлепча, Рачыца*, каля *в. Валаўская Рудня)* Кашчынскі с/с) па р. Батаўлі, каля *в. Паўлаўкі* (Стара-Высоцкі с/с), каля *в. Рэдзька* (Мялешкавіцкі с/савет).

У Лельчыцкім раёне, паводле проф. П. А. Туткоўскага, каля *в. Сіманавіцкае Рўдні* і *Вуборскае-Рудні*, а па сабраных вестках з месц ёсьць яшчэ ў Буйнавіцкім с/с. каля *в. Буйнавічы* у вур. *Курылішча* і *Вешчавы Ніўкі*. У Нараўлянскім раёне буры жалязьняк ёсьць каля *в. Дзямідаў* (таго-ж с/с у вур. *Мутаўка, Руда, Роя, Сьціжа, Лобчэ*, каля *в. Белабярэскае Рудні* (Вербавіцкі с/с), у вур. *Жалезьніца, Каршакі, Катагань, Згоні* і *Беражкі*, каля *в. Міхайлаўкі* Вуглоўскі с/с) у вур. *Касьсе. Супрага, Вялікі Лес*, каля *в. Міхалкі* (таго-ж с/с) у вур. *Каложанка* і *Цёмны Востраў;* у Пятрыкоўскім р. каля *в. Аголіцкая Рудня, Балажэвічы* і *Скалодзіна;* у Тураўскім р. каля *в. Пагост*, а паводле Туткоўскага яшчэ ў *в. Рудня*. Нарэшце каля г. Мазыра руда ёсьць на левым беразе Прыпяці каля *Пхова*. (Прывдзеныя зьвесткі не ахопліваюць усіх мясцовасьцяй, дзе ёсьць жалезная руда).

У XIX ст. жалезная руда на Мазыршчыне распрацоўвалася, цяпержа яна не выкарыстоўваецца.

Апрача жалезнае руды на Мазыршчыне, паводле досьледаў проф. П. А. Туткоўскага, яшчэ сустракаецца умбра і охра, якія зьяўляюцца адменьнікамі бурага жалязьняка (охра чырвонага колеру, умбра—бурага) і зьяўляюцца мінэральнымі прыроднымі фарбамі. Яны часта выкарыстоўваюцца сялянкамі для афарбоўкі тканін і нітак.

Прадметамі мінэральнага гною ў нас зьяўляецца мэргель, які сустракаецца ў мясцовасьцях, акружаючых возера *Князь*, каля *в. Рамязоў Каралінскага* раёну, але апрача мэргелю, па прызнаньні профэсара і акадэміка Туткоўскага, мінэральным гноем у нас для паляпшэньня фізычнае ўласьцівасьці глебы могуць служыць розныя віды суглінкаў.

Будаўнічымі матар'яламі на Мазыршчыне зьяўляюцца (апрача глін, пяску) каменьні. Іх шмат, дробных і вялікіх да 2×2 мэтра ў ваколіцах г. Мазыра па раўчакох, дзе, напрыклад, у аднэй ветцы Бабраняцкага раўчаку прылягаючай да Міхалкаўскага тракту, улетку 1928 г. трапляліся валуны, разьмерам ад 3×3 дцм., 2×4 дцм. да 2×2 мэтр. 143 (гл. фотогр. № 3). Пароды сустракаюцца такія: граніты шэры, буры, чырвоны, кварц, палявы шпат, пескавік, а каля *в. Навікоў* (больш) вапняковыя каменчыкі. (Апошнія нават купляюцца саматужнікам, які вырабляе вапну на невялічкім саматужным прадпрыемстве (вапельні). Яшчэ значная колькасьць каменьня ёсьць на абшарах паміж *в. Вялікі-Бокаў, Антонаўскія хут.* Каленкавіцкага р. і *в. Мялешкавічы* Каралінскага р., каля *в. Сухавічы* Каленкавіцкага р., каля *в. Міхалак* Нараўлянскага р.

З часткі раўчакоў у вак. г. Мазыра каменьне ў некаторай выкарыстоўваецца пры будаўнічых працах у г. Мазыры.

---

[1]) Больш падрабязнае апісаньне ў „Нашым Краі“ № 8—9 (11—12) за 1926 г № 1(28) за 1928 г.

І. А. Некрашэвіч.

# Мэліорацыя на Мазыршчыне.

### Гісторыя разьвіцьця мэліорацыі ў дарэволюцыйную пару.

Вядома, што яшчэ ў 1810 г. наважана было ў былой царскай Расіі распачаць абсушыцельныя работы, частка якіх павінна была ахапіць і цяперашнюю Мазырскую акругу. Спачатку мэліорацыйныя работы адбываліся ў бліжэйшых да гарадоў мясцовасьцях з мэтай замацаваньня глебы пад будоўлі і паляпшэньня гігіенічных умоў і толькі ў 1870 гады, калі пачалі моцна праяўляцца першыя адзнакі слабасьці вяскова-гаспадарчай прамысловасьці, то 26-га траўня 1872 г. была ўстаноўлена камісія для дасьледваньня становішча вяскавай гаспадаркі і вясковай прамысловасьці ў былой Расіі пад кіраўніцтвам тагочаснага міністра дзяржаўных маемасьцяй Валуева. Камісія гэтая, разгледзеўшы розныя галіны вясковай гаспадаркі і зьвярнуўшы ўвагу, паміж іншым, на гадоўлю жывёлы, выявіла факт кепскага разьвіцьця гадоўлі жывёлы, якое, па думцы камісіі, зьявілася, галоўным чынам, з прычыны зьмяншэньня лугавых абшараў, узараных пад поле. Затым гэтая камісія адзначыла неабходным павялічыць плошчу лугавых зямель шляхам абсушкі балот у цэлым шэрагу губэрань былой царскай Расіі, а ў тым ліку і Менскай, у склад якой уваходзіла цяперашняя Мазырская акруга.

Дзеля гэтай мэты ў 1873 годзе былі накіраваны на работу 2 экспэдыцыі: Паўночная і Заходняя. Заходняй экспэдыцыяй былі распачаты абсушыцельныя работы на вялізным забалочным абшары Палесься, плошча якога разам з Мазыршчынай складае да 8000000 дзесяцін. Калі ў 1873 г. былі зроблены досьледы па Палесьсі і быў складзены генэральны плян абсушэньня, то паўсталі такія пытаньні: 1) ці магчыма абсушэньне Палесься па характары яго балот, 2) ці не адаб'ецца абсушэньне такога вялікага абшару няспрыяюча на кліматычных ўмовах, як Палесься, так і суседніх мясцовасьцяй і 3) ці ня зробіць абсушэньне няспрыяючага ўплыву на сумежныя к Палесьсю праведзеныя шляхі (Днепра-Бугскую і Агінскую сыстэмы).

Для выяўленьня гэтых пытаньняў генэральны плян быў накіраваны на заключэньне міністэрства шляхоў зносін і акадэмікаў Мідэндорфа і Весялоўскага. Тэхнічнае заключэньне было дадзена здавальняючае, пасьля чаго плян і быў зацьверджаны.

Выкананьне гэтага пляну было даручана тэй-жа Заходняй экспэдыцыі. Асноўная ідэя пляну абсушэньня Палесься складалася з таго, каб зьнішчыць прычыны забалочваньня мясцовасьцяй, дасягнуць больш раўнамернага разьмеркаваньня вады па Палесьсі і правільнага ў ім вадазвароту і гэтым шляхам прыпыніць забалочваньне абшараў. У выніку выкананьня гэтага пляну на абшары цяперашняй Мазырскай акругі з 1873 г. па 1911 г. было пракопана больш 990 вёрст адкрытых абсушыцельных канаў, галоўным чынам, па скарбовых лясных дачах. Апроч гэтага прыватнымі ўласьнікамі было пракопана таксама да 900 вёрст канаў на сваіх землях. Атрымалася, такім чынам, наступная сетка галоўнейшых канаў (гл. табл. на стар. 30).

Кошт аднае вярсты пракопаных канаў складае 688 р., гэта толькі на каналізацыю, а з накладнымі выдаткамі пракопка аднае вярсты канала каштавала 1065 руб. Паводле справаздачы затрачаныя экпэдыцыяй сродкі на мэліорацыю давалі прыбытак 13,6% на ўвесь затрачаны капітал і каля 20,5% на капітал, затрачаны выключна на каналізацыю.

| № № п/ч | Назва канаў: | Працяг у вёрстах | У вадазборы ракі |
|---|---|---|---|
| 1 | Курыцкая галоўная канава | 33 в. 251 с. | Пціч |
| 2 | Бабуніцкая | 24 в. | Бобрык-Пціч |
| 3 | Сялюціцкая | 8 в. 475 с. | Бобрык |
| 4 | Найда-Бялёўская | 60 в. | Прыпяць |
| 5 | Бакавыя да Найда-Бялёўскае | 63 в. | Прыпяць |
| 6 | Скрыпіцкая галоўная канава | 20 в. 463 с. | Прыпяць |
| 7 | Ліпская бакавая да Скрыпіцкага | 10 в. 171 с. | Прыпяць |
| 8 | Камаровіцкая галоўная канава | 21 в. 300 с. | Пціч |
| 9 | Высока-Махнавіцкая гал. канава | 19 в. 390 с. | Славечна |
| 10 | Жмурнянская галоўная канава | 23 в. 200 с. | Вубарць |
| 11 | Сьнядзінская | 18 в. 289 с. | Прыпяць |
| 12 | Хлупінская | 8 в. 390 с. | " |
| 13 | Сьвінаводзкая | 22 в. 50 с. | " |
| 14 | Тураўская галоўная канава | 33 в. 351 с. | " |
| 15 | Крушнянская | 13 в. 251 с. | " |
| 16 | Мутвіцкая (рэчка) | 9 в. 348 с. | " |
| 17 | Бычок | 22 в. 413 с. | Сьцьвіга |
| 18 | Галячэцкая | 8 в. 353 с. | " |
| 19 | Старажавецкая | 6 в. 216 с. | " |
| 20 | Нерасьнянская | 14 в. 118 с. | Вубарць |
| 21 | Прыбалавіцкая | 8 в. 250 с. | " |
| 22 | Глушкавіцкая | 17 в. 179 с. | " |
| 23 | Карасьценская | 13 в. | " |
| 24 | Трэмлянская | 75 в | Прыпяць |
| 25 | Мухаедаўская | 80 в. | " |
| 26 | Беражэцкая | 11 в. 220 с. | Сьцьвіга |
| 27 | Жыткавіцкая | 34 в. 296 с. | Прыпяць |
| 28 | Капцэвіцкая | 24 в. 380 с. | Бобрык-Прыпяць |
| 29 | Быстрыцкая | 10 в. 126 с. | Прыпяць |
| 30 | Бакавыя да Бычка | 24 в. 7 с. | Сьцьвіга |
| 31 | Бакавыя да Тураўскае галоўнае магістральнае | 64 в. 159 с. | Прыпяць |
| 32 | Бакавыя да Крушнянскай | 15 в. 369 с. | " |
| 33 | Бакавыя да Галачэцкай | 2 в. 359 с. | Сьцьвіга |
| 34 | Бакавыя да Быстрыцкай | 4 в. 117 с. | Прыпяць |
| 35 | Бакавыя да Прыбалавіцкай | 32 в. 44 с. | Вубарць |
| 36 | Бакавыя да Нерасьнянскай | 43 в. 236 с. | " |
| 37 | Бакавыя да Старажавецкай | 5 в. 60 с. | Сьцьвіга |
| 38 | Сыстэма канаваў прыватна-ўласьніка Радзівіла | 80 в. | " |
| 39 | Сетка канаў розных прыватна-ўласьнікаў яшчэ дагэтуль не падлічаная, але мае працяг у | 900 в. | Прыпяць |
| | Усяго: | 1890 в. 438 с. | |

Сярэдні гадавы прыбытак каналізаваных дач складаў па Менскай губэрні 204619 руб.

## Мэліярацыйная працы пасьля Кастрычнікавай Рэволюцыі.

Зробленая экспэдыцыяй каналізацыя з пачаткам імпэрыялістычнае вайны, з 1914 г., была прыстасавана дзеля забалочваньня (затапленьня) Палесься. Гэтыя работы ў значнай меры былі зроблены, галоўным чынам, на абшары Мазырскае акругі. За кароткі тэрмін уся абсушы-



Бялёўская канава пасьля прачысткі.

1926 г. З нэгат. Акрэа.

цельная сыстэма акругі, рэкі і каналы ў найбольш па прыродных умовах выгадных мясцох былі загачаны глухімі дамбамі і гаткамі, і асушаныя раней балоты ў нізкіх месцах пакрыліся зноў вадою і пачалі пераходзіць ад культурнага да дзікага стану. Такім чынам, уцягнутыя ў сельска-гаспадарчы зварот шляхам мэліорацыі вялізныя забалочаныя плошчы з 1914 г. пачалі ўсё больш і больш траціць сваю вартасьць, падрываючы сельскую і лясную гаспадарку акругі. Дакладных даных аб стратах, учыненых абарончымі работамі, няма. Але паводле прыблізнага падліку яны былі ня меншымі, чым каштавала пракопка памянёнае сеткі канаў. Такое становішча было да 1920 г. Пачынаючы з гэтага часу, насельніцтва самастойна часткова з дапамогаю дзяржавы распачала аслабаняць рэкі і канавы ад перамычак, запруд, гацяй і інш. для вольнага стоку вады, але гэтыя работы насілі характар скарэй „паратункавай работы“, а не плянава-будаўнічай, якая пачалася толькі з 1923 г. НКЗБ.

### *1922/23 опэрацыйны год.*

У летні пэрыод 1923 г. па Мазырскай акрузе адбываліся работы, галоўным чынам, дасьледчыя, па канавах і рэчках з мэтай складаньня

проекту капітальнага іх рамонту. За летні пэрыод г. г. былі зроблены досьледы па ўсіх існуючых канавах Тураўскага ляснога масыву—працягласьцю ў 243 в. 323,30 саж., Глушкаўскага ляснога масыву 98 в. 194,25 с. у дзяржлугфонду Ляхавічы-Зімовічы на плошчы ў 6074,04 дзес. з лікам нівэліровачных ходаў у 272 в. 280 с., а ўсяго па акрузе было нівэліравана 614 в. 297,45 саж.

У мэтах павялічэньня эксплёатацыйна-сплаўной, а таксама абчысткі іх ад пабудаваных гацяй і іншых перашкод, якія затрымліваюць вольны зьбег вады па ім, у 1923 г. быў зроблены хуткі рамонт канаў Бычка, Крушнянскае, Норы і Тураўскае магістральнае, у Тураўскім лясным масыве на працягласьці 74 в. 333,20 с., Прыбалавіцкае і Нерасьнянскае ў агульнай працягласьці на 23. в. у Глушкавіцкім лясным масыве, а разам па акрузе на працягласьці 97 в. 333,20 саж.

На канавах, якія перасякаюць прасёлачныя дарогі і дарогі сельска-гаспадарчага прызначэньня, было адбудавана 13 разбураных мастоў. Гэта каштавала 14000 руб.

*1923/24 опэрацыйны год.*

У гэтым годзе вялася апрацоўка матар'ялаў, сабраных за лета 1923 г. для складаньня проекту мэліорацыйнае працы, а таксама і ў кірунку організацыі мэліорацыйных т-ваў. Расходы на мэліорацыі ў гэтым годзе складалі 2000 руб. сродкаў мясцовага бюджэту.

*1924/25 опэрацыйны год (работы дзяржзначэньня).*

У 1924/25 г. мэліорацыйная праца была значна павялічана ў параўнаньні з ранейшымі гадамі. За летні пэрыод гэтага году, паводле проектаў, складзеных у 1924 г., быў праведзены капітальны рамонт Найда-Бялёўскае канавы Жыткавіцкага р. на працягласьці 11 в. 450 саж. з аб'ёмам выняткі ў 5841,98 куб. саж. і ў Лельчыцкім р. Прыбалавіцкае і Нерасьнянскае канаў на агульнай працягласьці ў 20 вёрст 382 саж. з аб'ёмам выняткі ў 4532,54 кв. саж. Усяго па акрузе адрамантавана было 32 в. 282 с. галоўных магістральных канаў з аб'ёмам выняткі ў 10374,52 куб. саж. Для павялічэньня эксплёатацыйнай здольнасьці Нерасьнянскае канавы і абвадненьня да 1000 дзесяцін сялянскіх забалочаных зямель быў пабудаваны адзін вадаспуск. Падпадаючыя-ж размыву пакаты адрамантаваных канаў былі ўмацованы хварасьцянымі плятнямі, агульная працягласьць якіх 969,1 саж. (У Жыткавіцкім р. 570 і Лельчыцкім—391,1 саж.).

Па канавах, якія перасякаюць дарогі прасёлачныя і сельска-гаспадарчага прызначэньня, пабудавана ў Лельчыцкім р. 4 і Жыткавіцкім 2 масты. Для складаньня проектаў мэліорацыі дзяржфонду Дзякавічы-Ветчын (2700 дзесяцін) і рамонту канаў былі зроблены гідротэхнічныя досьледы з нівэліроўкай на працягласьці 206 вёрст. Агульныя выдаткі на праведзеныя работы за кошт дзяржавы ў 1924/25 г. складалі 59370 руб. 81 кап.

Дзякуючы рамонту канаў у 1924/25 г. было абсушана 640 дзесяцін балот і ўтворана вадапрыемнікаў на балотнай плошчы ў 6000 дзесяцін, павялічана сплаўная здольнасьць канаў, што відаць з даданай ведамасьці сплаўленых матар'ялаў за два гады, і створана для насельніцтва магчымасьць мэліараваць забалочаныя землі, што і праводзілася ў летні пэрыод 1926 г. Для пропаганды мэліорацыйнага будаўніцтва ў 1925 г. былі зроблены таксама кіно-здымкі мэліорацыйна-гідротэхнічных работ у Мазырскай акрузе.

*1925/26 опэрацыйны год.*

У гэтым годзе праведзены: а) капітальны рамонт Найда-Бялёўскае канавы, Глушкавіцкае магістральнае, канаў № 19 і 31 агульнай працягласьцю на 25 в. 151,5 саж.; б) беглы рамонт Тураўскае, Беражэўскае, Трамлянскае, і Глушкавіцкае агульнай працягласьцю на 46 в. 357,5 саж.; в) умацавана канаў плятнямі на працягласьці 3116,88 саж.; г) пабудавана 7 мастоў і 2 шлюзы агульнай працягласьцю на



Прыёмка зробленага ў Лельчыцк. раёне шлюза на Нерасьнянскай канаве.
1925 г. З нэг. Акрза.

3116,86 саж.; д) праведзены досьледы на р. Вубарці і канавах на працягласьці 569,73 клм.

У летні пэрыод 1926 г. мэліорацыйнай працы перашкаджалі вялікія дажджы, у выніку чаго ўзровень балотнае вады быў вышэй нормальнага і часта даходзіў да веснавога, пакрываючы месцамі балоты вадою да 0,75 мэтра. Вада разбурвала адрамантаваныя канавы, а месцамі з-за высокага ўзроўню вады прыходзілася прыпыняць працу да стоку вады, на р. Вубарці прышлося зусім спыніць дасьледчую працу.

Кошт мэліорацыйных прац за 25/26 г. па дзяржаўных, мясцовых бюджэтах і крэдытах Белсельбанку складае 95167 р. 61 к.

*1926/27 мэліорацыйны год.*

У гэтым годзе па дзяржбюджэту праведзены дасьледчыя працы на р. р. Вубарці, Славечне, на Вятчынскай канаве, на Сьнядзінскай канаве, на Жыткавіцкай усяго на працягу 1413,13 клм.; праведзены будаўнічыя працы на 20,56 клм. на Найда-Бялёўскай канаве (рамонт), на Глушкаўскай (рамонт) на 12,75 клм., усяго на 33,31 клм. Апрача гэтага замацавана на канавах накатаў на 3877,79 мэтр., пабудавана на канавах 106 мастоў і 1 шлюз. На ўсю памянёную працу страчана 74830 р. 42 к.

## Удзел у мэліорацыі мясцовага насельніцтва.

Паводле свайго характару мэліорацыйныя працы падзяляюцца на працы дзяржаўнага і мясцовага значэньня. Да першых належыць стварэньне вадапрыемнікаў у забалочаных мясцовасьцях (рэгуляваньне рэк і пракопка магістральных канаў), да другіх—канчатковая асушка (пракладаньне невялікіх бакавых канаў і культурна-тэхнічныя мерапрыемствы).

Патрэбнасьць на мэліорацыйныя працы вялікіх сродкаў, а таксама неабходнасьць правядзеньня адначасна працы на ўсёй балотнай плошчы ў яе топографічных межах, вымагаюць прыцягненьня да памянёнае працы насельніцтва, коопэраваньня яго для гэтай мэты ў мэліорацыйныя т-вы, а таксама і прыцягненьня зацікаўленых ўстаноў.

Організацыя мэліорацыйных т-ваў на Мазыршчыне была распачата з 1923/24 г. Рост т-ваў, а таксама памеры балотнай плошчы для мэліорацыі малююцца так:

| Год | Лік т-ваў | Лік членаў у т-вах | З ліку т-ваў організавана на землях: (у дзесяц.) | | | Што складае % плошчы, падлягаюч. мэліорацыі | | | Коопэравана ў % у адносінах да агульнага ліку гаспадарак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Надзельнай | Дзярж-фонду | Усяго | Толькі сенажацяй | Усяго плошчы | У сярэднім прыходзіцца на 1 чал. т-ва дзесяцін | |
| 1924 | 13 | 1925 | 7785 | 5000 | 12785 | 10,16 | 6,53 | 6,64 | 3,65 |
| 1925 | 30 | 4513 | 9000,64 | 11980,46 | 20981 | 16,67 | 10,72 | 4,64 | 8,56 |
| 1926 | 33 | 4757 | 10436,61 | 11985,61 | 22422,22 | 17,82 | 11,46 | 4,71 | 9,02 |

Мэліорацыйныя працы т-ваў пачаліся з 1924 году і выкананьне іх выяўляецца ў наступным:

| Гады | Праведзена досьледаў | | | Пракопана новых канаў | | | Усяго выкапана | Дзякуючы чаму асушана дзесяцін |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | На плошчы ў дзес. | Пройдзена вёрст | На суму (руб.) | Вёрст | Аб'ём у квад. саж. | На суму | На суму ў руб. | |
| 1924 г. | 932,92 | 79 в. 76 с. | 790 | | — | — | 790 | — |
| 1925 г. | 6813,42 | 224 в. 272 с. | 1720 | 152 | 580,63 | 2322,52 | 4042,52 | 41 |
| 1926 г. | 715 | 67 в. 160 с. | 670 | 13в. 5 с. | 2193,98 | 8775,92 | 9445,92 | 650 |
| 1927 г. | 12350 гэк. | 413,47 кл. | 6283,67 | 33,31 кл. | 12788,98 к. м. | 18225,79 | 24509,49 | |

*Увага:* 1) У 1926 г. Панескае, Салагубаўскае і Пеніцкае т-вы атрымалі крэдыт на мэліорацыйныя працы (гідротэхнічныя) у суме 4100 руб., што складае 43% ад выкананых т-вамі гідротэхнічных прац. 2) У кошце выкананых т-вамі мэліорацыйных прац паказаны і выдаткі дзяржавы на ўтрыманьне тэхпэрсоналу.

Калі параўнаць выдаткі дзяржавы на мэліорацыйныя працы ў паказаны пэрыод з выдаткамі насельніцтва, то побачым, што апошняе прымала ўдзел у мэліорацыйнай справе ў колькасьці, якая вызначаецца наступнымі %:

1923 г.—,1924 г.—39,5%, 1925 г.—6,8 %, 1926 г.—10,68%, а ў сярэднім на 8,72%.

Слабы ўдзел насельніцтва ў мэліорацыйным будаўніцтве тлумачыцца нездавальняючым тэхнічным абслугоўваньнем т-ваў, аб чым сьведчыць той факт, што да 1924/25 г. для гэтай мэты ў акрузе ня было ніводнага тэхніка, у 1924/25 г. было толькі 2 тэхнікі, якія фактычна ня мелі мажлівасьці абслужыць усе 33 т-вы, дзякуючы чаму ў летні пэрыод 1926 г. з 33-х т-ваў працавала толькі 14. Вялікай перашкодай у працы т-ваў зьяўляецца таксама адсутнасьць вадапрыемнікаў, бо існуючая старая сетка канаў уся патрабуе капітальнага рамонту.

---

С. І. Кацнэльсон.

# Лясная гаспадарка Мазыршчыны.

У даваенны час агульная плошча лясоў Мазыршчыны ў сучасных адміністрацыйных межах акругі складалася з лясоў былога Мазырскага павету ў 754.859 гэкт. і часткі лясоў Рэчыцкага павету ў 144.391 гэкт., з якіх скарбовых лясоў было 20%, прыватна-ўласьніцкіх 73% і сялянскіх 7%. Сярэдняя лясістасьць—45%, а на душу насельніцтва ў сярэднім прыходзілася 2,05 гэкт. лесу. (Глядзі ніжэй табліцу).

Уласьніцкія лясы былі ў хаотычным стане і прадаваліся бясплянава, у залежнасьці ад грашовых патрэб уласьніка.

У выніку гэтага лясы вельмі нішчыліся. Сярэдні запас драўніны упаў да 148 кубамэтраў на гэктары, сярэдні прырост, дзякуючы адсутнасьці лесакультурных работ і догляду за лесам выявіўся ў 1,61 куб. мэтр. на гэктар прыгоднай лясной плошчы.

Сьпелыя і прысьпяваючыя ўзросты былі высечаны амаль на 60—70%. Штогодны водпуск лесу з аднаго гэкт. прыгоднай плошчы дасягаў памеру ў 3,06 к. м., (амаль што ў два разы правышаў гадавы прырост).

| Назва | Кольк. гэкт. | %% к. агул. прыгодн. лясн. плошчы | Сярэдні запас на гэкт. | Сяр. гадав. прырост на 1 гэктар. | Гадавы водпуск лесу | Кашт. у даваен. руб. | Валавы прыбытак на 1 гэкт. лесу | Штогодні водпуск драўніны на 1 гэкт. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Скарбовыя лясы . . | 181157 | 20% | 3.25к.м. | 3,54 к. | 439598 | 1079000 | 9—66 | 2,43 |
| Прыватна-ўласьніцкія . . . . | 660257 | 73% | 148 | 1,61 | 2020041 | 3125866 | 6— | 3,06 |
| Сялянскія . . . . | 57836 | 7% | — | — | — | — | — | — |
| | 899250 | 100% | — | — | 2459639 | 4204866 | — | — |

На адну душу насельніцтва прыходзілася 2,05 к. м., сярэдняя-ж спажыўнасьць на адну душу выяўлялася ў 0,06 к. м. лесу для будоўлі і 0,24 к. м. дроў.

У пэрыод імпэрыялістычнай вайны розныя ваенныя і паўваенныя організацыі, як: Ваенна-палявое будаўніцтва Прыпяцкага раёну, Акруга шляхоў зносін па ваенных работах на рацэ Прыпяці і па чыгуначна-дарожным будаўніцтве—па пракладаньні другога шляху Падольскай

чыгункі ў парадку рэквізыцыі атрымалі звышкаштарысныя лесасекі ў неабмежаваных памерах. Лясная гаспадарка акругі зусім заняпала.

А ў лесе патрэба была вельмі вялікая. Амаль 90% насельніцтва акругі—сялянства ўладала толькі 7% агульнай лясной плошчы і то самай горшай якасьці, а 73% яе знаходзілася ў невялікай групы ўласьнікаў, у руках якіх было права, закон, улада і грошы.

Зьнішчэньне-ж лясоў прыватна-ўласьнікамі, рознымі організацыямі ў часы імпэрыялістычнай вайны і інтэрвэнцыі, на вялікі жаль, нічым ня можа быць папоўнена і ў выніку гэтага прыгодная лясная плошча скарацілася на 20%. Лес быў высечаны на дваццаць гадавых лесасек наперад.

У такім стане знаходзілася лясная плошча да 1920 г., і толькі з 1920 г., калі Беларусь вызвалілася з-пад улады розных інтэрвэнтаў, пачынаецца пэрыод аднаўленьня народнае гаспадаркі Мазыршчыны.

Да 1927/28 году дасягнуты вельмі значныя посьпехі па аднаўленьні лясное гаспадаркі:

1) Організавана кіраўніцтва нацыяналізаванымі лясамі, уключаючы і ранейшыя скарбовыя. Лясы разьдзелены на 26 лясьніцтваў, 112 аб'ездаў і 636 абходаў, вызначыўшы сярэднюю плошчу лясьніцтва 2612 гэкт., аб'езды—6064 гэкт. і абходы—1067 гэкт. (Усе лясьніцтвы падпарадкаваны лясному пададдзелу АКРЗА);

2) Далей была зьвернута ўвага на ўпарадкаваньне лясоў і да цяперашняга часу ўпарадкаваны 265.689 гэкт. (39%).

3) У сучасны момант праводзяцца ўсе неабходныя мерапрыемствы, каб да канца 1929/30 году засеяць лесам усе пустыры, бо за час імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайны ў акрузе плошча не засеяная лесам (высечкі, пустыры, прагаліны і пажарышчы) дайшла да 15.860 гэкт., а таксама сыпучых пяскоў паміж лясных дач—да 16.500 гэкт.

4) Экcплёатацыя лясоў мае вялікія дасягненьні, асабліва ў галіне падняцьця прыбытку, што можна бачыць з наступнага:

Да 1921 г. дзяржава ня мела прыбыткаў ад лясоў. Усе разьлікі паміж органамі і організацыямі, якія эксплёатавалі лясную гаспадарку, рабіліся шляхам бугальтэрскіх пераразрахункаў, толькі з 21 году пачынаюцца першыя грашовыя паступленьні за драўніну. З кожным годам прыкмячаецца рост прабытку.

Асабліва яўнае павялічэньне прыбытку мы бачым у 25/26 г., які даходзіў да 7 р. 60 к. з гэктара.

Гэта тлумачыцца ўвядзеньнем к таму часу разьмеркаваньня лесасек з таргоў, што і выявіла рыначную цану лясных матар'ялаў.

У выніку паказаных мерапрыемстваў лясная гаспадарка з сваіх прыбыткаў дала ў мясцовы бюджэт за 27/28 г. 1.278.400 р. (42,8%) удзелу ў агульнай прыбытковай частцы мясцовага бюджэту—бруто акругі, ці 49,73% да бюджэту нэто, валавая-ж прыбытковасьць на 27/28 год зьлічаецца ў суме 3.554.824 р.

Гадавая лесасека галоўнага карыстаньня выяўляецца ў колькасьці 3.265 гэкт. з агульным дрывяным запасам 418.814,30 к. м., а ўсяго адпускаецца 1.601.950,49, пераважна з зямельных фондаў і ў цяперашні час патрэбнасьць у лесе задавальняецца па нашай акрузе паўней, чым па іншых акругах Рэспублікі.

6) Апроч адзначанага, дасягнута найбольш строгая сыстэма абаротаў вырубу, скарочаны памеры водпуску гадовых лесасек у параўнаньні з прыростам, гэта дапамагае ліквідаваць перарубы лясоў.

Агульная плошча лясоў акругі ў сучасны час складае 732352

гэкт., у тым ліку лясоў дзяржаўнага значэньня 679.155 гэкт. і лясоў мясцовага значэньня 53.273 гэкт.

Плошча лясоў дзяржаўнага значэньня мае прыгоднай—511.824 гэкт., угодзьдзяў—40.481 гэкт., балот і іншых няпрыгодных зямель 126.490 гэктараў.

Прыгодная лясная плошча дзеліцца на зарослую лесам 435532 гэкт., бязьлесную (вырубкі, прагаліны) 76294 гэкт. Лясістасьць акругі складае 38,5%, на адну душу прыходзіцца 1,6 гэкт. лесу, а на адзін двор—8,8 гэкт.

Пакрытая лесам плошча дзяржаўнага значэньня па лясных гаспадарках і ўзростах разьмяркоўваецца так:

| Гаспадаркі | Узросты | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сьпелых | Прысьпяваючых | Сярэдн. узрост | Маладнякоў | Усяго | %% удзелу па гаспадарках |
| Хваёвае . . . . . | 22703 | 36346 | 67824 | 126986 | 253860 | 58,30 |
| Ліставое. . . . . | 6025 | 4722 | 16487 | 13792 | 41026 | 9,60 |
| Альховае . . . . . | 2902 | 5450 | 9813 | 7837 | 26002 | 5,90 |
| Іншыя лістав. пароды . | 9672 | 19171 | 33923 | 41878 | 114644 | 26,20 |
| Усяго . . . | 51302 | 65689 | 128048 | 190493 | 435532 | 100% |

На падставе сабраных матар'ялаў аб стане лясоў сярэдні запас лесапасадкі складае 98 к. м. на адзін гэктар. Такім чынам, лясны капітал (агульны запас) Мазырскай акругі роўны 42.906.071 к. м., ці 20% усяго ляснога запасу Беларусі.

Для патрэб насельніцтва выдзелена з агульнай плошчы 53327 гэкт. лесу, які і траціцца па пэўным пляне, па 52.620 куб. м. у год; адпускаецца лес платна, бясплатна і льготна.

Важнейшым марапрыемствам да паляпшэньня быту сялянства і лесабудаўніцтва зьяўляецца выдзяленьне сялянскіх зямельных вучасткаў з агульнай плошчы дзяржаўных лясоў, якое праводзілася ў тэрміновым парадку з так званага „зямфонду“ ў колькасьці 102525 гэкт., або 11,9% усёй лясной плошчы, з якіх 39.581 гэкт. з агульным запасам драўніны ў 3.522.579 к. м.

---

**Тарановіч.**

# Старасьветчына Мазыршчыны ў матар'яльных помніках.

## I.

Мінулае пры Мазыршчыны шчыльна зьвязана з многаводнай р. Прыпяцьцю і яе ўтокамі і, так званай, славянскай прарадзімай. З гэтай прычыны даславянскія таксама і славянскія часы гэтай часткі Беларусі вельмі цікавы. Мала гэтага, Мазыршчына мяжуецца з багатымі краінамі—Валыньню і Кіеўшчынай—праз якія накіроўваўся струмень народных рухаў на поўнач і захад і, разумеецца, адбіваўся на яе гістарычным жыцьці.

Багата Мазыршчына рэшткамі архэолёгічных помнікаў, гэта відаць з наступнага пераліку тых стаянак, гарадзішч і курганоў, якія мы зараз знаходзім па раёнах Мазыршчыны.

Лепшай, хаця ўжо стараватай, працай, якая прысьвечана архэолёгіі Мазыршчыны, лічыцца праца проф. В. З. Завітневіча „Область дреговичей, как предмет археологического исследования“ (Тр. Кіев. Д. Акад. 1886 г. № 6 і 8).

Але нават тутака няма вычарпальнага пераліку архэолёгічных помнікаў на Мазыршчыне, якія і падаем зараз.

**Азарыцкі раён:** а) *Гарадзішчы:* 1) бяз назвы ў 2 кілём. ад в. Валасовіч (таго-ж сельсавету, займае плошчу да 2-х дзес., нібыта ад швэдзкае вайны; 2) паміж вёскамі Карпавічы (7 в.), Карані (5 в.) і Людзьвінаўка (5 в.), у забалочаным лесе на поўнач ад р. Іпы. Форма яго круглая, займае плошчу да 2-х дзес., вышыня вала да 4,5 арш., выхад мае з паўночнага боку.

б) *Курганы:* 1) у вур. Гарадзінка (на паўд. зах. ад Азарыч) каля р. Ехаўкі, адзін курган, вышынёю да 1 м., плошчай да 1 гэкт. У цэнтральнай частцы кургана ёсьць катлінка. Гэты курган калісь быў зарослы дубовым лесам. Насельніцтва апавядае, што гэта „акоп“, зроблены ў часы швэдзкае вайны; 2) групы курганоў у вур. Хрыстоўка і Гумнішча, (на захад ад в. Славунь і ў вур. Коннае, у адлегласьці да 7 в. на ўсход ад тае-ж вёскі). Па апавяданьнях насельніцтва ў адным з курганоў гадоў 30 таму назад былі знойдзены грошы. Вышынёй курганы больш мэтра, у дыямэтры кожны курган мае 4-5 мэтраў; 3) на адлегласьці 3-х кілём. ад в. Савічы, паміж в. Курганы і Крывушы знаходзіцца ў лесе 9 курганоў. Вышыня кожнага кургана дасягае 0,5—1 м. дыямэтр амаль 7 мэтр. Па апавяданьнях насельніцтва курганы—рэшткі швэдзкае вайны.

в) *Камень* з напісам, у адлегласьці ад 1/4 кілём. ад фальварку Ворсічы (Крукавіцкага сельсавету), у хваёвым лесе на ўзгорку, мае ў вышыню 1 арш. 2 вяршкі і ўшыркі 14 вяршк. На версе каменя і на бакох ёсьць значная колькасьць літар і высечаны шасьціканцовы крыж на паўмесяцы.

г) *Магільнікі* на адлегласьці 1,5 кілём. ад в. Лясец пры дарозе ў Мехаўшчыну ў вур. Памецішча і Цыганка. Мясцовасьць тут пяшчаная і выдзьмуваюцца ветрам косьці людзей.

**Жыткавіцкі раён.** Каля в. Вільча—каменны крыж. Па апавяданьнях насельніцтва ён пастаўлены на магілцы некага швэдзкага князя, забітага ў часе швэдзкае вайны. Каля хв. Доўгая-Дубрава на балоціне знаходзілі, па зьвестках старажыл, рэшткі судна і каля возера Белае знаходзілі фрагмэнты пасуды, косткі.

На возеры Князь, блізка на сярэдзіне сустракаюцца на дне цягліны, з аднаго боку абкураныя, там-жа назіраюцца ўбітыя ў дно палі, паводле досьледаў тэхнікаў Мазырскага Акр.ЗА на плошчы 90×50 м.

**Капаткевіцкі раён:** Курганы каля в. Івашкавічы ў вур. Вячэра. Па апавяданьнях насельніцтва, тут у часе вайны 1812 г. былі пабіты французы ў часе вячэры, ад чаго і вурочышча атрымала сваю назву.

**Каленкавіцкі раён:** а) *Гарадзішчы*: 1) у 6 в. ад в. Кротава, на паўдн. захад. круглае формы, плошча 1200 кв. саж., вышынёю 2,5 арш., завецца насельніцтвам „Гарадок“. 2) Два („гарадкі“) каля в. Носавіч—адно ў адлегласьці 1 клм. у вур. Гогалеў, другое—у адлегласьці 8,2 клм. у вур. Дубовым, абодвы ў балоце, круглае формы, на 20 саж. у дыямэтры і на 2 саж. вышыні над балотам. 3) Два гарадзішчы каля в. Юшкі ў адлегласьці 3 клм. на поўнач ад вёскі, пры балоце, круглае формы з валам вышынёю да 2-х арш. 4) „Гарадок“ у лесе каля

в. Слабады ў адлегласьці 3 клм. абкружаны валам. У 1908-1910 г. тут былі раскопкі, у часе якіх знаходзілі зброю, старасьвецкія грошы, залатыя пярсьцёнкі, какошнікі.

б) *Курганы:* 1) Каля в. Шычы, на адлегласьці 2-х клм. у вур. Гала. Форма круглая, у акружнасьці мае 18 арш. і вышынёю да 2,5 арш. 2) Па дарозе з в. Якімавічы ў Капліччы, на Якімавіцкім полі, налева ад дарогі, супроць в. Кротаў; група кургаоў круглае формы ў лесе, добра захавалася. Насельніцтва апавядае, што гэта рэшткі швэдзкае вайны. 3) Група курганоў каля в. Дудзіч, на паўн. зах. у адлегласьці 2,5 вярсты.

в) *Даўнія могілкі:* 1) У 4 клм. ад в. Носавіч у вур. Селішча, паводле апавяданьняў насельніцтва, тут была вёска, насельніцтва якое памерла ад чумы.

г) *Стаянкі:* (гл. карту) 1) № 14 каля в. Гулевіч у вур. Куль; 2) № 15 у вур. Селішча; 3) № 16 на захад ад Гулевіч, каля сядзіб вёскі.

Апрача гэтага каля в. Капліч у 1925 г. знойдзена каменная сякера, а на балоце паміж в. Малыя Аўцюцевічы, Каленкавіцкага і Вялікія-Аўцюкевічы, Юравіцкага раёну перад вайною 1914 г. былі знойдзены рэшткі судна і воск.

**Каралінскі раён**: *Гарадзішча:* Каля ст. Славечы ў лесе пры р. Славечна, круглае, дыямэтр 30 саж. вышыні да 6 арш. Пры ворыве тут знаходзілі зброю і грошы невядомага паходжэньня. Па апавяданьнях населяніцтва насып тут зроблены нібы з прычыны нараджэньня ў Кацярыны ІІ-е сына.

б) *Курган* у вур. Плесо, круглы, верх разбураны.

в) *Камень* у вур. Востраў, у 5 в. ад м-ка Ельска, на паўдн. ўсход, памерам 8×10 вяр. з невядомымі надпісамі.

Каля в. Рэдзька ў 1925 г. знойдзен прадмет каменнага веку.

**Лельчыцкі раён**. *Курганы* (10-15 штук)—каля в. Буйнавічы, 0,25 вяр. ад вёскі на поўдзень. Затым *магільнік,* і, на паўн. зах. у адлегласьці 4 в. на кургане ёсьць *камень-пліта* з невядомымі надпісамі, каля хутара „Стары Фольварак“ (каля м. Лельчыц).

Паводле апавяданьняў курганы каля в. Буйнавічы гадоў 30 таму назад раскопваліся: у іх знаходзілі косткі людзей, пасуду і знайшлі залаты пярсьцёнак. Каля в. Буйнавічы, у адлегласьці 0,25 в., у вур. Бенькава поле, у 1907 г. знойдзены быў скарб (гладышка з рознымі грашыма), у якім былі і ўтрэхцкія дукаты ад 1607 г.

**Нараўлянскі раён.** Селішча Хоменны круг у балоціне каля в. Дуброва. Гарадок на ўсход ад в. Мухаеды, у адлегласьці 1,5 в. Гарадзішча каля в. Антонава, у адлегласьці 0,5 клм. у паўн.-зах. кірунку, на плошчы 120 саж. Селішча каля в. Дзёрнавічы, у адлегласьці 1,5 в., на беразе Прыпяці, на плошчы 7-9 дзес.; Селішча пры р. Прыпяці паміж в. Даўляды і Бела Сарскай, тут сустракаюцца чарапкі пасуды і вугольле.

а) *Курганы:* 1) Каля в. Аляксандраўка ў вур. Шолаб (2 разораныя круганы), у вур. Закруглая курганы вышынёю да 2 саж. 2) каля в Гажын 4 курганы вышынёю да 2-х арш. 3) каля в. Бібікі—тры групы курганоў: першая—у паўн.-заходн. кірунку (4 курганы), 2-я—у паўн. (3 курганы), 3-я—у паўн.-ўсх. (2 курганы). Пры ворыве на адным кургане траплялся чалавечыя косткі; 4) каля в. Стрэльска, у адлегласьці 1 в. каля дарогі 5 курганоў; 5) на захадзе ад в. Грушаўка пры вёсьцы, каля дарогі на Антонаў, ёсьць група курганоў у 25 шт. паміж в Грушаўка і Антонаў, па сярэдзіне між імі—другая група ў 10 шт.; 6) к поўначы ад в. Дзёрнавічы, на абодвух берагох Прыпяці—2 курганы, з якіх адзін завецца Шчэглова гара, другі—Прусава гара; 7) каля

в. Красноўкі, дзе выворваюцца штыхі, кацялкі і 8) каля хут. Дуброўскіх група курганоў каля 15 шт.

*б) Камяні*: Каля в. Мухаед камень овальнае формы з дзіркай у сярэдняй частцы, „Каменныя валы“ ў 2-х вяр. ад в. Бібікі ў паўн.-заходн. кірунку.

Прылады каменнага веку знойдзены каля в. Аляксадраўка—(сякера, каля Мухаедаў—долата (хаваецца ў Мухаедаўскай школе), каля в. Міхалак—сякерка.

в) Стаянка знойдзена каля в. Канатоп. Там сустракаюцца чарапы глінянае пасуды і кремнёвыя скарбкі (захоўваюцца матар‘ялы з стаянкі ў Нараўлянскім музэі).

**Пятрыкоўскі раён**: а) *Селішчы:* Грачыня, у адлегласьці ад м-ка Скрыгалева ў 2 клм. на беразе р. Прыпяці. На тым месцы трапляецца шмат чарапоў глінянае пасуды, камянёў, чалавечых костак на глыбіні 2 дцм. Паводле зьвестак Н-ка Гузарэвіча, тут гадоў 80 таму назад былі знойдзены гр-нам Вараксічам Андрэем жалезныя крыжы, а таксама тут знаходзілі пацеркі, грошы, брошкі. Вада значна размыла Грычыню і цяпер часта вымывае чалавечыя шкілеты. 2) Поўчына, або Залатуха, дзе, паводле апавяданьня, быў манастыр, спалены татарамі. Цяпер на глыбіні 0,5 м. сустракаюцца абгарэлыя каменчыкі і чарапы пасуды. 3) Старое сяло, недалека ад старога рачышча Прыпяці ў адлегласьці 2 вёрст ад в. Ляскавічы ў паўдн.-зах. кірунку. Яно займае плошчу да 70 дзес.

б) Гарадзішча „Гарадзенск“ пры балоціне на захад ад в. Сьнядзін у адлегласьці 10 клм. у адлегласьці ад Судзібара ў 4 клм. Гарадзішча мае форму амаль-што правільнага круга, даўжыня якога 845 крокаў, вышыня наспы каля 3-х мэтр.; шырыня ў пачатку каля 10 мэтр., уверсе каля 4 мэтр. Паводле апавяданьняў насельнікаў, тут нібыта быў калісь горад; 2) „Гарадок“ у 2 клм. ад Скрыгалава. У зямлі тут знаходзіцца шмат вугалю.

в) *Курганы*: 1) У вур. Бакляроўка, каля рэчкі тае-ж назвы, у адлегласьці 4-5 клм. Скрыгалава. Паводле апавяданьняў насельнікаў, гэтыя курганы гадоў 20 таму назад якойсьці экспэдыцыяй раскопваліся, і знойдзены былі скрыні з грашыма і шкілеты людзей залатыя завушніцы, пярсьцёнкі, зброя. 2) Каля в. Макарычы ў адлегласьці 1 в. ад Прыпяці ёсьць 1 курган вышынёю 1,5 арш.

г) Каля в. Майсееўкі пры ўпадзеньні р. Вубарці ў Прыпяць у 1927 г. т. Калодкіным Я. Р. знойдзена стаянка (№ 17 гл. карту), дзе трапляюцца чарапы глінянае пасуды і крамнёвыя скарбкі.

**Тураўскі раён:** а) *Гарадзішчы.* 1) Каля в. Хільчыц, у адлегласьці 1 клм. на поўнач па ральлі, круглае формы, плошча каля 0,5 дзес., вышынёю да 6 м., вышыня валоў дасягае 2-х мэтр. 2) каля в. Азяраны, у адлегласьці 3 клм. на паўдн. ўсход, эліптычнае формы, плошча да 5 дзес., вышыня валаў дасягае месцамі 2,5 мэтр., у лесе. 3) у адлегласьці 8 клм. ад в. Боркі ў паўноч.-заходн. кірунку эліптычнае формы, займае плошчу да 1,5 дзес., вышыня валаў у сярэднім дасягае 1 м., у лесе. 4) у 9 клм. ад в. Перарова на паўднёвы ўсход ад Пятрыкова на беразе возера Сіверскага.

Гарадзішчы насельніцтва Тураўшчыны заве „Гарадцамі“. Таўшчыня верхняга слою ў гарадзішчах нязначаная, 10-15 см. Пры дасьледваньні валаў Азяранскага, Хільчыцкага, Боркаўскага гарадцоў знойдзены попел, а на Хільчыцкага, Боркаўскага гарадцоў і прылягаючых мясцовасьцях знойдзены чарапкі глінянае пасуды ад розных пэрыодаў.

б) *Селішчы*: 1) каля в. Буразь, на поўдзень, у адлегласьці каля клм.; і 2) каля в. Любавічы, на захад, у адлегласьці каля 3 клм.

в) *Курганы:* каля в. Рычава, звыш 200 шт., распаложаны на б. р. Сьцьвігі (Зьдзьвігі). Групамі па 2-3 курганы, яны раскіданы па ўсёй Тураўшчыне. Так, каля в. Чэрнічы—4 курганы, в. Крэмнае—2 курганы; паміж Туравам і Старажоўцамі—1 курган (Бабруйкава гара) каля в. Сямурадцаў—2 курганы, каля Хваенску—1 курган, каля Недакольля—1 курган, усяго выяўлена 211 кургаnoў.




2) *Каменныя крыжы:* 1) У Тураве—2; 2) У Пагосьце—1; 3) У Верасьніцы—1, а ўсяго—4. 4) Каменная труна ў м. Тураве. Месц пахаваньня на тэрыторыі раёну знойдзена—3, каля Пагосту, Сьлянцоў, паміж Хільчыцамі і Буразь.

д) Яшчэ ў Тураўскім раёне ў абходзе № 14 Тураўскага лясьніцтва, у 5 в. ад в. Боркі ёсьць „Жукава магіла“, на якой быў раней камень. Паводле народнай легенды тут загінуў народны гэрой.

Нарэшце трэба яшчэ адзначыць вынайдзеныя т. Калодкіным Я. Р. стаянкі ў ваколіцах г. Мазыра ў 1927 г. Усяго тут знойдзена (выключаны Гулевічы) 13 стаянак (гл. карту). З гэтага ліку стаянкі № 1-10 распаложаны ў абшарах Заходняе чыгункі і х. Баравікі па левым беразе Прыпяці. Стаянкі 11-13—каля в. Бабранят, Каленкавіцкага раёну.

На паказаных стаянках знойдзены крамнёвыя стрэлкі, чарапкі глінянае пасуды, часта з прыгожаю орнамэнтыкай.

II.

Гэты сухі пералік памнікаў старасьветчыны даводзіць, што Мазырска-Тураўскае Прыпрыпяцьце было густа заселена ў часы гарадзішчаў і курганоў, чаму палачане ў пачатку X веку стварылі нейкі асяродак у Тураве на Прыпяці. У часы-ж Уладзімера Кіеўскага было выдзелена нават асобнае Тураўскае княства, якое ахапіла ўсю Мазыршчыну.

Паколькі ўтвораныя ў канцы X стал. княствы былі пэўнымі экономічнымі цэнтрамі таго часу (Кіеў, Ноўгарад, Полацак, Уладзімер і г. д.), мажліва высунуць думку, што Тураў ужо быў у той час экономічным асяродкам на Прыпяці.

Да 1005 г. даходзяць весткі аб межах былой Тураўскай эпархіі, якая павінна была больш-менш супадаць з тэрыторыяй княства: Пінск, Новыгорад, Горадня, Берасьце, Волкавіск, Зьдзітаў, Нобель, Сьцепань, Дубровіца, Высожа, Случэск, Копысь, Ляхоў, Гарадок. Калі гэта былі межы і Тараўскага княства, то нічога ня будзе дзіўнага, што тут мы сустракаемся з такім выдатным фактам, як знаходжаньне ў Тураве пры княскім двары Сьвятаполка Уладзімеравіча р.-кат. біскупа Рэйнбэрга, які высунуў проект далучэньня Тураўскага княства да Польшчы. Сьвятаполк быў жанаты (1010 г.) на дачцэ польскага караля Балеслава Храбрага. Рэйнбэрг пачаў праводзіць паўстаньне супроць Кіева. Відаць, Польшча таксама была зацікаўлена ў далучэньні да сябе Мазыршчыны.

Пляну і гэтым крокам не пашанцавала. Сьвятаполк з жонкай і Рэйнбэргам трапілі ў кіеўскую турму.

Помнікам культурнага жыцьця Мазыршчыны у часы сярэднявечча засталіся да нашага часу лісты Тураўскага Эвангельля (XI стал.) і творы Кірылы Тураўскага (другой паловы XII ст.).

Але ўжо да часу татарскае навальніцы Тураўшчына пачала траціць экономічную моц. На верхавіне Прыпяці заснавалася Горадзенскае княства (м-ка Гародня к поўдню ад Пінску), якое ў пачатку XIII ст. перайшло пад літоўскі ўплыў, падняўся прыгарад Тураўскі Пінск, Берасьцейская зямля падпала пад уплыў Валынскага княнства [1]).

Пасьля Татарскага находу Мазыршчына ўжо існуе як частка Літоўскае дзяржавы. Палітычным асяродкам для Мазыршчыны стаў Кіеў. З гэтага часу пачыняецца ўздым Мазыра, у чым быў зацікаўлены Кіеў. З другой паловы XVI ст. Мазыр адыходзіць ад Кіеўшчыны і жыве ў складзе т. зв. рускіх—прыдняпроўскіх валасьцей.

III.

Горад Мазыр у летапісу першы раз памінаецца пад 1153 г., калі ён быў перададзены разам з іншымі гарадамі Кіеўскім князем Юр'-

[1]) Лепшая праца аб Тураве проф. Івана Ігнатавіча Малышэўскага: „Очерк истории Турава" 9 кнізе „Творения отца нашего Кирилла, епископа Туровского". Кіев 1880 г. Але ў экономічных адносінах—гісторыя Мазыршчыны чакае досьледу.

ем Даўгарукім свайму саюзьніку Сьвятаславу Вольгавічу, князю Чарнігаўскаму. У 1155 г. Сьвятаслаў ізноў аддаў Мазыр Кіеўскаму князю. У гэты час у Мазыры быў моцны замак.

Увайшоў Мазыр у склад Літоўска-Беларускага гаспадарства пасьля находу татар (1240-41 г. г.).

У XIII-XIV стал. Мазыр быў даволі значным гандлёвым горадам. Мазырскі замак (на цяперашняй гары Камунараў) у канцы XV ст. ня меў вялікае вартасьці ў стратэгічных адносінах, бо памянёную „гору" акружалі такія-ж „горы" з іншых бакоў, і замак меў драўляныя сьцены.

Знаходзячыся на вялікім гандлёвым шляху, Мазыр часта цярпеў ад войн. У 1508 г., пад час вайны з маскоўцамі Мазыр быў узяты войскам Глінскага, у 1521 г. быў спалены татарамі, у 1535 г. ізноў быў заваёваны маскоўцамі.

У XVI стал. Мазыр вызначаны павятовым горадам Менскага ваяводзтва. Насельніцтва яго было невялікае: паводле даных XVI ст., тут было ўсяго 230 вольных дамаўласьнікаў і 51 хлоп. з сем'ямі. Жыхарства займалася хлебаробствам і гандлем. Вялікаю цяжкасьцю для яго зьяўлялася ўтрыманьне замку, бо прыходзілася несьці розныя натуральныя павіннасьці сумесна з сялянамі прылеглых валасьцей, Мазырскай і Бчыцкай.

У XVI ст. Мазыр трапіў у рукі прыватнага ўласьніка Радзівіла ў якасьці заставы ў пэўнай суме грошаў, якая ім пазычана была дзяржаве.

Пасьля 1569 г., з часоў Люблінскае уніі, у горадзе распачалася полёнізацыя. З гэтаю мэтаю тут было пабудована 4 каталіцкія манастыры. Некаталіцкае насельніцтва падпадала пад экономічны, палітычны і рэлігійны ўціскі р.-каталікоў. З гэтае прычыны асноўная маса жыхарства гораду—мяшчане і рамесьнікі,—праваслаўныя па веры, спачувала казацкім паўстаньням на Украіне і нават сама прымала ўдзел у апошніх. Так у 1648 г. мазырцы з радасьцю прынялі войска казацкага палкоўніка Міхненка, у 1649 г. горад Мазыр быў узяты войскамі Януша Радзівіла, Міхненка, і жыхары панясьлі цяжкую кару. У 1659 г. Мазыр быў узяты войскам маскоўскага ваяводы Валконскага і быў некаторы час пад уладай апошняга.

З 1609 г. Мазыр карыстаўся Майдэборскім правам самакіраваньня.

Паводле пляну гораду Мазыра ад 1769 г., можна скласьці сабе ўяўленьне аб Мазыры ў тыя часы як невялікім гарадку. Бяз усякага парадку раскіданы будоўлі на невялікай плошчы ўзгоркаў і лагчын. Вялікая колькасьць цэркваў і манастыроў на паранаўча невялікую колькасьць жыхарства.

З 1793 г. Мазыр далучаны да Расійскае імпэрыі і ўвайшоў, як павятовы гарод, у склад Менскае губэрні. У гэтыя часы горад часта нішчыўся ад пажараў. Найбольш вялікія былі: у 1809 г., у 1839 г., у 1892 г. У часы апошняга пажару згарэла больш $^2/_3$ гораду.

Пры правядзеньні русіфікацыі касьцёлы і каталіцкія манастыры былі ў большасьці зачынены або перароблены ў цэрквы.

У апошнія гады перад імпэрыялістычнай вайной горад значна, у параўнаньні з мінулым, разьвіўся. Лік жыхарства павялічыўся да 10.000 чалавек. Жыхарства ў горадзе займалася, галаўным чынам, гандлем і саматужным промыслам, а ў прылягаючых хутарох—земляробствам. У 1915 г. быў збудаваны праз р. Прыпяць драўляны мост замеж быўшае тут пераправы на пароме.

Перад імпэрыялістычнай вайной у гарадзе былі 2 гімназіі і 6 ніжэйшых школ, было 3 вялікія фабрыкі і некалькі дробных.

У пэрыод часу з 1917 г. па 1921 г. жыхарства Мазыра шмат пакутвала ад находу палякаў, пэтлюраўцаў і балахоўцаў, перабіўшых многа жыхарства, а таксама разбурыўшых шмат будынкаў. Наагул цяпер горад пашыраецца і ў культурных адносінах далёка абагнаў дарэволюцыйны Мазыр. У горадзе ёсьць Пэдтэхнікум, Профтэхшкола, 4 сямілеткі, 2 чатырохгадовыя школы, значная колькасьць політасветных устаноў, ёсьць таксама ўстановы па дашкольным выхаваньні.

Помнікаў старасьветчыны ў гарадзе захавалася мала, гэта выключна цэркви і былыя касьцёлы, якія зьяўляюцца найбольшы даўнімі будынкамі гораду. Уся плошча былога замку забудавана; паводле слоў старажыл самы замак быў спалены ў канцы XVIII ст. старастаю яго, які зрабіў растрату крапаснае маемасьці.

IV.

Горад Тураў найбольш старажытнае паселішча Мазыршчыны. Паводле летапісных зьвестак ён ужо існаваў у 980 г.

Раньняму разьвіцьцю Турава спрыялі ня толькі палажэньне яго на вялікай рацэ, але і глеба Тураўшчыны, якая лічыцца аднэй з лепшых на Мазыршчыне.

Ад мінулага Турава захаваліся такія помнікі: 1) насыпны ўзгорак, распаложаны на паўночны захад ад мястэчка. Узгорак, акружаны ракой Струменьню, Яздою і 2-ма канавамі (на месцы яго быў даўней Крэмль-замак). 2) Перадолы (канавы), выкапаныя для абароны даўнейшага гораду. 3) 2 каменныя крыжы памерам у 1,4 мэтр, вышынёю. 0,75 мэтра шырынёю кожны, аб якіх захавалася легенда, што яны прыплылі з Кіева. 4) Насып каля в. Дварца, дзе, паводле паданьняў, быў загарадны дварэц князёў. 5) Гістарычныя назвы часткі ваколічных паселішчаў (Чэрнічы, Старажоўцы і г. д.).

---

П. Чайкоўскі.

## На „сямурадзкіх пяскох“.

„Сямурадзкія пяскі“ знаходзяцца ў 6 кілёмэтрах ад м. Турава—на паўднёвы ўсход і побач з вёскай Сямурадцы—на захад ад апошняй; аддзяляюцца пяскі ад вёскі вузкім балотам, якое абступае плошчу пяскоў навакол, так што прайсьці на пяскі можна толькі праз грэблю ад дарогі ў вёску Сямурадцы і с. Старажоўцы з Турава. (У сухі час можна прабіцца на пяскі з боку самае вёскі цераз хмызьнякі ад вясковых гародаў). Калі кінуць агульны погляд на пяскі,—можна думаць, што калісь гэта была пяшчаная выспа, значнай вышыні ўзгорак сярод балота або і вады. У сучасны момант, дзякуючы пануючым у нашай мясцовасьці паўднёва-заходнім ветрам, разьвеяўшым пясок амаль што ў тры староны, мы знаходзім на месцы колішнай гары шэраг паасобных пяшчаных бугроў з растучымі на іх нізкарослымі дрэвамі (хвоі, алешыны) і хмызьнякамі, а паміж бугроў—шэраг котлішч. Галоўнае котлішча, багата зарослае дрэвамі і кустамі, зняходзіцца амаль пасярэдзіне плошчы пяскоў, а яго падковай абкружае вал пяску, канцы якога ўпіраюцца ў гароды вёскі Сямурадцы.

Пяскі займаюць амаль што квадратовы кілёмэтр. Форму маюць прадаўгаватую, выцягнутую з захаду на ўсход. Дзякуючы таму, што сяляне вёскі Сямурадцы займаюць частку гэтае плошчы пад свае палеткі—сеюць жыта, ячмень, лубін—плошча пяскоў памяншаецца, асабліва з паўднёвнага заходняга бакоў.

„Сямурадзкія пяскі“, як і „пяскі Сьляпецкія“,—стаянка першабытных людзей, іх паселішча. Аб гэтым сьведчаць тыя крамнёвыя рэчы і шмат крамнёвых сколкаў, якія знаходзяць на пяскох. Крэмні, камні-нуклеусы ідуць сялянам на крэсіва. Стрэлкі, нажы, скрабкі—на забаву пастушком. Ня гледзячы на тое, што гэтыя крамнёвыя рэчы адвеку разьбіралі са стаянкі, і цяпер можна лёгка набраць скрабкоў, паламаных стрэлак на тых месцах, дзе ў апошні момант вецер разьвеяў верхні пласт пяску. Трапляецца ня мала чарапкоў глінянай пасуды вельмі старадаўняга вырабу, грубой ручной работы.—Кераміка—з рознастайным орнамэнтам і без яго.

Па ўсім абшары паўднёва-заходняй часткі сямурадзкіх пяскоў густа рассыпана гліняная бурага колеру галька, формы рознастайнай, буграватая, па сваёй форме і па сваім звону вельмі падобная да жалезнай руды. Гэтае глінянае галькі багата ня толькі на паверхні пяскоў, але-ж і на значнай глыбіні.

## „Млынацкі вал“.

„Гарадзішча“, „Вал“ альбо „Акоп“,—як завуць мясцовыя жыхары, знаходзіцца на поўдзень ад вёскі Перароўскі-Млынок, у 4-х кілёмэтрах ад апошняга, у лесе Азяранскага лясьніцтва, (квартал № 84, абход лясьніка Дранца). Гэтае гарадзішча мае форму амаль што круглую. Плошча яго прыблізна 6 гэктар. Апрача большага круглага вала—з паўночнага і ўсходняга боку,—ёсьць другі меншы вал, пабудаваны за круглым валам. Вышыня круглага вала, у большасьці сваіх пунктаў,—$2^1/_2$ мэтра, у меншасьці—$^1/_2$ мэтра, вышыня меншага незакончанага вала нязначная 1 м.—$^1/_3$ мэтра.

Плошча гарадзішча роўная, густа парослая лесам (дуб, граб, ліпа, асіна, бяроза, ляшчына). Культурны слой на самай плошчы гарадзішча—на лапату, зьверху—перагной лістоў і дрэва. Валы будаваны з бурага глею з тонкім пластом перагною. Капаць вельмі цяжка, бо ўся глеба як у валох, таксама і па валох моцна ўплецена дробнымі карэньнямі дрэў і кустоў ляшчыны, так што даведаецца аб якіх-небудзь сьлядох сталага жыцьля чалавечага вельмі цяжка (чарапкі ў верхнім слоі глебы ўсё-ж такі знаходзяцца).

Калісь гэта гарадзішча знаходзілася побач з нейкай рэчкай, якая зараз ужо зьнішчылася, зарасла, засталіся толькі сьляды яе ў выглядзе праўдагаватых азёр—„Сіверскага“ і „Мысьліч“. З цягам часу возера Сіверскае адышло ад гарадзішча, берагі яго забалоціліся і зарасьлі дрэвамі і кустамі лазы, яно звузілася і валы гарадзішча знаходзяцца ад Сіверскага ў адлегласьці 50 мэтраў [1]).

Бліжэй да паўночнага канца возера знаходзіцца востраў, аб якім народнае паданьне гаворыць наступнае. Калісь ехала па гэтым возеры Сіверскім нейкая знакамітая княгіня на вялікай лодцы. Гэтая лодка затанула разам з усім скарбам княгіні. Доўга стаяла лодка на дне ракі. Прайшлі гады. Паказалася з вады карма, а пасьля і нос лодкі. Лясьнікі бачылі карму лодкі і разьбіралі яе сабе на дошкі, але-ж большая частка лодкі і скарб так і засталіся на дне возера. І на тым месцы ўтварыўся востраў, на якім цяпер растуць кусты лазы, бяроза, асіна.

---

[1]) Пласт глебы цяперашніх берагоў возера ляжыць на вадзе, на ім ня мала сустракаецца „вокнаў“, багнін, небясьпечных для людзей і жывёлы; дрэвы дасягаюць толькі вядомага ўзросту (прыблізна 35-40 г.) пасьля якога ня маючы магчымасьці вызваліць свае карэньні з вады, усе засыхаюць і ламаюцца амаль на адным узроўні ад балота і вады, так што на берагох стаіць большасьць адных слупоў.

Даўжыня возера $1^1/_2$ кілёмэтра, шырыня—20 мэтраў.

Як возера Сіверскае, так і Мысьліч і іншыя дробныя вазёры яднаюцца паміж сабой невялічкімі вадацечамі, а з ракой Прыпяцьцю—большай канавай, якая завецца „стрэлкай". Вясной уся мясцовасьць заліваецца вадой за выключэньнем „Вала", куды—на гэта гарадзішча—жыхары в. Млынок перавозяць на лодках хатнюю жывёлу на пашу. Па стрэлках і канавах вясной можна вольна праехаць у гарадзішча і вазёры—Сіверскае, Мысьліч і іншыя.

# Народнае апавяданьне аб Тураве.

*(Запісана са слоў селяніна в. Запясочча Тураўскага раёну Апанаса Шабельніка).*

Гэта было ўжо даўно. Там, дзе цяпер Тураў і бліжэйшыя вёскі, былі драмучыя лясы. Рака называлася тады Струменьню. Прыпяці зусім ня было. Цякла Струмень там, дзе і цяпер, але была вялікая. Язда таксама была вялікай ракой, цяпер ад яе засталася невялічкая жываточынка.

У гэты час прышоў князь Тур з вялікім войскам. І прышоў ён сюды таму, што былі тут вялікія выгоды—зьвяры, рыба і рознае птаства.

Аднойчы князь Тур лёг спаць на гары. Заснуў ён і бачыць, быццам ляжыць ён на паднятым возе, а кругом яго—гарады. Ён быў тады самы хітрэйшы і ня было яму з кім параіцца. Ён зразумеў, што трэба яму будаваць вялікі горад.

Князь Тур пачаў будаваць горад. І быў горад такі вялікі, што і Верасьніца, і Рычоў, і Дворэц, і Азяраны і іншыя вёскі былі пад ім. Будаваў князь Тур гэты горад ня абы-як: спачатку насыпаў Тур рачнога пяску тоўсты слой. Пасьля пачаў паліць лес і насыпаў пласт дробнага вугалю ў тры аршыны. Потым надралі і палажылі пласт бярозавай кары; пасьля кары насыпалі бітых гаршкоў; пасьля—зьвярыных касьцей. У канцы засыпалі пласт сьленю (чашуя) з пароды язя,—і ўсё гэта засыпалі зямлёю.

Уезныя вароты былі каля Азяран. У асяродку гораду выкапалі калодзеж, які называецца Тур-калодзеж.

Езьдзіў Тур на паляваньне ў тое месца, дзе цяпер Буразь. І было там балота, лясы і многа зьвяроў. Рубіў Тур зьвяроў, седзячы на кані, і назваў гэтае месца „Буй-раз" (разіў буеў).

Пасьля Тура быў князь Уладыка. Пры ім у Азяранах былі вялікія вароты, а пры варотах замо̀к. Калі разбурылі Тураў, дык разваліліся вароты і выпаў замо̀к. Ішла аднойчы карова, папала нагой у замо̀к. А замо̀к той быў дзесяць фунтаў. Там, дзе жыве Курбан, жыў Уладыка і называецца тое месца „уладыкіна". З уладыкінага дварца быў у Тураў насып, а праз р. Язду—мост. Пры Уладыку былі папы і ксяндзы. Аднойчы ішоў поп служыць вячэрню. На яго напалі ваўкі і зьелі... Памёр Уладыка і пахавалі яго ў каменным гробе, які гадоў колькі назад знайшлі.

Пасьля Уладыкі быў князь Комар, а пасьля Комара—княгіня. Імя яе невядома. Вядома толькі тое, што была яна вялікая чараўніца. Калі на Тураўшчыне ў той час разышлася маравая пошасьць, дык гэтая княгіня загадала закапаць у зямлю нямога чалавека, жывога бабра і жывога мядзьведзя. Калі іх закапалі, дык зрабілася гара, якая называецца Бабруйкава Гара. Пасьля гэтага пошасьць тая спынілася.

Прыходзілі на Тураў розныя ворагі, але чараўніца-княгіня бараніла. Прышло раз вялікае войска, абклала яно Тураў і застанавілася

там, дзе цяпер Перадол. Канягіня зьвязала шчотку з сьвіной шчаціны і кінула. Ворагу здалося, што парасьлі вялікія камышы; кінула яна курынае яйка, а ворагу здалося, нібыта разьлілася вялікая вада. Доўга стаялі паходнікі, але не хапіла ў іх жыўнасьці і харчоў. Сталі мерці яны самі і іх коні. На тым-жа месцы, дзе пасьліся коні, зьявілася лашчына—„Перадол“.

Калі ў другі раз прышлі к Тураву ворагі, дык канягіні-чараўніцы ўжо ня было, і ня было каму бараніць Тураў.

Тураў быў вялікі тады горад. У ім было 45 цэркваў.

Непрыяцель выразаў старых і малых, і жанок і служачых. Дзяцей пакідалі ў калодзеж, але вада перарабілася на малако. Гэтым малаком карміліся дзеці, вырасьлі і ад іх зноў завёўся народ.

Адзін-жа чалавек забраўся ў буслава гняздо і сядзеў там, пакуль не прайшла ўся бяда. За гэта яго празвалі „Бусьліны“. Другі чалавек забраўся ў яму, сядзеў там ды еў вялёную рыбу; яго і яго патомкаў празвалі „Сядуны“.

Пасьля разбурэньня гораду япіскопія перабралася ў Пінск, з Пінску ў Бабруйск, і 25 гадоў судзіўся Тураў, каб адсудзіць япіскопію сабе назад.

На Тураўшчыне ёсьць лекавыя камні. Адзін стаіць у Верасьніцы, другі ў Пагосьце, трэці быў на Казаргаці, але яго перанесьлі на другі канец Турава, каля Шата. Прыплылі яны з Кіева ўверх па рацэ.

Каля Верасьніцы была рака,—цяпер няма яе; па гэтай рацэ хадзілі ганчакі; ідзе ганчак, на ганчаку—народ. Вось бачыць чалавек адзін, што плыве нешта супроць вады, вельмі падобнае да чалавека. Ударыў ён ляскай па камені, растапіўся камень, але не разваліўся, а чалавека таго сагнула, скручыла—і памёр ён скора. Я сам бачыў гэты камень і прыкметна тое месца, дзе раскалоўся ён і зросься.

Адна жанчына ў Рычове асьлепла. Раз бачыць яна ўва сьне, што трэба ёйісьці да каменя, абскабліць яго і выпіць з вадой. Яна прачнулася, зрабіла так, і скора пасьля гэтага паздаравела.

Яз. Бараноўскі.

## Санітарна-бытавы стан вёскі Радзілавічы, Букчанскі сельсавет, Тураўскі раён, Мазырская акруга.

Вывучэньне санітарна-бытавога стану беларускае вёскі ёсьць справа пільная, неадкладная. Каб аздаравіць нашу вёску, каб падняць санітарны ўзровень вясковага насельніцтва, трэба, бязумоўна, спачатку дасканала дасьледваць, вывучыць гэтую справу. Трэба на падставе навуковых досьледаў, абапёртых на статыстычныя лічбы і факты, знайсьці найбольш кароткія і найбольш танныя шляхі і спосабы для палепшаньня санітарнага стану вёскі. Кіруючыся лёзунгам ашчэднасьці, мы мусім паказаць, як у самыя бліжэйшыя часы сіламі і сродкамі самой вёскі яна можа вызваліцца з таго, часам жахлівага санітарнага заняпаду, у якім яна яшчэ знаходзіцца. Першыя мэдыка-краязнаўчыя досьледы па вывучэньні вёскі адразу далі бліскуючыя рэзультаты. Папершае, яны далі багаты фактычны матар‘ял для вывучэньня і пэўных вывадаў, а падругое, і гэта галоўнае,—яны канчаткова вызначылі той шлях, па якім павінна адбывацца і надалей санітарна-бытавое абсьледваньне беларускіх паселішч вясковага тыпу. Тут нязвычайна яскрава выявілася дадатная роля краязнаўчага мэтоду, якім мэдыцына, на жаль,

мала карыстаецца. Нэгліжаваньне краязнаўчых шляхоў з боку мэдпрацаўнікоў няўхільна будзе штурхаць іх на тэорэтычныя і практычныя цамылкі. Бяз глыбокага веданьня мясцовых умоў мэдыцынская навука пудзе адарвана ад народных мас і часта самыя дасканалыя санітарныя мерапрыемствы будуць ушчэнт разьбівацца аб глухую сьцяну непаразуменьняў.

Санітарна-бытавое вывучэньне нашае вёскі—заданьне цяжкое, складанае і таму павінна быць разьлічана на шмат гадоў. Павольны тэмп мэдыка-краязнаўчай працы залежыць пакуль што ад надта малога ліку мэдыкаў-краязнаўцаў. На сягоньняшні дзень яны налічваюцца адзінкамі.

Пры пачатку мэдыка-краязнаўчае працы галоўнай перашкодай было тое, што адсутнічала плянавасьць і аднастайнасьць у абсьледваньнях. ЦБ Краязнаўства выдала „Схэму санітарна-бытавога абсьледваньня і апісаньня вёскі“, і цяпер праца пайшла без перашкод. Першы-ж год „Схэма“ разышлася ў ліку 500 экз., а ў гэтым годзе ў часе ад'езду студэнтаў-мэдыкаў на летнія работы прышлося надрукаваць яшчэ 1000 экз. для раздачы.

„Схэма“ ўжо дала даволі багаты плён. На працягу аднаго году ў Мэдыка-Консультацыйнае Бюро пры ЦБК паступіла 6 мэдыка-краязнаўчых прац, напісаных паводле „Схэмы“. Надта важна тое, што „Схэма“ дае магчымасьць зрабіць мэдыка-краязнаўчую працу работніку, які ня мае спэцыяльнай мэдыцынскай асьветы, напр. настаўніку.

Найбольш актыўнымі дасьледчыкамі ў мэдыка-краязнаўчай працы зьяўляюцца студэнты-мэдыкі БДУ. Большасьць іх апісаньняў датычаць Мазыршчыны[1]).

Дзякуючы гэтым апісаньням зьявілася магчымасьць даць санітарна-бытавую характарыстыку ўжо цэлага раёну (Тураўскага). Над гэтым ужо працуюць т-шы Я. Бараноўскі і Я. Лагун. Вось тут і прыдалося тое, што ўсё паасабныя праца напісаны паводле аднаго пляну, паводле „Схэмы“. Санітарная характарыстыка Тураўскага раёну будзе мець яшчэ хібы, але самы ўжо факт укладаньня гэткай характарыстыкі яскрава сьведчыць аб тэмпе мэдыка-краязнаўчае працы і аб карысьці для рэспубліканскай мэдыцыны краязнаўчых досьледаў.

Старшыня Мэдычнага Консультацыйнага
Бюро *д-р Ів. Цьвікевіч.*

---

[1]) На працягу толькі двух год сябры Мэдсэкцыі Краязнаўчага Навукова-Дасьледчага Т-ва пры БДУ напісалі наступныя мэдыка-краязнаўчыя працы: Яз. Бараноўскі. „Спроба санітарна-бытавога нарысу Ісернскага сельсавету на Случчыне“ (апрацоўваецца да друку), А. Гарбач. „Як і ў каго лечыцца вёска Шалавічы на Случчыне (надрукована ў часоп. „Белар. Мэд. Думка“, № 12—13, 1926 г.), Ів. Бірыла і Л. Александровіч. „Да пытаньня аб вальлёвасьці ў Менску (надр. у „Бел. Мэд. Думцы“ № 1, 1928 г.), С. Андрэеў „Да пытаньня аб вальлёвасьці ў Віцебшчыне“ (надр. у „Б. М. Д.“ № 1, 1928 г.), М. Тамковіч „Да пытаньня аб санітарна-бытавым стане вёсак: Глядкі, Шабунькі, Куляшы, Браньчыцы і Чапялы. Старобінскага р., Бабруйскае акругі“ (надр. „Наш Край“, № 12, 1927 г.), А. Гарбач „Некаторыя з народных сродкаў барацьбы з малярыяй у Мазырскай акрузе“ (надр. „Наш Край“, № 1, 1928 г.), С. Андрэеў „Санітарна-эканомічнае становішча вёскі Рамшына, Віцебскае акругі“ (падрыхтавана да друку), К. Бараноўскі „Санітарна-бытавы стан в. Перараў, Тураўскага р., Мазырскае акругі“ (падрыхтавана да друку), Яз. Лагун „Санітарна-бытавы нарыс в. Азяраны, Тураўск. р., Мазырскае акругі“ (падрыхт. да друку), Яз. Лагун „Вадазабясьпека і вадакарыстаньне насельніцтва Тураўшчыны (рыхт. да друку), Яз. Бараноўскі „Санітарна-бытавы стан в. Радзілавічы, Тураўск. р., Мазырскае акругі“ (ідзе ў гэтым нумары „Н. Кр.“), А. Гарбач „Праца малярыйнае экспэдыцыі ўлетку 1927 г. на Мазыршчыне“ (рыхт. да друку), С. Шутаў „Санітарны стан будынкаў Вушацкага раёну, Полацкае акругі“ (рыхт. да друку), Яз. Бараноўскі „Санітарны стан жылых будынкаў на Тураўшчыне (зачытана на сходзе Мэдсэкцыі, Яз. Бараноўскі „Лазьні Вушацк. р. на Полаччыне“ (рыхт. да друку), Яз. Бараноўскі „Санітарны стан будынкаў Вушацк. раёну, Полацк. акругі“ (апрацоўваецца).

## 1. Кароткі гістарычны нарыс.

Аб часе ўзьнікненьня вёскі Радзілавічы ніхто з насельніцтва вёскі ня ведае. Сярод сялян існуе легенда, што калісь тут было дзьве вёскі: адна Радзілавічы, а другая—на другім баку балота, што знаходзіцца перад вёскаю, на месцы, якое цяпер завецца „Забалота", або „Селішча". Вёскі гэтыя ня ладзілі паміж сабою. Асабліва ўзьнікалі часта спрэчкі з-за жывёлы. Пагоняць адны пасьвіць жывёлу, а другія займуць, парэжуць і паядуць.

Вось, былі ў цяперашняй вёсцы два вельмі здаровых браты—асілкі. Пайшлі яны раз у тую, другую, вёску ў начы дый выразалі ўсіх людзей. Зазлаваў за гэта на іх пан і паклікаў да сябе на суд. Браты зрабілі сабе па жалезнай булаве дый пайшлі. Як прышлі, то пан запытаўся: „Навошта вы столькі народу парэзалі?"—„Гэта ня мы былі,—адказалі асілкі,—а нашы палачкі", ды як стукнуць булавамі аб падлогу, дык павысыпаліся ўсе шыбы ў вокнах хаты і праламалася падлога.

Паглядзеў на іх пан, дый кажа: „Шкада мне траціць гэтакіх асілкаў, ідзеце сабе дадому", дый адпусьціў іх. Браты, ідучы ад пана дадому, захапілі сабе па каменным вялізным крыжы, якія пасьля іх сьмерці паставілі на іх магілах. (Трэба заўважыць, што ўся вакольная мясцовасьць роўная, балоцістая і каменьня няма нідзе аніякага).

Гэтыя крыжы так і завуцца „Два браты".

Добра засталася ў памяці старых дзядоў толькі паншчына з яе зьдзекамі і катаваньнем. У тыя часы—часы прыгону—не магло быць і гутаркі аб якой-небудзь працы па адукацыі насельніцтва. Гэта ўжо даўно вядома. Таксама і пасьля паншчыны царскі рэжым не сьпяшаўся даць асьвету сялянам. І гэта асабліва адбілася на насельніцтве в. Радзілавіч, якое і дасюль засталося малакультурным і ў абсолютнай сваёй большасьці няпісьменным. У 1905 годзе была пабудавана школа, але мала хто хадзіў туды, а ў часе вайны і рэволюцыі яна і зусім не працавала.

Гэтую вёску, якая месьціцца сярод лясоў і балот на значнай адлегласьці ад іншых вёсак, амаль не закранулі ні агульны рэволюцыйны ўздым, ні войны апошніх часоў. Пасьля вайны з белапалякамі яна засталася на баку палякаў, і толькі тады жыхары як сьлед адчулі „панскую ласку" і зьмену рэжыму. Але пасьля выпраўленьня дзяржаўнай мяжы вёска адышла на савецкі бок і зноў пацякло ціхае, аднастайнае, бяз усякіх імкненьняў, жыцьцё. За ўвесь час існаваньня вёскі толькі два чалавекі выехалі з яе і працуюць недзе на баку; некаторыя ў часе вайны былі выцягнуты з вёскі і таксама пабачылі крыху сьвету. Рэшта-ж увесь свой век зжывае ў сваёй вёсцы і нават у Тураве, раённым цэнтры, ніколі ня бывае.

Да бліжэйшага адміністрацыйнага, а разам з тым і культурнага пункту (воласьці) да раёнаваньня было 26 в.; зараз-жа да раёну—63 в.; папасьці ў Радзілавічы можна толькі па адзіным шляху, які ідзе з Турава на Танеж, Букчу і далей за Радзілавічы. Апрача гэтага шляху ніякім іншым чынам ні з якога боку ў вёску даехаць нельга.

## 2. Топографія, гідрагеолёгія і клімат мясцовасьці.

Агульны рэльеф мясцовасьці навокал Радзілавіч ўяўляе сабою нізіну—балота, якое ідзе з паўдн.-заходн. і заходняга боку на захад, поўнач і ўсход. Балоты парасьлі сітнікам, багуном ды іншымі травамі і ў большасьці выпадкаў пакрыты дробным хваёвым лесам, хоць ча-

ста сустракаюцца і голыя бязьлесныя балоты. Па гэтых балотах ня ходзяць ні коні, ні каровы. Сярод балот сустракаюцца цэлыя горы пяску—выдмы, якія часта ня маюць аніякае расьліннасьці, месцамі-ж парасьлі хвойнікам. Толькі з поўдня і зах.-паўдн. захаду да вёскі прылягае нязначны кавалак ворнае зямлі. Пасярэдзіне гэтае пахаці праходзіць удоўж сенажаць.

Значных рэк ля вёскі няма. Ёсьць памежная з Польшчаю рака Сьцьвіга ў адлегласьці 4 клм. на паўн. захад ад вёскі і, апрача таго, на адлегласьці 1/2 клм. на поўнач ад вёскі невялікі раўчак, які сярод сялян завецца „Роў“. Наогул мясцовасьць навокал уяўляе балоцістую нізіну, сярод якое, як выспы сярод мора, раскіданы выдмы і нязначныя кавалкі пахаці.

Глеба навокал Радзілавіч пяшчаная. Ворны слой мае ня больш 3-4 вярш., а далей адразу пачынаецца так званы „рыжэц“—белавата-жоўты пясок, потым жоўта-камяністая зямля і нарэшце, ідзе сіня-белы ваданосны слой.

Клімат—характэрны для ўсяго Тураўскага і сумежных раёнаў—зьяўляецца пераходным ад контынэнтальнага да морскага-вільготнага Заходняе Эўропы. Сярэдняя гадавая тэмпература=+6°С. Самыя вялікія маразы бываюць у студзені і даходзяць да—29°С. Самая высокая тэмпэратура=+34,8°С.

Бязьветрые бывае рэдка. Зімою і ў восень тут бываюць пераважна паўночна-ўсходні і паўн.-заходні вятры; вясною—усходнія і паўдн.-ўсходнія і ўлетку—заходнія і паўдн.-заходнія.

Ападкаў у сярэднім выпадае 581 мм. Лік дажджавых дзён дасягае за год 150. Па характары дажджы бываюць ціхія, абложныя. Навальніцы бываюць рэдка. Але апошнія гады—1923, 4 і 5—праходзілі навальніцы з градам, якія нішчылі шмат пасеваў.

Сьнег затрымоўваецца каля трох месяцаў, а часам на два-тры дні сярод зімы зусім растае, дзякуючы мяккаму клімату і паўднёвым і паўдн.-заходнім ветрам. Таўшчыня сьнежнага насьцілу бывае нязначнаю. Найбольшая таўшчыня ў 18 см. бывае ў лютым.

Наогул-жа найбольшы лік ападкаў бывае ўлетку.

### 3. Топографія і расплянаваньне вёскі.

Па сваім месцапалажэньні Радзілавічы займаюць паўдн.-заходні куток Траўскага раёну, зьяўляючыся самай дальняй па адлегласьці вёскай, знаходзячыся ад сельсавету ў 14 в., ад раёну—63 в., ад акругі—125 в.; да бліжэйшага мястэчка—63 в.; да чыгункі—86 в.; да бліжэйшага заводу (дрэваапрацоўчага)—24 в. Сама вёска часткаю стаіць, у параўнаньні з вакольнай мясцовасьцю, на нязначным узвышшы; другая-ж частка, пазьней заселеная, зьмяшчаецца ў нізіне, так што тут пасьля кожнага дажджу, а таксама ў весну і ў восень бывае так шмат гразі, што з яе нельга вылезьці. Ніякага схілу, каб вада кудынебудзь сьцякала, няма, і гразь стаіць аж пакуль не павысыхаюць лужы на вуліцы.

Вуліц у вёсцы адна, завулкаў і кварталаў няма; кірунак вуліцы з паўн. захаду на паўдн. ўсход. За дабрабытам вуліцы ніхто ня сочыць. Ніхто не пракапае канаў для сьцяканьня вады, ніхто не падмятае ў сухую пагоду. Дзеля гэтага яна заўжды брудная. Ні дрэў, ні бруку і насьцілу ў вёсьцы няма. Затое ямін і луж пасьля дажджу—колькі хочаш. Асабліва брудная частка вуліцы, якая знаходзіцца супроць школы—там нават маецца запраўдная грэбля, бо інакай там ніякім чынам прабрацца нельга.

Садоў і палісаднікаў у вёсцы амаль зусім няма. Ёсьць толькі адзін стары, былы папоўскі, сад і адзін невялічкі малады, нядаўна толькі засаджаны. Тлумачыцца гэта часткова тым, што на нізкай глебе садовыя дрэвы кепска растуць, а падругое тым, што як ні ахоўвай сад—усё роўна яго абарвуць, і гаспадару ад яго мала карысьці; і хоць і ставяць платы ў два сажні вышынёю (як у суседняй в. Букча), але гэты сродак аніяк не дапамагае.

Абапал вуліцы, як і наогул у нашых вёсках, знаходзяцца хаты, якія стаяць адносна вуліцы або ўдоўж, або ўпоперак; за хатамі цягнуцца двары і гароды. Агульная колькасьць двароў у вёсцы—160. У старой палове вёскі разрываў паміж дварамі няма, у новай—ёсьць. Найбольшыя з іх маюць 12-14 м., найменшыя—4-5 м.; за сярэдні можна лічыць разрыў у 7-8 м.

Грамадзкіх плошчаў няма аніякіх, калі ня лічыць выгану за вёскаю. З усіх бакоў вёску ахутвае лес, які абараняе вёску і ад ветру.

### 4. Вадазабясьпека і вадакарыстаньне.

Вадазборы, якімі карыстаецца насельніцтва в. Радзілавіч, выключна студні; імі карыстаюцца ўсе двары. Жывёла поіцца ўлетку з „Рову", а ўзімку таксама з студняў. Роў цячэ ў кірунку з паўн. захаду на паўн. ўсход. Шырыня яго—2,1 м., глыбіня—0,7-1,2 м., плынь надта павольная. Берагі Рову скрозь балоцістыя, дно ў большасьці пакрыта гразёю, рэдка—чвырам. Апрача гэтых прыродных умоў Роў забруджваецца гразёю з балота, мыцьцём бялізны, жывёлай.

Усіх студняў у Радзілавічах 27, усе яны грамадзкія. У сярэднім на адну студню прыпадае 6 двароў. З агульнага ліку студняў 21 знаходзіцца на гародах і 6 на вуліцы (адна з іх у плоце). Адлегласьць ад аднае студні да другое ў сярэднім 53 м., найменшая—22,5 м., найбольшая—81 м.

Усе студні пабудаваны з дрэва. Будуюцца яны звычайна гэтак: зямля шырока раскопваецца і капаецца датуль, пакуль не пачынае зьбірацца вада. Тады робіцца скрыня з дубовых слупкоў і бярозавых альбо альховых дошчак. Скрыня гэтая заганяецца ў зямлю і зямля яшчэ некаторы час выбіраецца са скрыні. Потым на слупы скрыні становяцца дубовыя слупы, якія ўжо выходзяць наверх зямлі. Да гэтых слупоў прыстаўляюцца знадворку дубовыя плушкі,—т. зв. тын,—якія прысыпаюцца зямлёю. Некаторыя, каб скрыню не заносіла брудам, абсыпаюць на паўмэтра скрыню жоўтым пяском—чвырам. Дастаецца вада з студні ў абсолютнай большасьці крукам—г. зн. простым шостам, у які ўбіты доўгі цьвік; на яго і чапляецца вядро. З вочапамі ёсьць толькі дзьве студні. Вядра агульнага няма ні пры водной студні, а кожны чэрпае сваім.

Забруджваецца вада living рознымі спосабамі: зацякае бруд, бо ні для аднае студні няма бруку ці насыпу, ні ад аднае студні няма схілу. І, дзякуючы гэтаму, брудная вада зацякае ў студню. Апрача гэтага само дрэва, з якога пабудаваны студні, з цягам часу трухлее, абвальваецца кавалкамі, а разам з дрэвам сыплецца і зямля, якая ім трымалася; рэмонтуюцца-ж студні надта рэдка [1]). Дапамагае забруджваньню яшчэ і адсутнасьць накрывак, дзякуючы чаму на паверхні мы заўсёды маем шмат align рознага сьмецьця. Дый самы зруб ва ўсіх студнях аброс мохам, грыбамі, асклiз і дапамагае агульнаму забруджваньню вады ў студнях. Спосабаў-жа абароны студняў ад забруджваньня ніякіх ня ўжываецца.

---

[1]) Трэба было паказаць больш дакладна (раз у тры гады і г. п.).

Глыбіня студняў ад узроўню глебы да дна: найбольшая—3,5 м., найменшая—2,6 м., сярэдняя—3,2 м. Глыбіня вады ў сярэднім—1 м.

Іншых відаў студняў няма.

Пласты глебы, праз якія дабіраліся да вады, наступныя: 1) Звычайная зямля=15-20 см.; 2) Рыжэц—белавата-жоўты (рыжы) пясок=95 см.—1 м.; 3) Жоўтая цьвёрдая зямля=60-7 см.; 4) Сіні слой (вадкі)=50-60 см. і 5) Белая зямля—ваданосны слой.

Вады заўжды хапае, бо амаль на тым узроўні, на якім стаіць вада ў студнях, яна стаіць і ў вакольных балотах. Але ў выпадку пажару вададабываньне дрэннае, бо на вуліцы вады ў студнях зусім мала, а з гародаў ваду насіць трэба болей чым на 100-150 м. да хат, хоць па колькасьці яе мо' і хапіла-б. Санітарнае аховы студняў няма аніякае. Якасьць вады дрэнная: жаўтаваты колер, не празрыстая, мае балотны пах, вельмі мяккая; тэмпэратура яе=+8°,+9°C (6-га ліпня а 2 гадз. дзень).

У хатах вада захоўваецца звычайна ў вёдрах, якіх амаль 95% драўляных і толькі каля 5% бляшаных. Запасу вады ў хатах няма ніколі, а новая бярэцца тады, калі старая ўся вышла. Зьменьваецца вада ў хаце найбольш раніцаю, калі яе шмат патрэбна гаспадыні, а ў дзень і ў вечар яе ўжываецца значна менш. Наогул, у сярэднім гаспадарка в. Радзілавічы ўжывае за дзень вады 11-13 в., прычым улетку—7-9 в., а ўзімку—14-17 в.; самая большая гаспадарка ўжывае ў сярэднім 16-20 в., самая меншая—6-8 в.[1]).

Забруджваецца вада ў хаце рознымі спосабамі. Дзякуючы таму, што вядро не накрываецца зьверху, кожны раз туды пападае шмат пылу, асабліва пры падмятаньні хаты, хоць наогул яго заўсёды дужа многа ў хатах. У начы ў тое-ж вядро трапляюць розныя кузуркі, якіх надзвычайная колькасьць у кожнай хаце.

Усё-ж трэба заўважыць, што сувязі паміж вадазабясьпекаю, спосабамі карыстаньня вадою і страўнічна-кішэчнымі хваробамі сяляне не адзначаюць[2]).

### 5. Дэмографічная характарыстыка насельніцтва.

Усяго насельніцтва ў вёсцы Радзілавічы маецца 926 асоб: мужчын—461, жанчын—465. З іх беларусаў—908, яўрэяў—18. Сямействаў у вёсцы 160.

Лік нараджэньняў, сьмярцей, шлюбаў і скасаваньняў іх мы маем наступны:[3])

| | | 1926 | 1927 (да 1/VII) |
|---|---|---|---|
| Нараджэньні | М. | 16 | 7 |
| | Ж. | 18 | 6 |
| Сьмерці | М. | 13 | 6 |
| | Ж. | 10 | 6 |
| Шлюбы | | 14 | 1 |
| Скасаваньні шлюбаў | | 2 | — |

[1]) На жаль, аўтар не паказвае, колькі вады ідзе асобна на гаспадарку (вада жывёле, вада для пойла і г. д.) і асабна на хатнія патрэбы людзей (умываньне, ежа, піцьцё); а для санітарнае характарыстыкі колькасьць вады, ужыванай для мыцьця цела, начыньня, падлогі, мае першараднае значэньне *Ів. Цьв.*

[2]) Цяжка даць веры, каб пры гэткіх антысанітарных умовах ня было крываўкі (disenteria), брушнога тыфусу. А тое, што сяляне ня бачаць сувязі паміж вадой і хваробамі—рэч для мэдыка зразумелая; нельга спыняць санітарны аналіз спасылкаю на меркаваньні сялян. *Ів. Цьв.*

[3]) Паўтара гады занадта кароткі тэрмін для таго, каб меркаваць аб дынаміцы насельніцтва. *Ів. Цьв.*

З гэтае табліцы відаць, што мы маем агульны прырост насельніцтва за 1926 год—11 асоб і за першую палову 1927 году—1 асобу. Шлюбы, скасаваньні іх, сьмерці і нараджэньні зьяўляюцца адзіным фактарам зьмен насельніцтва ў Радзілавічах, бо як эміграцыі, так і іміграцыі няма. За ўвесь час існаваньня вёскі, як я казаў раней, выехала з вёскі толькі два чалавекі.

### 6. Эканамічная характарыстыка.

Асноўным заняткам насельнікаў в. Радзілавіч зьяўляецца земляробства. Пабочным заработкам—праца на лесараспрацоўках Лесбелу і Укрлесу, але гэты заработак ня вельмі вялікі і значнага ўплыву ў гаспадарцы ня мае. Саматужных промыслаў ніякіх няма.

Колькі маецца ўжыткоўнае зямлі ў в. Радзілавічах—напэўна сказаць цяжка. Калісьці, да вайны, у надзеле лічылася па 28 дзес. Але зараз адышоў пад Польшу значны кавалак зямлі і сяляне сьцьвярджаюць, што там засталося каля 1500 дзес. Цяпер лік ужыткоўнае зямлі ўстанаўляўся агульным сходам і вызначана агульная колькасьць у 403,2 дзес. (53 надзелы па 7,6 дзес.). Рэшта зямлі пакрыта або балотамі, па якіх нішто ня ходзіць, або лесам.

Калі паглядзім забясьпечанасьць насельніцтва зямлёю падворна, то будзем мець паводле даных с. с. наступны малюнак:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| па 1 | дзес. | маюць | 30 | гасп. |
| „ 2-3 | „ | „ | 60 | „ |
| „ 4-5 | „ | „ | 32 | „ |
| „ 6-7 | „ | „ | 19 | „ |
| „ 8-10 | „ | „ | 9 | „ |
| „ 11-13 | „ | „ | 5 | „ |
| звыш 14 | „ | „ | 5 | „ |

Калі-ж паглядзім забясьпечанасьць зямлёю ў сярэднім, то ўбачым, што на адзін двор прыпадае ўжыткоўнае зямлі 2,52 дзес., а на аднаго едака ўсяго—0,45 дзес., што паказвае аб значнай перанаселенасьці вёскі. Зямля пяшчаная, раскідана невялічкімі кавалкамі сярод балот. Ёсьць месцы, якія адлежаць ад вёскі на 10-12 клм., і дабрацца да іх можна або зімою, або ўлетку, як добра высахне.

Севазвароту, як гэткага, уласна кажучы, няма. Ёсьць наступнае: далёкая зямля засяваецца наогул раз у 4 гады і толькі жытам (іншы раз сеюць грэчку, пасьля якое ў тую-ж восень сеюць жыта). На блізкую зямлю вывозяць гной на $^3/_4$ ўзімку, а на $^1/_4$ у час сяўбы. На гнойнай зямлі сеюць бульбу, проса, вельмі рэдка ячмень і авёс. Наогул, амаль каля 50% засеву займае жыта, ля 25%—бульба, а рэшту іншыя культуры, а з іх пераважна проса і грэчка. За апошнія гады павялічваецца плошча засеву за кошт аблогаў; павялічылі сяўбу бульбы. Травы ня сеюцца. Штучнага ўгнаеньня няма зусім.

Вельмі часта гною не хапае і тады поле выстойваецца пад т. зв. „кашарамі". Кашарамі завецца месца, агароджанае з усіх бакоў жэрдкамі, на якім ставяцца на стойла каровы і валы, што пасуцца цэлае лета на пашы. Гэты загарад робіцца на пустым полі і год ці два на ім стаяць валы, якія і дадому ўлетку ніколі ня йдуць. Звычайна пасьля гэткіх кашар зямля, ня гледзячы на пясок, дае добры ўраджай, амаль удвойчы большы, чым з звычайнае зямлі. Апрацоўваецца зямля цяпер лепшымі прыладамі, чым некалькі год таму назад. Яшчэ ў 1924-25 г. меліся драўляныя сохі, але цяпер ужо ўсе яны заменены плугамі. З іншых прылад ёсьць: дзьве малатарні—адна прыватная і

адна грамадзкая (плата за малацьбу: у грамадзкай з капы 25 кап., у прыватнай—30 кап.), шмат сячкарань (блізка 25% маюць іх). Больш прылад няма ніякіх, дый тымі, што ёсьць, ня ўсе могуць карыстацца: ящчэ добрая палова гаспадароў малоціць цапамі, а ёсьць і такія, што не карыстаюцца і сячкарнямі.

Дзякуючы гэткай апрацоўцы зямлі, дзякуючы раскіданасьці яе дробнымі кавалкамі, пяшчанасьці глебы і кепскаму ўгнаеньню і ўраджаі кепскія. На добра ўгноенай глебе (у большасьці—з-пад кашар) пад добры год селянін мае 40—45 пуд. з дзесяціны; у іншым выпадку сярэднім лічыцца ўраджай у 25—30 пуд. з дзесяціны. А таму няма нічога дзіўнага, што амаль 66% сялян купляюць збожжа і муку, бо свайго хлеба хапае месяцаў на 3-4.

Агульная колькасьць жывёлы ў вёсцы выяўляецца ў наступных лічбах:

| | |
|---|---|
| коняй | — 28 |
| валоў | —402 |
| кароў | —643 |
| сьвіней | —246 |

Калі паглядзім на забясьпечанасьць жывёлаю паасобных гаспадарак, то будзем мець наступнае:

Рабочая сіла (коні і валы):

| | | | |
|---|---|---|---|
| па 1 гал. раб. сілы | маюць | 9 гасп. | ці 5,6% |
| „ 2 „ „ „ | „ | 82 „ | „ 51,3% |
| „ 3-4 „ „ „ | „ | 37 „ | „ 23,1% |
| „ 5-6 „ „ „ | „ | 30 „ | „ 18,7% |
| зусім няма „ „ | у | 2 „ | „ 1,3% |

Каровы:

| | | | |
|---|---|---|---|
| па 1 кар. | маюць | 15 гасп. | ці 9,4% |
| „ 2 „ | „ | 20 „ | „ 12,6% |
| „ 3 „ | „ | 30 „ | „ 18,7% |
| „ 4 „ | „ | 30 „ | „ 18,7% |
| „ 5-7 „ | „ | 40 „ | „ 25,0% |
| „ 8 і болей „ | | 25 „ | „ 15,6% |

На адзін двор у сярэднім прыпадае:

| | |
|---|---|
| рабочай сілы (коні і валы) | 2,7 |
| кароў . . . | 4,0 |
| сьвіней . . . | 1,5, |

а на аднаго едака:

| | |
|---|---|
| рабочай сілы | 0,45 |
| кароў . | 0,7 |
| сьвіней . | 0,27 |

Нельга сказаць, каб вышэйпаданыя лічбы аб забясьпечанасьці зямлёю і жывёлаю паказвалі на добры экономічны стан насельніцтва. А калі да гэтага дадаць, што буйная нерабочая жывёла (каровы) трымаюцца выключна для гною, што ні малака, ні масла і сыру сяляне з іх ніколі не прадаюць, то зробіцца зусім ясным экономічны стан радзілавіцкага насельніцтва.

Ёсьць ў Радзілавічах і коопэратыў, але ён такі захудалы, што якога-небудзь значэньня ў жыцьці вёскі ня мае. Там сяляне набываюць розныя дробныя рэчы, як: мыла, запалкі, гузікі, алей (да рэчы— і гэтага не хапае, на што вельмі скардзяцца сяляне)[1]. Прыватнага гандлю ў вёсцы няма зусім. Кірмашы бываюць у м. Тураве, але дзякуючы значнай адлегласьці (63 в.), туды рэдка хто з радзілавіцкіх сялян наведваецца, і таму большага ці меншага значэньня для вёскі яны таксама ня маюць.

---

[1]) Вельмі шкада, што аўтар не падае ніякіх лічбаў, якія-б характарызавалі гэты коопэратыў—капітал, колькасьць пайшчыкаў: няма ведама таксама, хто загадвае коопэратыўнай крамай, з каго складаецца ўправа і г. д. *Ів. Цьв.*

### 7. Двор.

Паасобных, стала разьмежаваных сядзіб няма, бо няма платоў, якія падзялялі-б плошчу на паасобныя сядзібы. Двор ад двара аддзяляецца толькі тады, калі ёсьць будынкі ад вуліцы да гароду. У іншых выпадках 5-7-10 гаспадарак не аддзелены адна ад другое.

Тып забудовы раскіданы; але часьцей сустракаецца аднашэрагавы. Хата і сенцы стаяць разам, потым на нязначнай адлегласьці хлявы. Хлявы раскіданы па двары і часта сьцены хлява аднаго гаспадара заходзяць за сьцены хлява другога гаспадара. Гэтак у старой частцы вёскі. Тамжа няма і ніякага падзелу на двары чыстыя і брудныя. У новай частцы сустракаюцца падзелы на чыстыя і брудныя двары, якія часта таксама не разгароджаны паміж паасобнымі гаспадарамі. Наогул чыстыя двары маюць 9 гаспадарак (ці 5,6%). Чыстымі завуцца двары толькі таму, што хата стаіць асобна ад хлявоў: яна або адгароджана ад іх, або стаіць на другім баку вуліцы. Але іх ніяк нельга назваць чыстымі. І на гэтых дварох той самы бруд, сьмецьце і гной, што і на брудных; сьметніку асобнага няма і сьмецьце высыпаецца каля хаты. Нужнікаў няма, патрэбы адбываюцца ў хлявох, або паміж хлявамі, ці за імі, у т. зв. „хізкох".

Усе гаспадарчыя будынкі пабудаваны з дрэва самым звычайным чынам: бярвеньне рубіцца ў просты кут і складваецца, прычым паміж бярвеньнем закладаюць мох ці кудзелю, каб цяплей было. Зьверху будынкі накрываюцца саломаю. Столі ў хлявох нідзе няма. Шчыліны паміж страхою і сьценамі ніколі не затыкаюцца, і, такім чынам, у хлявох заўсёды холадна.

### 8. Хата.

Хаты ў Радзілавічах, як і наогул у беларускіх вёсках, стаяць найбольш упоперак адносна вуліцы; толькі 6 хат стаіць удоўж вуліцы. Па тыпу пабудовы хаты падзяляюцца наступным чынам:

| | |
|---|---|
| Чатырохсьценак з сенцамі | 145 |
| Пяцісьценак | 9 |
| З 2-х палавін | 6 |

Цяпер больш будуюць пяцісьценкі, але адсутнасьць сродкаў і матар'ялаў значна гэтаму перашкаджае.

Усе хаты пабудаваны з дрэва. Звычайна пабудова адбываецца гэтак: у зямлю ўкопваюцца дубовыя штандары па чатырох куткох, прычым у зямлю яны ўкопваюцца прыблізна на 0,5 арш., а над зямлёю іх ня больш $^1/_4$—$^1/_3$ арш. Няма ніводнае хаты ў вёсцы, дзе-б быў каменны ці цагляны падмуровак, а не штандары. На гэтыя штандары кладзецца дубовае бервяно—падваліна (вельмі часта яна хваёвая) і далей ужо ідзе самы зруб. Рубяцца хаты ў просты кут; амаль няма ніводнае хаты, зрубленае ў нямецкі кут. Паміж паасобнымі вянкамі зрубу пракладаецца кудзеля, зрэдку мох. Зьверху на бэлькі кладзецца столь, прычым дошкі яе кладуцца ня шчыльна адна ля другое, а звычайна кладуцца гэтак: дзьве дошкі маюць паміж сабою два-тры вяршкі, зьверху на іх накладаецца зноў дошка. Зьверху на столь для ацяпленьня накладаецца кудзеля, кастрыца ці салома, а на іх насыпаецца жвір. Хаты крыюцца ў в. Радзілавічы, як і ва ўсіх вёсках паўднёвае Тураўшчыны, не саломаю, а гонтамі, драніцаю, або „торчыцамі"—пілованымі дошкамі.

Спэцыяльных прыстасаваньняў для абароны хаты ад вільгаці няма. Нават прызбаў, якія маюцца амаль ва ўсякай вёсцы, у Радзілавічах надта мала. Звычайна ў сярэдзіну зруба насыпаецца зямлі столь-

кі, каб было роўна з падвалінаю і зьверху або кладзецца на папярочных падвалінах—„легарох“ падлога, або робіцца гліняны ток—„далоўка“. Падлога маецца толькі ў 37 хатах (ці 23,1%), усюды яна ордынарная, кладзецца ня вельмі шчыльна; рэшта хат мае гліняны ток. Дзякуючы гэтаму, нават у тых хатах, дзе ёсьць падлога, няма ніякае адлегласьці ад зямлі, няма аніякае ізоляванасьці.

Амаль усе хаты пабудаваны па адным пляне. Схэматычна плян гэты будзе выглядаць так:




Гэты схэматычны плян зьяўляецца характэрным і для чатырохсьценкі з сенцамі. Пяцісьценка адрозьніваецца тым, што сенцаў там няма, печ стаіць у першым пакоі, або ў сьцяне паміж першым пакоем і другім, а ў другім пакоі стаіць т. зв. „груба“—печ голяндзкага тыпу. Хата з дзьвюх палавін адрозьніваецца тым, што на другі бок сенцаў стаіць другая хата з сваёю печкаю. У некаторых хатах у сенцах робіцца спэцыяльная камора для хаваньня харчпродуктаў. Іншы раз каморка гэтая дабудоўваецца да хаты.

Памеры хаты паказвае наступная табліца:

| Тыпы хат | | Памеры хат у арш. | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | У сярэдзіне | | | | Знадворку | | |
| | | Шыр. | Даўж. | Выш. | Плошча | Шыр. | Выш. | Даўж. |
| Чатырохсьценка | найб. | 10 | 12 | 3,3 | 120 | 10,3 | 3,75 | 12,3 |
| | сяр. | 7 | 8 | 2,75 | 56 | 7,4 | 3,15 | 8,4 |
| | найм. | 6 | 7 | 2,5 | 42 | 6,3 | 2,75 | 7,3 |
| Пяцісьценка . . . . | | 10 | 14 | 3,25 | 140 | 10,5 | 3,75 | 14,5 |

Сенцы заўсёды маюць даўжыню 6—7 арш. Іншыя памеры сенцаў (шырыня і вышыня) гэткія-ж самыя, як і хаты.

Пабудованы хаты, асабліва старыя, з круглых бярвеньняў. За апошнія гады назіраецца абцёсваньне бярвеньня. Знутры шмат хат тынкаваны (41,9%) і пабелены, рэшта толькі пабелены. Апрача гэтага, для ўбраньня хат ужываюцца розныя ўзоры, намалёваныя атрамантам на газэтнай, або якой іншай паперы ці проста на сьцяне.

Па ліку вакон хаты падзяляюцца наступным чынам:

з 3 вокнамі маецца 24 хаты, або 15%
„ 4 „ „ 127 „ „ 79,4%
„ 6 „ „ 9 „ „ 5,6%

Памеры вакон наступныя:

найбольшы — 1,5 кв. арш. (1×1,5)
найменшы — 0,375 „ „ (0,5×0,75)
сярэдні — 1,0 „ „ (0,9×1,1; 0,8×1,2).

Адсюль найбольшы коэфіцыент асьвятленьня—г. зн. адносіна агульнае плошчы вокан да агульнае плошчы падлогі (уключаючы і месца, занятае печкаю)=1:10; найменшы коэфіцыент асьвятленьня (з плошчаю печкі)=1:28; найбольшы коэфіцыент асьвятленьня бяз печкі=1:9, а найменшы коэф. асьв. бяз печкі=1:25. Сярэдні коэф. асьв. з печкаю можна лічыць роўным 1:18—1:17, а бяз печкі 1:16—1:15 (норма 1:6—1:8). Лічбы гэтыя надта нездавальняючыя. Калі·ж прыняць пад увагу таўшчыню ваконных рам, то лічбы гэтыя будуць яшчэ меншымі.

Што трэба адзначыць як становучае зьявішча—так гэта прысутнасьць падвойных рам і створчатых акон. Падвойных рам няма толькі ў 32 хатах (ці 20%), а створчатых акон няма ў 29 хатах (ці 18,1%). Фортак-жа няма зусім. Але, ня гледзячы на створчатыя вокны, заўжды ў хатах паветра сьпёртае, затхлае і надта няпрыемны пах. Тлумачыцца гэта тым, што створчатыя вокны амаль ніколі не адчыняюцца. Ва ўсіх хатах вокны разьмяркованы так, што два выходзяць на двор, а рэшта на вуліцу. Узімку некаторыя для абароны ад холаду робяць саломеныя „маты" на вокны; большасьць-жа нічым не абараняе.

Дзеля штучнага асьвятленьня ўжываюцца пераважна лучнікі. Газа ўжываецца ў значна меншай колькасьці таму, што яна даражэй каштуе, дый здабыць яе цяжэй. Лямпы наогул ужываюцца ўзімку і толькі ў выпадку якое-небудзь урачыстасьці; у многіх хатах іх і зусім няма.

Ацяпляюцца хаты выключна печкамі. Печкі звычайныя, простыя, памеру, у сярэднім, выш.—2 арш., шыр.—3 арш. і даўж.—3 арш.; значыць плошча печкі=9 кв. арш., а кубатура=18 куб. арш. Апрача гэтага ў апошнія гады пачалі зьяўляцца т. зв. „грубы"—печы-голяндкі, якіх маецца ўжо 4. Гэтыя печы маюць, у сярэднім, наступныя памеры: шыр.—1,4 арш., даўж.—1,4 арш., выш.—2,3 арш.; плошча яе=1,96 кв. арш., кубатура=4,5 куб. арш. Пабудаваны печы абодвых тыпаў звычайна з гліны. Простая печ будуецца на драўляным падмуры, а груба на зямлі.

Звычайна цяпло ў хаце маецца ня болей чым да вечара, а на нач хата астывае. Тлумачыцца гэта, папершае, падпольным холадам, які цягне з-пад падлогі, або з глінянага току, а падругое—з боку вакон і дзьвярэй, ад якіх заўсёды дзьме холад. Дзякуючы гэтаму ў хатах узімку ўсюды маецца вільгаць. Вільгаці пазбаўлены толькі тыя хаты, дзе ёсьць грубы, або дзе, апрача раніцы, паляць у печы яшчэ ў вечар.

### 9. Санітарны быт насельнікаў вёскі.

Абсталяваньне хаты рознымі рэчамі і месцапалажэньне гэтых рэчаў у хаце мае аднолькавы выгляд па ўсёй вёсцы. Зразу, увайшоўшы ў хату, направа альбо налева ад дзьвярэй стаіць простая печ, якая займае даволі значную плошчу. Далей ад печы да сьцяны, на тым-жа баку, цягнецца т. зв. „пол", на якім звычайна ўсе сьпяць. Супроць печы на „паліцах" месьцяцца ўсе гаспадыніны прылады, як: гаршкі, міскі, лыжкі ды інш. На покуці ў кутку знаходзяцца лавы, якія стаяць: адна ад полу, а другая з другога боку. Перад імі маецца стол, а перад сталом невялікія ўслоны, ці, як іх завуць „слоны". Усе рэчы сваее работы, вельмі прымітыўныя. Амаль нічога, за выключэньнем місак і гаршкоў, купленага няма. Звычайна ў сенцах, але іншы раз і ў хаце, стаіць так званая „боньня"—дзежка, дзе хаваецца вопратка гаспадароў. Там знаходзіцца звычайна сьвяточная вопратка, а штадзённая вісіць у хаце на жордцы, або перасове. Жордка цягнецца праз усю хату ад аднае сьцяны да другое, а перасоў—ад печы да сьцяны.

Харчуецца насельніцтва слаба. Болей усяго для яды ўжываюцца бульба і крупы. З іх гатуецца ўсё: Наогул-жа „мэню“ радзілавіцкага селяніна складаецца, у асноўным, прыблізна з наступнага: боршч (крупы і бульба з рыбаю, або з алеем; часамі боршч варацць з тоўчанымі каноплямі) або суп (таксама з бульбы ці з круп, толькі з малаком) і каша (прасяная ці якая іншая). Да гэтага асноўнага кожны дадае, што мае. Некаторыя ўжываюць „вускаркі“—печанае сала (скваркі), але гэтакіх вельмі мала. Шмат хто ўжывае „кроп“—вар, які ўжываецца, як гарбата, толькі гарбата там ніколі ня бывае. Ужываюць розныя крупнікі—з алеем, рыбаю, малаком. Наогул страва гатуецца раз у дзень, і толькі рэдка ў каго два разы. Гарачая страва ўжываецца 2—3 разы ў дзень.

Ядуць усе з аднае міскі, толькі featureрознымі лыжкамі. Хворыя ніколі не адсаджваюцца. Міскі ўсюды гліняныя, лыжкі драўляныя. Часта пасуда мыецца зразу пасьля ўжываньня, але шмат дзе яна стаўляецца на паліцы нямытая, а мыецца тады, калі каму-небудзь яна зноў патрэбна.

Адзіным спэцыяльна спальным месцам зьяўляецца пол, на якім сьпяць ужо разам: старыя і маладыя, мужчыны і жанчыны, хворыя і здаровыя. У больш залюднёных хатах выкарыстоўваюцца для спаньня печ і лавы. Ложкаў амаль зусім няма ва ўсёй вёсцы. Пол звычайна цягнецца ад печы да сьцяны. У дзень ён заўсёды пустуе, а на ноч на ім расьцілаецца для спаньня „мат“ ці „рагожа“—сплеценая з аеру падсьцілка. Зьверху мат засьцілаецца „дзяругаю“—парцяною коўдраю. На гэтым сьпяць усе. Пад галаву кладуцца падушкі, або, замест іх, сьвіткі ці, дзе ён ёсьць, кажух. Зьверху накрываюцца зноў дзяругамі. Пасьцельныя рэчы амаль ніколі ня зьменьваюцца. І калі парцяныя дзяругі зрэдку яшчэ мыюцца і пераменьваюцца на чыстыя, то маты выкарыстоўваюцца на ўсе 100%, г. зн. новыя плятуцца толькі тады, калі ад старых застаюцца адны ўспаміны.

Ня лепш, чым на пасьцельных рэчах, падтрымоўваецца частата і асабовая. Праўда, дарослыя мыюцца кожны дзень раніцою, але гэтае ўмываньне больш для формы, чым для чыстаты. Селянін пальле вады на рукі, працягне, па твару раз-два і—усё. Перад ядою рукі мыюцца толькі пасьля бруднае працы, звычайна гэткае прывычкі ні ў кога няма. Аб якіх-небудзь умывальніках ня можа быць і гутаркі. Ручнік агульны для ўсяе сям'і і ім карыстаюцца ня толькі для абціраньня пасьля мыцьця, але і для сьціраньня са стала, выціраньня пасуды ды інш.

Абмываньне ўсяго цела адбываецца вельмі рэдка. Лазьняў няма, няма ня толькі ў Радзілавічах, але і ў суседніх вёсках. Улетку іншыя мыюцца сягды-тагды ў Рове, бо да р. Сьцьвігі далёка дый ня пушчаюць туды, бо якраз яна знаходзіцца на мяжы з Польшчай. Звычайна-ж абмываньне ўсяго цела адбываецца перад вялікімі сьвятамі, два-тры разы ў год, і то не ўсяго цела, а толькі верхняе паловы. Усё гэта тычыцца дарослых. З недарослымі—падлеткамі і малымі—справа значна горш. Яшчэ пакуль дзіцё сьсе грудзі маткі (да 2 год), то тая хоць зрэдку, але памые яго. Калі-ж дзіцё ўжо падрасло, то аб ім ужо ніхто не клапоціцца і за яго чыстатою ніхто ня сочыць. І калі мы, злавіўшы чорнага, як нэгр, хлопчыка год 6-7, запыталі ў яго маткі, ці мые яна яго калі?—то атрымалі літаральна наступны адказ: „А навошта яго мыць? Захоча—памыецца сам, а не захоча—і гэтак добра будзе. Вырасьце—вымыецца!“ і толькі моладзь у 17—20 год, калі зьбіраецца жаніцца, падчышчаецца як сьлед і імкнецца падтрымоўваць аса-

бовую чыстату. Пасьля-ж жаніцьбы гэтыя добрыя імкненьні гаснуць і зноў непадзельна пануе бруд.

Бялізна, якая ўжываецца сялянамі, вельмі простая, свайго вырабу. Крамніна сустракаецца рэдка і ў больш заможных. Мужчыны носяць: „сарочку“, порткі, шапку, на нагах—„посталы“ (лапці). У маладых—сарочка, штаны паверх портак і часта боты замест пасталоў. Сарочкі ва ўсіх вышытыя вельмі яркімі ўзорамі, прычым вышываюцца каўнер, канцы рукавоў і самы ніз. Жанчыны носяць таксама сарочкі, спадніцы, кабат. У сьвятыя дні надзяюць вельмі яркіх колераў спадніцы і рубашкі; па колеры гэтая крамніна набліжаецца да цыганскай. Зьменьваецца бялізна ня так часта, як-бы гэта павінна быць пры працы. У сярэднім зьменьваецца раз у паўтра-два тыдні. Бялізна робіцца з грубога палатна, тонкае матэрыі ўласнага вырабу наогул амаль не сустракаецца сярод мясцовага насельніцва.

Мыла ўжываецца рэдка і ў большасьці для твару. Бялізна мыецца бяз мыла наступным чынам: золіцца ў „жлукце“ гарачаю вадою і парыцца ў кадоўбе, потым ужо мыецца ў Рове. Ёсьць гаспадаркі, якія ніколі ня ўжываюць мыла.

У сярэдзіне хат, у абсолютнай большасьці, вельмі брудна. Ёсьць толькі некалькі хат на вёску, дзе кожны дзень прыбіраецца і падмятаецца. Рэшта-ж хат хіба толькі раз у дзень падмятаецца і то, відаць, не заўсёды, бо ў хаце сьмецьце раскідана па ўсёй падлозе, па ўсіх кутках. У гэткіх хатах, ня глядзячы нават на прысутнасьць створчатых вокан, заўсёды сьпёртае і вельмі затхлае паветра. Увайшоўшага зразу чалавека пачынае нават нудзіць. У больш чыстых хатах сустракаюцца розныя аздобы. Самаю распаўсюджанаю формаю аздабленьня хат зьяўляюцца намалёваныя на паперы самымі бабамі розныя цацкі. Гэтая папера і прыклейваецца на сьцяне, іншы раз, за адсутнасьцю паперы, цацкі гэтыя малююцца проста на пабеленай сьцяне. Ніводная хата не пазбаўлена кузурак, і калі ў некаторых, як прыемнае выключэньне, водзяцца толькі бязкрыўдныя прусы, то ў большасьці хат маюцца і прусы, і блохі, і клапы і іншыя віды. Распаўсюджваньню іх значна дапамагае бруднае ўтрыманьне пасьцельнае і нацельнае бялізны і асабліва рэдкая зьмена пасьцельнае бялізны і „мат-рагож“. Чужаеды вельмі добра адчуваюць сябе ў гэтых „матах“ і многа плодзяцца там. Змаганьня з імі амаль ніякага і ніколі не вядзецца. У хаце-ж адбываюцца і фізыолёгічныя патрэбы (дзяцьмі). Начыньня для гэтага няма ніякага; усё адбываецца проста на падлозе, а потым счышчаецца. Дарослыя за патрэбаю ідуць на двор і толькі ў выключных выпадках (хвароба, старасьць) натуральныя патрэбы адбываюцца ў хаце і дарослымі.

Забружваньню хаты і пагоршаньню яе санітарнага становішча дапамагае і выкананьне ў хаце гаспадарчых, па догляду за жывёлаю, працэсаў. У хаце кормяцца сьвіньні, гатуецца пойла, паранка. У хаце-ж узімку, у марозы, трымаюцца маладзенькія ягняткі, цяляты. І ўсю зіму ў хаце трымаюцца куры. Усё гэта яшчэ болей пагоршвае і без таго ня вельмі добрае санітарнае становішча хаты.

**10. Шлюбнае і плоцьнае жыцьцё.**

Пачынаецца плоцьнае жыцьцё прыблізна ў 17—18 год. Адносіны да шлюбу самыя простыя. Якога-небудзь уплыву з боку досьвітак, ігрышч і гуляньняў у гэтым кірунку адзначыць нельга.

Узрост уступаючых у шлюбы вельмі малады, аб чым сьведчыць наступная табліца (за 1926 год шлюбы):

| Узрост | 18 | | 19 | | 20 | | 21 | | 22 | | Усяго | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Род | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. |
| Лік | 1 | — | 5 | 4 | -- | 4 | 4 | 5 | 4 | 1 | 14 | 14 |

Адносіны як паміж самімі бацькамі, так і паміж бацькамі і дзяцьмі надта простыя. Сьпяць усе разам: і мужчыны, і жанчыны, малыя і дарослыя. Часам узьнікаюць паміж бацькамі і дзяцьмі, звычайна жанатымі, спрэчкі, якія канчаюцца вельмі проста: сын аддзяляецца ад бацькі і стварае ўласную гаспадарку. Разводы рэдкія. Тлумачыцца гэта часткова і матар'яльнымі ўмовамі: ні адна з разьведзеных асоб жыць добра сама па сабе ня зможа, і гаспадарка занепадзе. А на разьведзеных, да таго-ж, сяляне ня надта прыхільна і глядзяць, даючы ім ня вельмі прыгожыя мянушкі. За 1926 год іх усяго 2; прычына—нежаданьне жыць разам. Узрост іх: I—м.—20 г., ж.—20 г.; II—м.—22 г., ж.—21 г.

Абортаў ня робяць. Мер супроць зацяжарваньня няма, а народжваюць столькі, колькі „бог дасьць". Дзеці народжваюцца заўжды дома, бо да акушэркі—26 в. Яе наогул ніхто ня ведае, дый яна сама ў вёсцы ні разу ня была. Новароджаныя дзеці кормяцца грудзьмі да 2 год. Адначасова з гэтым, прыблізна ў паўгода, а іншы раз і з часу народжаньня, пачынаюць дзіцё падкормліваць т. зв. „куклаю", якая складаецца з жованага хлеба, проса, бульбы, або суслаю з кароўім малаком.

### 11. Становішча сялянскае працы.

Працоўныя працэсы ў сельскай гаспадарцы падзяляюцца на палявыя і хатнія. Да першых належаць усе працы на полі; да хатняе працы належаць дагляд жывёлы, запас дроў на зіму, а з больш цяжкое працы—малацьба.

Кожная з гэтых частак працы з санітарна-гігіенічнага боку мае свае ўласьцівасьці. У той час калі, кажучы наогул, палявую працу можна з гэтага боку лічыць ня шкоднай, бо хоць яна і цяжкая, але адбываецца ўвесь час на сьвежым паветры, пад сонцам,—хатняя праца, а з яе малацьба, зьяўляецца бязумоўна шкоднай,—бо ўвесь час з малатарні ідзе вялізны пыл і малацьбітом прыходзіцца дыхаць ім.

У в. Радзілавіч становішча ў гэтым напрамку шмат розьніцца ад вышэйпаказанага. Малоцяць тут больш цапамі, значыць малацьбу нельга лічыць шкоднай вельмі працай. З палявое-ж працы зварочае на сябе асаблівую ўвагу касьба. Як казалася раней (гл. разьдз. 2), навокал вёскі шырозна раскінуліся балоты, якія йдуць ад Прыпяці скрозь нізінамі і пераходзяць далей у Піншчыну. Гэтыя балоты і зьяўляюцца сенажацьцю Радзілавіцкіх сялян. Груду ў іх амаль няма, бо ўсе больш высокія кавалкі заняты пад пахаць, або пакрыты такімі пяскамі, што нішто на іх наогул не расьце.

І вось, касьба адбываецца на гэтых балотах скрозь па пояс у вадзе. Усё прыбіраньне сена, якое цягнецца тыдняў са два, адбываецца ў вадзе, ня гледзячы ні на якае надвор'е. А адсюль зьяўляюцца розныя хваробы, як прастуда і рэўматызм, якія надзвычайна распаўсюджаны сярод Радзілавіцкіх жыхароў. Касьба тым больш шкодна

адбіваецца на людзях, што цягнецца два-тры тыдні, без усялякіх перапынкаў, і працуюць, звычайна, цэлы дзень.

Трэба наогул сказаць, што сялянскі працоўны дзень, асабліва ўлетку, ніякіх законаў аб пэўным тэрміне ня мае. Улетку праца ідзе цэлы дзень, літаральна ад цёмнага да цёмнага. Сьвяты захоўваюцца толькі вялізныя, як Пятрок, ці Ільля. Больш дробныя не сьвяткуюцца. Але іншы раз, у касавіцу ці жніво, калі ёсьць сухое сена ці збожжа на полі і находзіць хмара, то не зважаюць ні на Пятра, ні на Ільлю, а ўсе, хто можа, бяруцца за працу.

Падлеткі зьяўляюцца ў сялянскай працы значнай падсобнай сілай і вельмі розьняцца ад падлеткаў у прамысловасьці. У той час калі апошнія да 18 год карыстаюцца рознымі палёгкамі, як скарочаны час працы, павялічаны водпуск ды інш., сялянскі хлапец ужо ў 16 год лічыцца зусім сталым працаўніком і ніякімі ільготамі ў параўнаньні з 20-30-гадовымі не карыстаецца. І ня толькі ў 16 год, а ў 8—10—12 год хлапчукі і дзяўчаткі ідуць ужо ў працу. Яны—пастухі, яны—іншая дапаможная сіла ў гаспадарцы. З усходу да заходу яны на нагах і, паклаўшы ў торбачку кавалак хлеба, бутэльку малака ды яшчэ сяго-таго, цэлы дзень снуюць за статкам па балотах і лясох. І гэта таксама мае вельмі дрэнныя бакі. Пастушок сьпіць у суткі ўсяго 5—6 гадз. у той час калі яму па яго узросту (8—12 г.) трэба спаць 9—11 гадз. Гэта робіць надзвычайны шкодны ўплыў на агульны стан здароўя. Да гэтага можна дадаць, як звычайнае зьявішча, хранічнае недаяданьне гэтымі дзяцьмі. Гэта—адно.

Другое, што характэрна ня толькі для данае вёскі, і ня толькі для ўсяе Тураўшчыны, а нават для ўсяго Палесься—гэта тыя ўмовы, у якіх прыходзіцца быць гэтым дзецям. Ці павядзе ён каня папасьвіць, ці пагоніць статак жывёлы—заўсёды ён пападзе ў балота, і толькі ў балота. І вынікам гэтага зьяўляецца і рэўматызм, які вельмі лёгка можна спаткаць і ў 10—15-гадовых дзяцей, і прастуда, якая зьяўляецца заўсёды прычынай іншых хвароб, якіх даволі такі ёсьць у гэтай вёсцы.

**12. Фізычны стан, хваравітасьць насельніцтва і лекавая дапамога.**

Даць пэўныя сталыя лічбы аб колькасьці хворых і аб хворобах сялян в. Радзілавіч нельга па дзьвюх прычынах: 1)—фэльчарскі пункт знаходзіцца за 26 в., у в. Танежы, і фэльчар, які там быў апошні час, так не падабаецца насельніцтву, што яно яму зусім ня верыць і вельмі рэдка наведвае яго; сам-жа фэльчар выездаў на раён наогул ніколі ня робіць. 2)—Сяляне наогул зварачаюцца да мэдыцыны толькі ў крытычных выпадках, асабліва, калі да гэтае мэдыцыны 26 в.

Усяго ў кнігах фэльчарскага пункту паводле запісаў за час з 1 мая 1926 г. па 1 ліпня 1927 г. (г. зн. за 14 месяцаў) з Радзілавіч лічыцца хворых 142 асобы. У гэты лік уваходзяць і запісы, калі фэльчар у 1926 г. быў два разы ў Радзілавічах і з абодвы разы запісаў болей 50 асоб. З гэтага ліку (142 асоб) на заразьлівыя хваробы мы маем хворых:

| | |
|---|---|
| На коклюш . | 13 |
| „ сухоты . . | 9 |
| „ адзёр . . . | 8 |
| „ каросту . | 8 |
| „ шкарлятыну | 7 |

Тут-жа я лічу неабходным падаць весткі аб сьмерці ў Радзілавічах за 1926 г. і першую палову 1927 г. Весткі гэтыя наступныя:

| Час / Хвароба | 1926 | 1927 |
|---|---|---|
| Шкарлянтына . | 13 | 3 |
| Сухоты . . . | — | 3 |
| Пухліна цела . | — | 2 |
| Прастуда . . | 2 | — |
| Коклюш . . . | 1 | — |
| Дзіцяч. хвар. . | 1 | — |
| Прыч. невяд. . | 6 | 4 |

Калі мы параўнаем лік хворых на шкарлянтыну (7 ас.) і лік памершых ад шкарлятыны (16 ас.), то ўбачым, што розьніца паміж імі болей, чым у два разы (эпідэмія шкарлятыны ў Радзілавічах выбухла ў канцы 1926 г. і скончылася ў весну 1927 г.) Значыць, весткі фэльчарскага пукту ня поўныя. Адсутнічаюць на фэльчарскім пункце весткі аб вэнэрычных хваробах[1]), якія, на жаль, таксама маюцца ў Радзілавічах. З апытаньня жыхароў і па словах сябра с.-с. у Радзілавічах ёсьць 10 хворых на сіфіліс і 1 на гонорэю. Усе яны накіроўваліся ў свой час на лячэньне і частка з іх прайшла курс лучэньня ў Мазыры, а частка „лячылася" ў в. Тонеж у бабкі Камарыхі, пад бокам фэльчарскага пукту. Фэльчар-жа аб гэтым нічога ня ведае.

Улетку гэтага году пачала распаўсюджвацца сярод радзілавіцкіх сялян трахома. Сяляне мала зварачаюць на гэта ўвагі. А на фэльчарскім пукце, калі ім аб гэтым заявілі, адказалі, што гэта—справа будучага фэльчара, які прыедзе на гэта месца, бо, „цяперашні фэльчар хоча, бачыце, паступіць на мэдфак і ехаць яму ў Радзілавічы зусім няма часу". Апрача вышэйпаказаных хвароб, насельніцтва хварэе і на шмат іншых, як: рэўматызм, запаленьне, прастуда (якая хоць і ня ёсьць хвароба, але значна дапамагае распаўсюджваньню іншых хвароб) ды інш.

Ад гэтых хвароб асобна стаіць „каўтун", які значна распаўсюджаны сярод радзілаўцаў. Антысанітарнае становішча памяшканьняў і саміх жыхароў, поўная адсутнасьць саніт.-гігіенічнае пропаганды значна дапамагаюць гэтаму. Дасюль пануе погляд, што ў каўтун выходзяць з цела ўсе іншыя хваробы, і таму пры ўсякім выпадку запушчаюць каўтун. А зрэзаць яго, па думцы сялян, нельга, бо пагне рукі і ногі. Вытлумачыць сялянам усю бязглуздасьць іх поглядаў няма каму і ўецца ва ўсіх каўтун пры ўсіх выпадках і здарэньнях[2]).

З пададзенага ясна, што забясьпека в. Радзілавіч мэдыка-санітарнай дапамогай стаіць ніжэй усякае крытыкі. Фэльчарскі пункт знаходзіцца за 26 в., хоць ён з посьпехам можа быць перанесены з в. Тонеж у в. Букчу, за 12 в. ад Радзілавіч і за 14 в. ад Тонежа. Выезды фэльчара здараюцца гэтак рэдка, што калі зімою 1926-27 навуч. году ў Радзілавічах выбухнула эпідэмія шкарлятыны, то настаўнік, прачакаўшы каля 2 месяцаў фэльчара для абгляду вучняў, не дачакаўся і мусіў

[1]) Засталося, як спадчына, ад белапалякаў.
[2]) Не паказана, колькі-ж ёсьць „каўтунаватых" у вёсцы. *Ів. Цьв.*

сам спыняць заняткі. Фэльчар-жа так і ня прыехаў. У Тонежы ёсьць і акушэрка (жонка фэльчара), але аб ёй сяляне Разілавіч ведаюць яшчэ менш, чым аб фэльчары. Якое-небудзь санпрасьвет-працы сярод сялян дасюль ніколі ня было і на бліжэйшы пэрыод не прадбачыцца.

Як фэльчар да людзей—гэтак і людзі да фэльчара. І з Радзілавіч рэдка хто едзе сам да фэльчара; часьцей яго вязуць. Фэльчар не карыстаецца аўторытэтам. Затое знахары і розныя бабкі пануюць там непадзельна. Ёсьць шмат розных „спэцаў“: шаптуны, намоўшчыкі, лекары расьлінамі—„тэрапэўты“, ёсьць і „хірургі“ (як, напр. Максім Краўчэня, што рэжа скулы). Ёсьць нават „спэцы“ і па вэнэрычных, як вышэйназваная Камарыха, што лечыць „пранцы“ нейкаю настойкаю ці адварам з кары (кажуць, што тыя, хто лячыўся ў яе, „усю асінавую кару папілі ды паелі“).

## 13. Характарыстыка культурнага ўзроўню насельніцтва і грамадзка-палітычны быт.

Пісьменных у вёсьцы вельмі мала[1]). Да 1905 г. ніякае магчымасьці вучыцца ня было, бо ня было школы. Нарэшце ў 1905 г. пабудавалі школу, але то настаўніка ня было, то самі сяляне ня вучыліся. Потым пачалася вайна, польская окупацыя. І толькі ў 1922 г. вёска адышла на савецкі бок. Зьявіўся настаўнік і школа пачала працаваць рэгулярна.

Пабудавана школа як і ўсе сялянскія будынкі, толькі зрублена ў нямецкі кут і значна большая памерамі. Добрая палова школы занята кватэраю настаўніка і толькі ў адным пакоі займаюцца. Школа працуе на беларускай мове, мае 1 настаўніка і 4 групы. Усіх вучняў у школе—36. З іх:

Беларусаў—33; яўрэяў—3.
Хлопцаў—33; дзяўчат—3.
Ад 8 да 11 г.—19 хл. і 3 дз.; ад 12 да 15 г.—14 хл.

Сёлета скончылі школу 3 хлопцы. З іх 1 беларус і 2 яўрэі.

У школе коэфіцыент асьвятленьня—1:6. На аднаго вучня прыпадае: плошчы—1,55 кв. м., паветры—4,7 куб. м., але паветра ня надта прыемнае, бо вэнтыляцыі няма, а ўлетку падвойныя рамы ня вымаюцца. Абсталявана школа вельмі кепска. Фізкультуры няма. Ніякіх навыкаў (ні сан.-гігіенічных, ні культурных наогул) школа ня прышчэплівае, бо і сам настаўнік нічым не адрозьніваецца ад радзілавіцкіх сялян.

Якіх-небудзь іншых грамадзка-культурных, адміністрацыйных і парт-комсамольскіх установ ці організацый у Радзілавічах няма, і ніякае культурнае працы ніхто не праводзіць. Актыўнасьць сялянства надзвычайна малая, ніхто нічым ня цікавіцца. Палітычная сьвядомасьць слабая. У школу прыходзіць некалькі газэт, але ніхто з сялян іх ня чытае. П'янства і хуліганства не распаўсюджаны. Новы быт пранікае слаба, хоць і стары ня мае пад сабою цьвёрдага грунту. Рэлігія таксама ня моцна трымаецца ў галовах сялян. Царква ёсьць.

Гульняў і ігрышчаў у вёсцы няма. Тлумачыцца гэта, як, часткова, адсутнасьцю п'янства, такі і тым, што вёска памежная, там стаіць вайсковая частка, якая забараняе рабіць гэта і пільна сочыць за выкананьнем гэтае забароны.

[1]) Колькі-ж? *Ів. Цьв.*

### 14. Агульныя вывады.

Вось весткі аб стане в. Радзілавічы. Гэтыя весткі, бязумоўна, пакідаюць жадаць значнага палепшаньня з усіх бакоў.

Грунт усяму—эканомічнае становішча і на гэта трэба зьвярнуць увагу ў першую чаргу. Нельга пакінуць бязь увагі вёскі, у якой на едака прыпадае 0,45 дзес. ворнае зямлі, 0,46 адзінк. рабочае жывёлы, 0,7 адзінкі буйнае рагатае жывёлы. Трэба як-мага хутчэй правесьці мэліорацыю і зямляўпарадкаваньне.

Для паляпшэньня санітарнага стану в. Радзілавічы трэба зрабіць наступнае:

1)—У абавязковым парадку сельсавету трэба загадаць для ўсіх студняў паставіць вочапы і прыкаваць да іх агульнае вядро, каб кожны ня боўтаўся з сваім вядром у студні; зрабіць накрыўкі ў студнях; даць схіл для стоку вады ад студняў, зрабіць каля іх насып ці брук.

2)—Пабудаваць лазьню, якая надзвычайна патрэбна ў Радзілавічах.

3)—Прыняць усе магчымыя крокі да падняцьця культурнага ўзроўню насельніцтва; зьвярнуць асаблівую ўвагу на школу, пасылаючы настаўніка яе пры ўсякай магчымасьці на розныя курсы; утварыць там хату-чытальню з актыўным хатнікам—добрым арганізатарам.

4)— Перанесьці доктарскі пункт (які зараз замест фэльчарскага) з Тонежа ў Букчу; загадаць сандоктару Тураўшчыны і мясцоваму (Тонескаму) доктару правесьці шэраг лекцый і гутарак у Радзілавічах па санітарыі і гігіене; у далейшым рабіць гэткія лекцыі два-тры разы ў год; зрабіць, па магчымасьці, агляд насельніцтва в. Разілавіч з мэтаю выявіць хворых на розныя хваробы, асабліва на вэнэрычныя, і накіраваць іх для адпаведнага лячэньня.

---

**М. Я. Грынблят.**

# Некаторыя матар'ялы да вывучэньня пастушаства і жывёлагадоўлі Тураўшчыны.

*(Этнографічныя нататкі).*

Пастушаства і жывёлагадоўля зьяўляецца надзвычайна цікавым пытаньнем для этнографа. І якраз з этнографічнага боку яно, на вялікі жаль, амаль-што не вывучалася. А вывучэньне такіх пытаньняў, як нагляд за жывёлай, утрыманьне яе, пасьба, таўраваньне скаціны, спосабы путаньня коняй, абрады і прыкметы, зьвязаныя з прадажай і купляй скаціны, абрады пры першым выгане яе, пастухоўскія абрады, лячэньне хворай жывёлы і г. д. і г. д. можа даць багаты этнографічны матар'ял. Асабліва цікавы эканомічны бок пастушаства.

Краязнаўцы, заняўшыся зьбіраньнем матар'ялаў па пастушаству і жывёлагадоўлі свайго раёну, сяла, вёскі маглі-б узбагаціць этнографію каштоўнымі навуковымі данымі.

Ніжэй прыведзены тыя даныя па пастушаству і жывёлагадоўлі ў беларусаў-паляшукоў Тураўшчыны, галоўным чынам сяла Тонеж, якія ўдалося сабраць аўтару ў часе этнографічнай экскурсіі летам 1927 году. Вывучэньне гэтых пытаньняў не ўваходзіла ў галоўную задачу экскурсіі, дзеля чаго сабраны матар'ял не зьяўляецца поўным, ён не датыкаецца ўсяе рознастайнасьці пытаньняў, зьвязаных з пастушаствам і жывёлагадоўляй.

Вялікае палескае *сяло Тонеж*, якое налічвае да 270 двароў і да 1400 чал. насельніцтва, знаходзіцца ў 36 клм. к поўдню ад м. Тура-

ва, Мазырскай акругі. Сяло ляжыць сярод сыпучых пяскоў, балот і лясоў і прадстаўляе характэрны куток Палесься.

Галоўны занятак насельніцтва—земляробства. Жывёлагадоўля там вельмі адсталая. Яна зьяўляецца дапаможным заняткам да земляробства, бо галоўны продукт жывёлагадоўлі—гной, які патрэбен глебе. Гэта і ёсьць важнейшая прычына, як сьцьвярджаюць паляшукі, разьвіцьця там жывёлагадоўлі.

Аналіз глебы с. Танеж паказаў, што ў 100 частках яе знаходзіцца гліны 26 частак і пяску 45[1]). Глеба з такім вялікім процантам пяску патрабуе добрага ўгнаеньня. Так, для пасеву проса гною патрабуецца штогод на 1/4 дзес. зямлі—30 вазоў (1 воз—каля 320—350 клгр.).

Для канаплі, на 1/4 дзес.—60 ваз.

Для бульбы, калі не на просе, то на 1/4 дзес.—25 вазоў.

Для аўсу—угнойваюць раз у тры гады.

Для лёну—раз у два гады. І г. д.

Азімае жыта сеецца на „за̀лежы“ (пасьля аднаго ўраджаю зямля „ялавѐе“ тры гады, адыходзіць у „за̀леж“, пасьля чаго зноў сеюць жыта).

Лічбы ўгнаеньня паказаны мінімальныя. З гэтага відаць, як паляшукі зацікаўлены ў утрыманьні як-мага большага ліку быдла. А гэтаму перашкаджае адсутнасьць корму—мала сенажаці (350,1 дзес. балотнай сенажаці на ўсё сяло. Даныя 1926 г.) „Няма як трымаць тавар“—кажуць паляшукі,—„а няма тавару—няма навозу, няма навозу—няма хлеба“. Адсюль ясна, што „тавар“ трымаюць выключна з-за гною. Жывёла танескага паляшука т. зв. „навозной породы“.

Скаціна паляшуку даражэй усяго, гэта яго багацьце. Дзеля гэтага самымі страшнымі праклёнамі паляшук лічыць праклёны па адрасу сваёй скаціны, напр., „шоб ты свою худо̀бу вы̀нес на пра̀ло (балота)“, „шоб твоя худо̀ба подо̀хла“, „шоб твоя кароўка, эта онна̀, да і та здохла“ і г. д.

У с. Танеж буйнай рагатай жывёлы (уключаючы і валоў) налічваецца 1307 галоў[2]). У сярэднім на гаспадарку выпадае 3-4 штукі. Максімальная колькасьць 18-20 штук (1-2 гаспадаркі).

Аснаўной рабочай жывёлай зьяўляецца вол. Ён-жа служыць і для ўсякіх перавозак. Ва ўсім сяле ў 1926 налічвалася ўсяго 19 коняй. Тлумачыцца гэта тым, што конь ня есьць жорсткага балотнага сена, а аўсу сеюць зусім мала. Падругое, вол дае „лепшы гной“.

Пяройдзем да пытаньня аб пасьбе жывёлы і пастушастве.

## Першы выган жывёлы.

Ува ўсіх усходніх славян першы выган жывёлы прыстасаваны да Юр‘ева дня (6-V, н. ст.). „Сьвяты“ Юры лічыцца абаронцам жывёлы, ён-жа кіруе ваўкамі. На поўначы, дзе яшчэ ў гэты дзень сьнег, абрад першага выгану абавязкова выконваецца. На поўдні, дзе жывёлу выганяюць раней Юр‘ева дня, абрад таксама прыстасоўваецца да гэтага дня.

У Тураўшчыне першы выган жывёлы адбываецца значна раней Юр‘ева дня. Да гэтага прымушае нястача корму. Яшчэ зімой танежцам прыходзіцца ехаць у Тураў па кулі саломы для галоднай жывёлы. Апошняя так слабее, што гаспадары, з-за немагчымасьці дастаць для яе корму, павінны выпусьціць жывёлу на балота для шуканьня якой-

[1]) „Очерк работ западной экспедиции по осушке болот (1873—1898)“. Сост. ген.-лейт. И. И. Жилинским. Спб., 1899, стар. 241.

[2]) Даныя с.-савету. 1927 г.

небудзь мёрзлай балотнай расьліннасьці, каб жывёла магла-б як-небудзь пратрымацца да сьвежай травы. Дзеля гэтага з хлявоў выганяюць яе вельмі рана. Яшчэ на двары сьнег і холад, „шчэ пастухі пальцы ліжуць у роце, ногі мэрзнуць шчэ за скотом“.

У с. Танеж першы раз выганяюць жывёлу ў нячотны тыдзень пасьля Каляд (на 5, 7, 9, 11, гледзячы ад пагоды), у той самы дзень, на які выпала апошняе „Расдвò“.

Абрад першага выгану жывёлы адбываецца так: Выганяюць жывёлу пасьля полудня, пад вечар. Перад выганам сям‘я гаспадара зьбіраецца ў хаце і моліцца („Отчэ наш“). Апранаюць новую сьвяточную вопратку. Гаспадыня ідзе ў „одрыну“ (хлеў) і леташняй сьвечанай вярбой (захоўваецца праз увесь год) выганяе жывёлу на двор. Гаспадар надзяе цераз плячо торбу, у якую кладзе хлеб, соль, нож, замок і „хрэсьнік“ (жытнік, сьпечаны ў форме крыжа на „хрэсцы“— Алекс. бож. чал., 30-III, н. ст.), каб адправіцца з жывёлай на поле. Гаспадыня пасыпае перад варотамі попелам, каб жывёла прайшла па ім. Сама гаспадыня застаецца каля варот, на двары, і шэпча замову. За вароты яна не павінна выходзіць, „бо каровы поскàкваюць, бягуць, яны рады бабе, яна корміць іх, і шчэ другая можэ іх наўрочыць“. У апошнім галоўная прычына. У такі важны момант, па думцы танежцаў, асабліва трэба берагчыся ўрокаў; нячыстая сіла ў такіх урачыстых выпадках асабліва імкнецца пашкодзіць. Ясна, што прымаюцца розныя меры перасьцярогі.

Гаспадар сам выганяе жывёлу на вуліцу і далей—у поле. У гэты дзень скаціна пасецца нядоўга, гадзіны дзьве, і недалёка ад сяла, у $1/2$—1 клм.

На полі гаспадар не павінен есьці, а толькі па звароце да хаты, „коб товар, як і гаспадар, гуртом еў, не адкугваўся і ўмесьце дамоў шоў“.

Перад зваротам жывёлы дамоў, гаспадар выламвае ў лесе „хвòйніку“ (хваёвую галінку) і „дубка“ і бярэ гэта з сабой. Калі жывёла вярнулася ў двор, гаспадар вымае з торбы „хрэсьнік“, тры разы ўкусвае ад яго і затым дае ўсёй жывёле па кавалачку[1]). Пасьля гэтага жывёла заганяецца назад у адрыну. „Хвойнік“ і „дубок“ гаспадар затыкае ў вароты адрыны.

Назаўтра жывёлу пачынаюць пасьвіць нормальна—з раньня да вечара.

Час пасьбы можна падзяліць на тры пэрыоды: 1) ад першага выгану да Міколы (22-V, н. ст.), калі жывёла пасьвіцца сваімі хатнімі сіламі, 2) ад Міколы да Міхайлы (21-XI, н. ст.), калі пасе наёмны пастух „у чарадзе“ і 3) ад Міхайлы, калі наёмны пастух канчае сваю працу, „чарада развальваецца“ і кожны гаспадар зноў пасе сваю жывёлу сам да выпаду сьнегу.

### Пасьба жывёлы да Міколы.

У той час, калі жывёла яшчэ слаба, адзін пастух ня можа з ёю ўправіцца. За зіму жывёла так слабее ад кепскага корму, што падае з ног—„скот хворы“, „можа легчы ў болоці“. Затым балота пачынае адтайваць, і жывёла часта правальваецца. Дзеля гэтага некалькі гаспадароў аб‘ядноўваюцца разам і высылаюць са сваёй жывёлай 4-5 хлопчыкаў. Такому ліку пастухоў лягчэй управіцца. Калі-б карова і правалі-

[1]) „Хрэсьнікаў“ выпякаецца на „Хрэсцы“ некалькі штук. Яны фігуруюць пры пачатку ўсіх с.-г. работ,—як пачынаюць араць, засяваць і г. д.

лася ў балота, то агульнымі сіламі яны выцягаюць яе—„бяруць карову за хвост, за рогі ды і дўбюць“.

Жывёла ў гэты час пасецца на балоце, на „груду“ (больш высокае і сухое месца), „ходзіць по вѐрэсу“. Калі ізноў выпадае сьнег, то жывёла заганяецца назад у хлеў.

Такім чынам, жывёла пасецца да Міколы, „шоб скот падпасься і пастух змог сам з подпаскам справіцца“, тады наймаюць ужо пастуха.

### Наём пастуха.

Выбар пастуха—справа ня простая. Трэба наняць такога чалавека, якому можна было-б даручыць жывёлу і быць упэўненым, што яна будзе пасьвіцца як сьлед, будзе дагледжана, ня пойдзе ў „шкоду“ і г. д. Кандыдатура пастуха абгаворваецца доўга і горача, з будучым пастухом зараней вядуцца размовы і доўга таргуюцца аб аплаце. У дзень Міколы, звычайна, з пастухом аканчальна ўмаўляюцца.

Пастуха наймае група гаспадароў з аднэй часткі вуліцы. На Міколу яны зьяўляюцца да пастуха і пытаюць, ці згодзен ён на такіх-та ўмовах „пасьціць тавар“. Атрымаўшы ад пастуха згоду, гаспадары вядуць яго ў „курэнь“ (жартаўлівая назва віннай лаўкі спажывецкага т-ва) частаваць. Усякая ўмова, звычайна, замацоўваецца выпіўкай.

Гаспадары „складваюцца“ па кап. 15-20, купляюць гарэлку і п‘юць разам з пастухом. Закуску яны прыносяць з сабой.

Назаўтра ўжо пастух гоніць стада на пашу.

### Умовы найма пастуха.

Пастух наймаецца на тэрмін ад Міколы да Міхайлы, на 6 месяцаў (22-V—21-XI).

Ад пастуха вымагаюць: сўмленна адносіцца да сваёй справы, глядзець стада, паведамляць гаспадара аб захворваньні жывёлы, паіць у час, даваць ёй адпачынак, шпарка не ганяць, ня пушчаць у „шкоду“ (за гэта пастуха караюць сурова, нярэдка б‘юць) і г. д.

За ўвесь сэзон пастух атрымлівае (умова з пастухом Карасём Маркам, 16 г., сяло Танеж, сэзон 1927 г.):

1. Па адным рублі з галавы жывёлы;
2. Гаспадарскую адзежу на час працы;
3. Харч гаспадарскі;
4. Падпасыча ў дапамогу і
5. Тры выхадныя дні.

Адзежа, харч і падпасак даецца пастуху штодзень гаспадарамі „па чарзѐ“ з такім разрахункам: за 2 каровы—1 дзень „чаргі“, за 4 каровы—2 дні, за 1 карову—цераз „чаргу“ і г. д.

Вечарам, перад „чаргой“ гаспадара, пастух прыходзіць да яго па адзежу назаўтра. На дзень пастуху выдаюцца чыстыя штаны, „сарочка“ і анучы (лапці свае). Назаўтра рана пастух зьяўляецца „да чаргі“ сьнедаць. Сьнеданьне складаецца з малака, сьмятаны, яечні, кашы ці баршча. Мэню залежыць ад таго, ці пасьпее гаспадыня да выгану чаго-небудзь зварыць. Калі не, то пастух сьнедае адным малаком з хлебам. З сабой на пашу яму выдаецца 200 гр. сала і хлеба колькі хоча. Вечарам, як прыгоніць жывёлу, пастух ідзе зноў туды-ж вячэраць (вячэра абавязкова гарачая), зьвяртае адзежу і атрымлівае ад заўтрашняй „чаргі“ новую адзежу. І г. д.

У падпасыча „чарга“ вылучае хлопчыка, дзевачку, а то сама гаспадыня ідзе з пастухом. Калі няма каго пасласць, то гаспадар наймае на дзень падпасыча.

Выхадных дзён у пастуха 3: Тройца, Пятроў дзень (12-VII, н. ст.) і Спас (19-VIII, н. ст.). Калі-небудзь у нядзелю пастуха замяшчае брат ці бацька.

Грошы пастух атрымлівае пасьля Міхайлы, „хто калі аддасьць“.

Аплата пастуха бывае грашмі ці натурай. Аплата не аднолькавая, як хто ўмовіцца. Трэба падкрэсьліць, што ніводзін пастух с. Танеж у саюзе сельска-гаспадарч. і лясных рабочых ня лічыцца, і працоўныя ўмовы з гаспадарамі праз саюз не заключаліся.

Танескі рабачком саюзу с.-г. і лясных рабочых у 1926 г. яднаў 29 членаў саюзу, у гэтым ліку толькі 1 батрак. Гэта тлумачыцца тым, як гаварыў сакратар рабачкому, што гаспадары адгаварваюць батракоў уступаць у саюз: „Нашто табе ісьці ў саюз, плаціць у страхкасу, я табе лепш заплачу“. А падругое, амаль усе батракі сэзонныя, таксама і ўсе пастухі.

Па тых умовах паміж пастухамі і наймацелямі, што заключаліся праз саюз, аплата пастуха таксама не аднолькавая. Кожны гаспадар плоціць розна. Прывяду некалькі прыкладаў аплаты пастухоў у іншых вёсках Тураўшчыны [1]).

„Працоўная ўмова паміж батраком Акулічам, Трахімам Карнеевым і наймацелем, гр. с. Букча, х. Млінка, Букч. с.-с., Тураўск. р., Мазырск. акр., Халадовічам, Антонам Пятровічам. На тэрмін з 19 лютага 1926 г. па 14 лютага 1927 г. для пасьбы скаціны. Гр. Халадовіч абавязваецца выплаціць рабочаму за працу ў працягу вышэйадзначанага тэрміну: *2 быкі па году, 2 пары ботаў, штаны з сялянскага сукна, 4 піджакі і шапку.* Рабочы харчуецца ў наймацеля. У часе працы і, ў сьвяты носіць гаспадарскую адзежу. Працягласьць працы не перавышае 8 гадзін. Наймацель ня можа зволіць пастуха без папярэджаньня яго за 2 тыдні і без паведамленьня саюзу і г. д.“. Па ўмове гаспадар у выпадку звальненьня пастуха выплачвае яму за 3 месяцы наперад. Пастух карыстаецца водпускам з разьліку—2 дні за праслужаны месяц і штотыднёвым днём адпачынку, мэдычнай дапамогай за кошт гаспадара і г. д. Але трэба сказаць, што ўмова не па ўсіх пунктах выконваецца, асабліва па пункту аб васьмігадзінным працоўным дні.

Вось яшчэ віды аплаты пастуха:

Працоўная ўмова паміж батраком Струкам, Янам Уласавым і гр-мі в. Азяраны, Тур. р., Маз. акр. для пасьбы скаціны (60 галоў). Тэрмін—з 23-IV па 8-XI (ст. ст. [2]) 1926 г. *аплата 30 рублёў альбо 25 пудоў жыта* (па 15 ф. за галаву).

Працоўная ўмова паміж батраком Баланчуком, Анісімам Васілёвым і гр. х. Старац, Рычаўскага с.-с., Тур. р., Кучаноўскім, Янам Антосевым для пасьбы скаціны ў ліку 15 штук. *Плата—47 р. альбо—27 р. і адну пару новых ботаў, кортавы фрэнч, сарочка, штаны.*

Працоўная ўмова паміж батраком Таманчуком, Прахорам і гр. х. Обзаў, Танескага с.-с., Тур. р. для пасьбы скаціны ў ліку 6 галоў. Тэрмін—7 месяцаў (1925 г.). Аплата—*4 рублі ў месяц* і харч гаспадарскі.

Яшчэ можна ўказаць на такія віды аплаты працы пастуха ў Тураўшчыне (1926 г.):

1. Па 5 фунтаў жыта за галаву скаціны.

2. За авечак—па 3 ф. жыта за штуку ці рэчамі на 40 р. (за 300 авечак).

3. За пасьбу сьвіней усёй вёскі—27 рублёў і г. д.

---

[1]) З кнігі працоўных умоў Тураўскага Райпрофсавету.

[2]) Ад Юр'я да Міхайлы.

Цікавы такія запатрабаваньні пастухоў, як кортавы фрэнч, шапкі, купленыя ў коопэратыве і г. д., што сьведчыць аб пэўнай модзе ў вёсцы.

## Пастухі.

У с. Танеж большасьць пастухоў—маладыя хлопцы, ад 15 да 17 год. Усяго пастухоў кароў 10 (9 пастухоў сялянскіх кароў і 1 „жыдоўскі"—для кароў яўрэйскага насельніцтва [1]), з іх 9 хлопцаў і 1 стары.

Апроч пастухоў кароў маюцца яшчэ спэцыяльныя пастухі валоў і быкоў і „коньскі пастух".

Для авечак наёмнага пастуха няма. Усе авечкі сяла пасуцца разам, „па чарзе" кожным дваром.

Сьвіней на пашу не выганяюць, яны бадзяюцца па вуліцы і ў канавах. Некаторыя гаспадары выганяюць свае сьвіньні ў поле.

На кожнага пастуха выпадае ад 70 да 100 галоў скаціны, што складае т. зв. „чараду" (стада).

Пастух-навічок у першы раз бярэ ня больш 70 штук, каб „скот добры быў", г. зн., каб управіцца з „чарадой" і зарэкомэндаваць сябе добрым пастухом на будучае.

Абавязковыя прылады кожнага пастуха: ражок з валовага рога, пуга, торба з харчамі і нож.

У дапамогу пастух бярэ з сабой падпаска і сабаку.

## Праца пастуха.

*(Пасьба скаціны пасьля Міколы).*

Наёмны пастух пачынае сваю працу назаўтра пасьля Міколы, пасьля аканчальнай умовы з гаспадарамі. Раніцой ён прымае сваю „чэрэдў" і выганяе яе ў поле.

„Чэрэда́" мае ў Тураўшчыне яшчэ і іншыя назвы—„ста̀до", „скадро̀н", „табу̀н", „гурт".

Пастух выганяе скаціну „да сонца", як толькі пасьнедае. Да гэтага часу ўсе гаспадыні павінны ўжо падаіць сваіх кароў. Пастух выходзіць на вуліцу, грае ў ражок, і каровы пачынаюць выходзіць з варот і накіроўвацца ў бок выгану. Кожнае стада мае свой асобны сыгнал і жывёла яго ведае. Калі гаспадыня прасьпіць і ў свой час ня выпусьціць кароў, то самой ёй прыходзіцца гнаць іх і даганяць стада.

Калі ўсё стада выходзіць на вуліцу, пастух, з дапамогай падпаска і сабакі, гоніць яго ў поле, пахлёстваючы пугаю і з выклікам— „алё!"

У пагоду стада пасецца ў густым лесе, у бярэзьніку, а ў нягоду— у бары ці „ў чыстым полі". Жывёлу хутка не ганяюць, яна ідзе ціха і пачынае есьці, як толькі адышла на $^{1}/_{2}$—1 клм. ад сяла. У балота ўлетку стада ня пушчаюць, бо там „бога́то воды". Да балота стада прыганяюць на вадапой.

Як толькі жывёла ўвайшла ў лес, пастух спыняе яе падганяць, яна паволі ідзе і есьць. Пастух наглядае толькі, каб каровы далёка не разбрыліся. Там жывёла пасецца гадзін 5-6, да поўдня.

У поўдзень пастух трубіць у ражок і стадо ідзе на „ста́йло" ці „сто̀йбішча"—месца ў лесе, дзе жывёла адпачывае. „Ста́йло" заўсёды адно, жывёла да яго прызвычайваецца і ведае да яго дарогу (ур. „Пустромѐль"). Тут у поўдзень зьбіраецца цэлы шэраг „чэрэ̀д".

---

[1]) Яўрэяў у с. Танеж да 30 двароў.

На „стайле“ стада знаходзіцца гадзіны 2—3. Спачатку яно, звычайна, стаіць на адным месцы, жуе жвачку, а затым лажыцца. Адну чараду блізка да другой не падпушчаюць, асабліва вясной, калі жывёла слабая, бо яна б‘ецца.

Пастухі зьбіраюцца ў адзін гурток, разводзяць агонь, разуваюцца, сушаць анучы, а затым пякуць сала, закусваюць. Пасьля гэтага адны лажацца спаць, другія плятуць сабе лапці, трэція забаўляюцца— гуляюць, загадваюць загадкі, сьпяваюць і г. д. (Аб гульнях пастухоў гл. ніжэй).

Са „стайла“ жывёла ідзе далей клм. 2-3, а затым пастух паварачвае стада назад і яно паволі ідзе ў бок вёскі. Зьвяртаецца стада з заходам сонца, летам а гадзіне 8-9.

Прыгнаўшы стада ў сяло, каровы самі разыходзяцца па дварох, а пастух разуваецца і ідзе ў заўтрашнюю „чаргу“ па вопратку, а ў сёньнешнюю „чаргу“ вячэраць і зьвярнуць ношаную вопратку.

За дзень пастух праходзіць са стадам агулам клм. 12—25.

Такім чынам, працуе наёмны пастух да Міхайлы (21-XI, н. ст.), пасьля чаго чарада „развальваецца“, кожны гаспадар сам пасе сваю скаціну пакуль ня выпадзе сьнег.

На Міхайлу, звычайна, даецца ацэнка здольнасьцям пастуха— „адзін хваліць, другі ганіць“... Пастух скончыў сваю працу. Грошы ён атрымоўвае пасьля Міхайлы, „хто калі аддасьць“.

### Гульні пастухоў.

Пастухі, як ужо было падкрэсьлена, забаўляюцца на „стàйле“, калі зьбіраюцца ўсе разам у поўдзень. Самая ўлюбёная забава пастухоў на „стáйле“ гэта круціцца на „круцёлцы“: пастухі агульнымі сіламі сьсякаюць „хвою“ і пакідаюць досыць высокі пень (каля 1 м. ад зямлі). Хвоя ачышчаецца ад галін і пасярэдзіне выдлубаецца наскрозь дзірка. Няглыбокую дзірку (см. 20) робяць і ў цэнтры паверхні пня. Пасьля хвою кладуць паземна на пень і злучаюць іх „зáтычкай“ так, каб апошняя прайшла праз хвою і ўвайшла ніжнім канцом у дзірку пня. Такім чынам, хвоя мае магчымасьць круціцца на пні. На канцох хвоі ў раўнавазе сядаюць пастухі, а адзін штурхае хвою і яна круціцца.



„Круцёлка“.

З іншых улюбёных забаў пастухоў на „стáйле“ трэба адзначыць сьпевы. Спэцыяльных пастухоўскіх песень мне чуць не давялося.

### „Згóншчына“.

Пасьля Міхайлы, у які-небудзь сьвяточны дзень, калі ўсе гаспадары бываюць у хатах, пастух зьбірае сваіх сяброў-пастухоў і ідзе з імі па хатах зьбіраць т. зв. „згòншчыну“.

Гаспадары даруюць свайму пастуху розныя продукты: муку, проса, каноплю, бульбу, прадзіва і г. д. Усё гэта пастух бярэ сабе. „Згòншчына“ не ўваходзіць у лік аплаты пастуха па ўмове.

### Узаемаадносіны пастухоў.

Усе пастухі лічацца сябрамі і павінны дапамагаць адзін аднаму.

Калі карова, бывае, адаб'ецца ад свайго стада і прыб'ецца да другога, дык пастух гэтага стада павінен яе глядзець. Пастухі памагаюць адзін аднаму шукаць зблудзіўшую жывёлу, зьбіраць „згоншчыну" і г. д.

### Сьв. Юры і скаціна.

Юры лічыцца абаронцам жывёлы. Ён мае сілу над ваўкамі і кіруе імі.

Дзеля гэтага на Юр'я да ўсходу сонца знахары „заціна́юць" жывёлу ад ваўкоў на ўсё лета. Калі знахары (а „спэцыялістых" па „заціна̀ньні" жывёлы ў с. Танеж—двое) не пасьпеюць да ўсходу сонца абыйсьці ўсіх гаспадароў, то жывёла іх застаецца не загаворанай і ёй пагражае быць задранай ваўкамі. Вера ў „заціньаньне" вялікая. Мне расказвалі, што бачылі, як воўк езьдзіў верхам на папоўскай карове і не чапаў яе толькі таму, што яна была загаворана на Юр'я.

На Юр'я не працуюць, „каб скаціна ня пала і каб град не пабіў пасевы".

### Закліканьне (жывёлы).

Цялят заклікаюць у двор так: віць, віць, віць, віць! Віць, віць, віць! (с. Танеж).

Авец: сік, сік, сік, сік, сік, сік! Сік, сік, сік, сік! (с. Танеж); Чу, чу, чу, чу, чу! (с. Радзілавічы).

Сьвіньні: Ту̀-ку, ту́-ку, ту̀-ку, ту̀-ку, ку̀-ку, ту̀-ку, ту̀-ку, ту̀-у у! с. Букча). Заганяюць сьвіньні: Айсь домоў! Аццю, куды̀! Айсь! Айсь! с. Танеж).

---

А. Адзінец і Ів. Юрашкевіч.

## Нататкі аб асаблівасьцях мовы Тураўшчыны.

*(З досьледу, зробленага ўдзельнікамі студэнцкай Краязнаўчай экспэдыцыі ў Тураўшчыне).*

Мэтай нашай экспэдыцыі было—дасьледваць мову і фольклёр Тураўскага раёну. Галоўную ўвагу мы зьвярнулі на вывучэньне мовы таму, што Тураўскі раён у гэтых адносінах мала вывучаны, ня гледзячы на тое, што ён мае пераходны па мове характар [1]).

Але раней, чым прыступіць да выкладу вынікаў дасьледваньня, мы хочам спыніцца на тэй ролі, якую грае веданьне мовы ў нас, у старонцы саветаў. Пры вырашэньні пытаньня адносна політмеж паміж асобнымі рэспублікамі СССР улада, апрача шэрагу фактараў экономічнага, культурна-гістарычнага і інш., што кладуцца ў аснову вызначэньня межаў паміж асобнымі рэспублікамі, надае ўвагу таксама і фактару лінгвістычнаму, чаму і зварочваецца да мовазнаўцаў. Значыцца, у нас політмежы ўстанаўляюцца ня ўзброеным захопам, а шляхам мірнага навуковага разьвязаньня.

---

[1]) Есьць толькі запісы з Турава Доўнар-Запольскага і адказ на програму, надрукованы ў „Материалах для изучения северно-малорусских говоров, а также переходных от белорусских к малорусским", зьмешчаны ў 75 томе „Сб. Отд. Русск. Яз. и Слов. Р. А. Н.".

Кажучы аб межах моў, мы павінны зазначыць наступнае: межы ў мове зусім не такія, як у чым-небудзь іншым, дзе рэзка і яскрава абрываецца адно і выразна пачынаецца другое. Тут справа абстаіць інакш. Калі мы возьмем беларускую мову на мяжы з украінскай, дык мы ўбачым, што ў мясцовасьці, далучанай да Беларусі (галоўным чынам каля мяжы), будуць некаторыя, а можа і многія элемэнты украінскай мовы. Наадварот, беларускія зьявы мы знойдзем у паўночных дыялектах украінскай мовы. Значыцца, каля мяжы бывае мешаніна. У такім выпадку, панашаму, неабходна падлічыць элемэнтаў якой мовы ў данай мясцовасьці больш і ў залежнасьці ад гэтага ўстанаўляць мяжу.

Увага: Адносна азначэньня этнографічнай належнасьці пераходных гутарак бч. арт. проф. Бузука „Да характарыстыкі паўночна-беларускіх дыялектаў“, а таксама яго „Спробу лінгвістычн. географ. Беларусі“.

Прыступаючы да вывучэньня мовы і фольклёру Тураўскага раёну, мы разьбілі яго на трыкутнік такім чынам: мястэчка Тураў, вёска Верасьніцы, в. Малешава, в. Боркі, в. Чэрнічы, в. Пагост, сяло Перароў, с. Азяраны, с. Танеж, в. Букча і с. Радзівілавічы. Усе памянёныя вёскі і сёлы мы і абсьледвалі. Сказаць, што мы абсьледвалі іх дасканала, нельга таму, што зрабіць гэта нам не дазволіў час, а таксама і сродкі. Больш-менш стала мы дасьледвалі фонэтыку і морфолёгію.

Патрэбна таксама зазначыць, што лінгвістычны матар‘ял мы здабывалі ад тубыльцаў старыкоў, людзей няпісьменных, няслужыўшых у войску і няжыўшых у гарадох. Большасьць матар‘ялаў мы здабылі ад жанчын, мова якіх наогул вызначаецца консэрватызмам з тае прычыны, што па-за сваёй мясцовасьцю яны нідзе ня бываюць.

Працавалі мы пад непасрэдным кіраўніцтвам паважанага нашага профэсара П. А. Бузука.

### Фонэтычныя зьявы.

1) Першая фонэтычная зьява, якая ўласьціва ўсяму раёну, гэта адсутнасьць аканьня. Нідзе ў Тараўскім раёне ня скажуць: „*малады*“, „*дарагі*“, а скажуць „*молоды*“, *дорогі*“ і інш. Захоўваецца нязьменным і „*е*“: „*веду*“. Спрадвечнае-ж „*я*“ зьмяняецца на „*е*“: „*пеці*“, „*везаць*“; тэй-жа прычынай абумоўліваецца і е*к* зам. *як*.

2) Заўсёды, у зачыненых складох заместа спрадвечнага „*о*“ зьяўляецца дыфтонг „*уо*“; напрыклад: „*суоль*“, „*куонь*“ і г. д. (амаль заўсёды пад націскам), аб гэтым бч. артыкул Ганцова „Характеристика поліських дифтонгів“, зьмешчаны ў „Записках історично-філолог. відділу Укр. Акад. Наук, кн. II-III, IV) і нават, „*пуойду*“, „*вуойны*“, тут захоўваецца дыфтонг перад „й“. Бывае, што дыфтонг сустракаецца ў такіх словах, як „*Пруонечка*“, ня гледзячы на тое, што склад адчынены. Тут магчыма дыфтонг вымаўляецца па аналёгіі са словам „*Пруонька*“.

Спадчынай старога „*ѣ*“ зьяўляецца дыфтонг „*іе*“: „*хліеб*“, „*хліеў*“ і інш. Тут у адных выпадках пераважае першая часьціна „*і*“, а ў другіх—элемэнт „*е*“. Прынамсі, на поўначы пераважае „*е*“ (у вёсках Малышаве, Верасьніцах, Барку і Пагосьце), паступова на поўдзень пашыраецца вымаўленьне „*іе*“ (у Тураве, Танежы, Букчы і Радзівілавічах). Там скажуць: *дзіед*, *хліеб* і інш. („*і*“ пераважае).

3) Гук *„ы“* пасьля губных *„б“*, *„п“*, *„м“*, *„в“* заўсёды зьменьваецца на гук *„у“*: *„мўло“*, *„вўло“*, *„плулѝ“*, *„бук“*, замест: *„мыл“*, *„выла“*. і г. д. Гэтаму пераходу не перашкаджае нават прамежнае „л“: *„плут“* (плыт), *„плулѝ“*.

Замена пасьля губных *„ы“* гукам *„у“* ўласьціва, наогул, паўднёвым беларускім гутаркам. Аб ёй дакладней гл. у Карскага: „Белорусы, т. II, вып. I, ст. 282—285“.

4) Бывае, нават, што пасьля некаторых зычных, як напрыклад, *„п“*, вымаўляецца *„у“* ня толькі замест *„ы“*, а нават і замест *„о“* і *„е“*: *„пудняў“*, *„пудойме“*. Пакідаем адчыненым гэтае пытаньне; магчыма, што яно стаіць у сувязі з „дыфтонгічным“ вымаўленьнем *о*.

5) Вельмі пашырана выпадзеньне ў Тураўскіх гутарках *„j“* (ёта) паміж галоснымі: *такѝэ“*, *„знаэ“*, *„такаа“*, *„котѝруу“*, што далей выклікае асыміляцыю *(знаа)*, а потым сьцягваньне (*знà, такэ̀, такà, котѝру*).

6) Звонкія зычныя захоўваюцца перад глухімі: *кàзка, вуожка,* і ў канцы слова: *„дзіед“*, *„дуб“* і інш. Гэта вядома і іншым паўднёвабеларускім дыялектам. Параўн. напрыкл. Расторгуева „Северско-Белорусский говор“, ст. 39 і наступн.

7) Перад старымі *„е“*, *„і“* губныя зычныя амаль ва ўсім раёне, асабліва на поўдні вымаўляюцца цьвёрда: *мэ̀ртвы, овэ̀чка*. Зацьвярдзеньне губных бывае толькі пад націскам *(овэ̀чка)*. У Радзівілавічах цьвярдзеюць і зубныя зычныя: *„дэнь, „дэсець“, нэ̀бо, бўдэ, дэсэ̀тэро.*

Перад мяккімі галоснымі пасьля зубных устаўляецца *„j“*: *гледjя̀т, хѝдjет* і інш.

8) Шыпячыя і *„р“* вымаўляюцца ў некаторых вёсках поўмякка, а ў другіх цьвёрда: *„чисты“* або *„чысты“*, *„дѝбрэе“* і *„дѝбрэ“*. (На поўдні больш мякка вымавяць).

9) Заднянёбныя *„г“*, *„к“*, *„х“* на поўначы і ўсходзе вымаўляюцца амаль мякка: *„хібà“*, а на поўдні амаль цьвёрда.

10) Прыставачнае *„у“* нескладовае нятрывалае і паддаецца хістаньню ў бок губнога зычнага *„в“*. Прыпамсі, яскрава выражанае *„у“* нескладовае мы пачуем у вёсках: Боркі, Чэрнічах, с Пагосьце і с. Танежы. Далей на поўдзень мы назіраем білабіяльнае w *„wуон“* (сяло Радзівілавічы, с. Букча).

Трэба тут заўважыць, што часам білабіяльнае *w* або нават галосн. *ў* чуваць у іншых становішчах: голо*w*à, гоўòриць.

11) Дзеяслоў мае канчатак у жаночым родзе на *„ся“*, а *„са“*, а ў ніякім родзе *„со“*. Там скажуць: *„зробіласа“*, *„зробілосо“*, *„вучыласа“*, *„вучылосо“*, у мужчынскім таксама канчатак *„са“*. У с. Танежы і с. Радзівілавічах сустракаецца часта ўсячэньне канчатку *са, со.* Пагэтаму так скажуць: *„родзіус“*, *„остàус“*.

12) Гук *л* амаль заўсёды перад цьвёрдымі зычнымі губіць мяккасьць: *вѝлны, весіѐлны* замест *вѝльны, весёльны.* (Зьява ўласьцівая ўсяму раёну). Пасьля губных перад мяккімі галоснымі—заўсёднае разьвіцьцё ёта: *„пjя̀ць“*, *„мjя̀со“* і інш.

13) У канцы слоў назоўнікаў перад злучэньнем даўнейшых старраславянскіх *льj, ньj* галосны, замест падваеньня папярэдняга зычнага, што ўласьціва большасьці беларускіх дыялектаў, у Тураўскім раёне назіраецца адсутнасьць гэтага падваеньня. Тут скажуць: *„весѐлье“*, *„ралья̀“* і інш. (пар. арт. Сяржпутоўскага: „Краткий грамматический очерк живого белорусского наречия крестьян деревни Чудино, Круго-

вичской волости, Слуцкого уезда, Минской губернии", зьмешчаны ў „Сб. Отд. Русск. Яз. и Слов. Рос. Ак. Наук." т. 89, стр. 11. Трэба заўважыць, што акад. Карскі ў сваёй працы „Белорусы", т. 2, в. 1, ст. 366 на гэтую зьяву не звараціў належнай увагі.

14) Часта *д* асымілюецца наступным *н: бенна, „онноѐ", „холѐнны"*, замест: *„бѐдная", „аднаѐ", „халѐдны"*.

15) Тураўскаму раёну таксама ўласьціва гэткая чыста беларуская фонэтычная зьява, як „дзеканьне": *„сядзь", „дзедзінец"* і інш. У Радзівілавічах дзеканьне выяўляецца ў меншых разьмерах, а менавіта, толькі перад рефлексам старога *„ѣ"*, бо перад *„е"* і *„і"* зубныя там сьцьвярдзелі: *дзіед*, але *дэнь*.

16) Цеканьне таксама ўласьціва Тураўшчыне. Там скажуць: *„седзіць", „пѐрсьцень"*, на *„совіеці", „у Погосьці"*. Толькі ў с. Радзівілавічах, а часткова і ў Букчы цэканьне зьнікае. Там ужо скажуць: „пэтдэсят", *пјят, бачитэ, дэсѐтэро.* У сувязі з гэтым дзеясловы цяперашняга часу канчаюцца не на *„ць"*, а на *„т": хрисьцят, лѐўят, глед'јят.*

17) Афрыката *дж* з *„дј"*, уласьцівая мовам беларускай, украінскай і сербскай, у гутарках Тураўскага раёну не заўсёды зьяўляецца там, дзе яе можна чакаць. Так, напрыкл., у м. Тураве ўжывуць побач з *ходжу̀* і *урожа̀й* (замест *„ураджа̀й"), „прыежда̀лі"*, замест *„прыяжджа̀лі"*. У вёсцы Радзівілавічах скажуць *хожу̀, седю, дошч, прі/ыежда̀й* і інш.

18) Варта адзначыць яшчэ надзвычайна цікавую фонэтычную зьяву, якую мы заўважылі ў сяле Танежы. Гэта некаторую блізкасьць зычнага *„ш"* да *„с": „поміе^с^шикоў", „пло^с^шиць", „^с^шо"* і інш.

19) У вінавальным склоне ў словах жаночага роду адзіночнага ліку мы маем напроці большасьці беларускіх гаворак і літаратурнай мове націск не на канчатку, а на першым складзе (пачатковым): *„но̀гу", „го̀ру"* замест *„нагу̀", „гару̀"*. Гэтую асаблівасьць ведаюць і іншыя паўднёва-беларускія гаворкі. Яна адбіваецца і ў запісах Сяржпутоўскага з Вялікага, Рожына, Лучыц, і інш., гл. „Сказки и рассказы белоруссов-полешуков", 1911 г. стр. 1, 7, пар. Карскага „Материалы для изучения белор. говоров" № 10, а таксама П. А. Бузука. Спроба лінгвіст. географ. Беларусі, ст. 60.

20) У тураўскіх гаворках старое *ц* зьяўляецца цвёрдым: вуліца, вуліцы і т. п.

## Морфолёгія.

1) Назоўнікі мужчынскага і ніякага роду з цьвёрдаю асноваю ў месным склоне адзіночнага ліку замест звычайнага *„е"* маюць *„і": „у зо̀лоці", „у боло̀ці", „у ліесі", „на поро̀зі"* і інш.

2) Назоўны склон ніякага роду і частка мужчынскага ў іменьніках множнага ліку мае канчатак „а": *„ягня̀та", „порося̀та", „воро̀та"* і інш. Вядома гэта зьява і інш. паўдн.-белар. дыялектам, гл. П. Бузука, Спр. лінгв. геогр. Белар., ст. 69, а таксама к. № 14.

3) Месны склон у прыметніках мужчынскага роду адзіночнага ліку мае канчатак *ум*: „поіехаў на *до̀брум* коні, на *чырво̀нум* берзі, „на *дома̀шнум* болоці", а пад націскам—уом: у глухуом.

4) Назоўнік мужчынскага, і жаночага роду ў клічным скло-

не адзіночнага ліку пры цьвёрдай аснове мае канчатак *о*: „*бацюхно*“, *дзіедухно, божухно, сьвёкорко, мамо*.

5) Родны склон адзіночнага ліку ў назоўніку „*земля*“ мае канчатак „*іе*“ замест „*і*“: у менѐ нема *земліе*. Гэта спадчына ўсходня-заходня-славянскага варыянту з канчаткам *ѣ*.

6) Назоўны і вінавальны склон усіх трох радоў часам (але вельмі рэдка) мае канчатак *е (э)*, які зьявіўся з *ѣ*: *панічэ, мацерэ*, дваццаць чатыры *рублѐ*.

Як спадчына парнага ліку, засталася такая форма: „тры *рублѐ*, тры *назѐ* і інш.

7) Дзеясловы незакончанага трываньня ў першай і другой асобе маюць будучы час з такімі канчаткамі: „меш“, „му“ і інш. Напрыклад: *іцімеш, гуляцімеш, іціму, гуляціму, орацімеш* і інш., прычым перад канчаткамі *меш, му* і інш. стаіць *і*. Аб пахаджэньні гэтых форм, пашыраных і ў укр. мове, пісаў нядаўна Шаровольський, Зап. Іст.—ф. В. Укр. Ак. Н., т. XIII-XIV.

8) Дзеясловы абвяшчальнага ладу цяперашняга часу множнага ліку ў першай асобе ў большасьці маюць канчатак „*мо*“: „*гуляемо*“, „*ходзімо*“, „*емо*“, „*говорымо*“.

9) Назоўнікі адзіночнага ліку з асноваю на „*ч*“, калі націск падае на канец, маюць канчатак *э* замест ы: була я ў *Букчэ*. Тут магчымы закон аналёгіі з жаночым родам, з асноваю на „*к*“, (*руцэ, рацэ*). Гэтая зьява ўласьціва ўсяму раёну.

10) Форма лічэбнікаў на „ццаць“ і „нцаць“—скажуць—*адзінаццаць* і *адзінанцаць*. Зьява агульна-беларуская.

11) Суфікс „*ські*“ пашыраны ў Тураўскім раёне, як і наогул на Беларусі: *Мінські*, у *Бабруську* і інш.

12) Як і большасьць іншых паўднёвых гаворак, гэтак і Тураўская гаворка ўжывае формы першай асобы множнага ліку на „*ом*“ з непамягчанай зычнай перад гэтым канчаткам: „*ідом*“, „*жывом*“, „*будом*“ і інш. Дакладнае азначэньне гэтай ізоглёсы даў праф. Бузук у сваёй „Спробе лінгвіст. географ. Беларусі“.

13) Займеньнік „*гэты*“ ў Тараўскім раёне мае варыянты: „*гэты*“, „*эты*“, *еты*. У Азяранах і Малішаве больш ужываецца „*гэты*“, у в. Верасьніцах, Борках, Чэрнічах і Пагосьце поруч з формаю „*гэты*“ пачынае пераважаць *еты*. У Перарове, Танежы, Букчы сустракаем форму *эты*.

14) Адзначым яшчэ ф. займеньн. *шчо, шо* зам. *што*.

У заключэньне хочам сказаць, што колькасьць беларускіх моўных зьяў у Тураўшчыне большая, чымся колькасьць зьяў у гэтым раёне украінскіх. На падставе гэтага, панашаму, увесь Тураўскі раён, за выключэньнем в. Радзівілавіч і, можа, яшчэ с. Букчы больш зьяўляецца беларускім раёнам, а не украінскім.

Праца наша была-б багата карысьней, калі-б мы досьледам надалі больш часу (на адну вёску мы адводзілі ня больш, як адзін дзень). Не дазволіў зрабіць нам гэтага час і сродкі.

## Узоры Тураўскага дыялекту ў фольклёрным матар'яле.

Некаторыя заўвагі да транскрыпцыі:

Двагубнае „*в*“=„*w*“. Сярэдні гук паміж „*ы*“ і „*і*“, а таксама сярэдняя мяккасьць папярэдн. зычнага вызначаецца украінскаю літараю „и“.

Напісаньнем ͤэ мы таксама вызначаем сярэднюю мяккасьць папярэдняга зычнага.

№ 1. *Весіелна* (ек пекỳць коровáй),

Коровàйніцы п'яны
Усé цèсто покрàлі.
Стàрша коровáйніца
Не садзіса да на пòкуці,
А сядзь собіе да на порòзі.

№ 2. *Весіèлна* (пеецца, ек ведуць молодую до хаты).

Да сьвёкорко невіехну
У ворòцех сустрачàе
Да дòлі путàе:
„Да не бỳдзь, невіехно, хвасьлìва,
Да бỳдзь ты шчасьлìва,
Да роспусьцì дòлю,
Да по муоймỳ полю,
Роспусьцì шчáсьце по моìх одрынах.

№ 3. *Весіелна.*

Ой, ціх ͤэ да й велёл ͤэе весéлье
По-ціхэсеньку, по-малèсеньку, по селỳ.
Да сват до свáленькі гоўòрыць:
„Да, моя свáленько, да моя птáленько,
Прòсім вас, шоб моёй дòчэццы,
Да глумá у вáс не булó,
Шоб не стоя̀ла цёмное ночы пуод окнòм,
Шоб не ỳцірáла друобных сьлёзочок рукавòм,
Шоб не булó з сусіедонькі—мáмонькі,
Шоб не було з лешчынонькі хàтонькі".

№ 4. *Весіелная.*

Леці, лецì да сокóл ͤшìвы,
Да на муой двуор шчасьлìвы.
Накажыэце моёй мáмонцы,
Шчо я іеду да й у пáронцы,
Шчо я іеду да не хітнỳса,
Да к бáцюхну да не вярнỳса.

№ 5. *Весновая* (пеюць на Юр'я).

Ой ведỳ, ведỳ корогòд,
Усе дзіевочкі поперòд,
А хлóпчыкі за нáмі
Моргàючы бровáмі.
У нáшум корогòдзе
Сын воегóда.

Wу͡он по по́лю хо̀дзіць,
Корого̀д во̀дзіць.

№ 6.

Го̀рэ мое́ велікºэе,

З го̀ра ну͡ожэнькі не но̀сець,
Сон голо̀воньку валя̀е.

Дзеж му͡ой мілы п'е, гуля̀е.
Да до мºэне не ўпіва́е.

Пры̀дзе цёмна ну͡очка,
То wу͡он мºэне развaжа̀е:
„Не пла́ч, міла, не журы̀са,
Не журы̀са ты мно̀й.

(Песьні № 1, 2, 3, 4, 5 і 6 запісаны ад Куліны Блоцкай, 45 г., з в. Верасьніц).

№ 7. *Ве͡сіелна.*

За коло̀дою, за дубо̀вою,
Там бара̀ніе ро̀гі.
Там ста́ршая короwа́йніца
Задзіра́ла но̀гі.
Чого-ж wона̀, чого-ж wона̀ но̀гі задзіра̀ла.

Wона̀ по ча́роццы по пу͡оўненькуй до дна́ вупіва̀ла.

№ 8.

Седзіць сва́ха пры сьцен͡іе
На ёй шу̀ба не ее́.

Пришла́ сус͡іедка пу͡од оке́нцо:
„Оддаѝ шу̀бу, мое сэ̀рцо!"

Со̀ром, со̀ром усёй бес͡іедонцы,
За ею, за одноѐю.

№ 9. ***.

Молодзе́нькой ужэ рэго̀чэцца,
Ба̀цькоwа хл͡іеба не хо̀чэцца.

Ба̀цькоў хл͡іеб оўсо̀м па̀хне,
А ма̀церин горчи́цою.
А молодо̀го пшэніцою.

№ 10. ***.

Ой, нам шо̀ўковуй неэ̀вуод
По рэ̀чэнцы пла̀ўле,
Жо̀ўтые ца̀цкі ла̀ўле.
І сама̀ я йду̀ і коня̀ веду̀.
Наш ку͡онь чэрэцён.
І з до̀ўгім хвосто̀м.
І з широ̀кім лісто̀м і до до̀лу.
(Пеецца на Велікдзень, на 2-3 дзень).

№ 11. ***.

Седзіць др°эма да на кудзелі.
Устань др°эмо, бо бацько іедзе,
Зелену сукню везе.
Да прошу цебе, молоду, не др°эмі.
Устань, др°эмо, бо маці іедзе,
Да хустку везе.
Да прошу цебе, молоду, не др°эмі,
Бо брат іедзе, хвартух везе.
Устань, др°эмо, бо мілы іедзе.
(Посьле гэтых слоў усхопіласа й побіегла).

№ 12. *Весновая.*

Вуол бушуе, весну чуе.
Дзіеўка плачэ, замуж хочэ.
Не бушуй, воле, наорэсса,
Не плач, дзіеўко, нажывесса.
Ворон крачэ на голіні,
А дзіеўка плачэ, у пэрыні.
Ворон крачэ, сыра зыіеўшы,
А дзіеўка плачэ, сына міеўшы.

(Песьні № 7, 8, 9, 11 і 12 запісаны ад Кажаноўскай Кацярыны, 43 г. з м. Турава).

№ 13 *Жніўная.*

Ужэ сонцо за гуор, за гуор.
Пускай, пане, домоў, домоў.
Ужэ сонцо закоцілосо,
Нам домуокі захоціелосо.
Ужэ сонцо за грушамі.
Пускай, пане, хоця з душамі.
Жніеце, жэнчыкі, жніеце.
Самі себіе не пуозьніеце.
Не дожаўшы, не пуойдзеце.
Тут ночоваць не будзеце.

14 *Розьдвёна.*

Коло косьцёла на мурованцы
Там дзіевочок цэлы тоночок.
Молода Пруонечка п°эрэдок водзіць,
Пэрэдок водзіць, хорошо ходзіць.
Крычаў до ее бацюхно ее:
„Ой, доню, доню, пора додому“.

„Пуостой, бацюхно, тонку доведу“.
Пришла до ее матухна ее:
„Ой, доню, доню, пора додому“.
„Пуостой, матухно, тонку доведу“.
Танку довела й додому пришла.

№ 15 *Весіелна.*

Пава с павою седзіелі над рэкою, да й говорылі:
„Ці добрэ тобіе, моя паwонько седзечы над водою“.
„Дотуль добрэ, дотуль хорошэ,
Покуль дождждык не пуойдзе.
А дождждык пуойдзе, б<sup>е</sup>эрэжкі пуойме,
На мне п эрэйко змочыць“.
Сестра с сестрою да й говорылі,
Седзечы за скамьею:
„Ой дотуль добрэ, дотуль хброшэ, докуль мілы не іедзе,
А мілы іедзе, чырвоны квіеце.
Заўязаны мой сьвіеце.
Заўезаў очы с цёмной ночы.
Белою серпанкой *).
Ой, а сьвіёкорко, да й не бацюхно.
З чорною ногайкою.
(Песьні № 13, 14, 15—ад Проні Балбуцкай, 30 г. м. Тураў).

№ 16. ***

Ой, журба, журба, мене зыела.
І з нуог і зваліла.
А я той журбіе не покоруса,
Пуойду до корчуомкі, горыэлкі нап'юса.
Вуп'ю я кватырку, вуп'ю і другую.
Ці не забуду журбуоньку ліхую.
Ой, пуойду я, пуойду у Москоўську вуліцу.
У Москоўськуй вуліцы песок нуожкі рэжэ.
Пуста ледашніца, да й та у wочы лезе.
Пуста ледашніца, не валяйса у wочы.
І не коротай ночы.
Бо нуочка маленька, а сама молодзенька.
У ночы супочыці.
А ў дзень дзіело робіці
(Ад Евы Туорчык, 75 г., село Погуост).

*) Вясковая наметка.

№ 17. *Пі́есьня об па̀нщчыні.*

Леце́ла зоўзу́ля цѐрэз на̀ши сёла.
Чому̀-ж на̀ша громода̀ сму́тна, невесёла.
Заждж*и*, заждж*и* громода̀, шо-ж бу̀ду каза̀ці.
Шо-ж бу̀ду каза́ці, буду̀ говор*и*ці.
Не бу̀дзеце мужик*и* па́нщчыны робы̀ці.
Леце́ла ка́чка, да у чэрэту̀ па́ла,
А ў ме́сецы сенцібрэ̀ па́нщчына пропа̀ла.

Эк, побі́егла па̀нщчына за круты́е го̀ры,
А за е́ю эконо̀м, за е́ю погоны.

Эх побі́егла па̀нщчына, аж го́ры трэсьлі́са,
А за е́ю эконо̀м: „па́нщчыно, вэрні̀са!“
„Не wᵒэрну̀с, эконо̀м, не wэрну́с ніко̀лі.

Було тобі́е шанова̀ць да йшчэ̀ шанова̀ці.

Да так бі́едных мужикоў так не катова́ці.
Так даром не б*и*ці.
А цепэ̀ра дасі гро̀ши, пуойдомо роб*и*ці.
Дак пашо̀ў стары̀ пан пшэніцы косіці,
А за па̀ном стара̀ па̀ні пшэні̀цы wеза̀ці.
За па̀нею панічэ̀ ў ко̀піцы кла̀сьці.
Не зьвеза̀ла па̀ні ні'дного̀ поко̀са,
Потопта̀ла чэрэвіки, прышла̀ домо̀ў бо̀са.

Эх хоціеў стары̀ пан мужико̀ў наня́ці,
Цапу̀-лапу̀ до корма̀на, чо̀рт ма чого̀ да̀ці.
(Ульляна Сушчык, 40 г., с. Букча).

№ 18. *Казка.*

Буў собі́е небуож і ў па́на служы̀ў. Так па̀н ему̀ загада̀ў іехаць ора̀ць на муорг. Аж ідзе́ дзіед, да говбрыць небо̀жу: „Ты“, ка̀, „просі ў па́на пшэніцы жменю. То ўслоўса з ім, куолькі за̀ймэш пшэніцою жмэней, коб ўсё було̀ твоё“. Пан поду̀маў: „Куолькі ты за̀ймэш пшэні̀цою жмэнею. Пушча̀й будзе та̀к.“ То wуон ему̀ одпусьціў пшэніцу. Так ек почаў небуож сѐеці, то засе́еў жмэнею, усѐй муорг. Эта пшэніца росьце́, росьце́, аж чо́рно, хороша̀ росьце́. Ідзѐ сам туой дзіед і Пᵒэтро й Па̀ўло. Дзіед гово̀рыць: „Ось у небо̀жа до̀бра пшеніца“. Дзіед усе́рдзіў не́што Петра̀. Пэ̀тро й ка́жэ: „Я х*и*блю ее“. А дзіед сказа̀ў: „ек хо̀чэш“. Да̀ле ўзя̀ў дзіед, позва̀ў к собі́е небо́жа, да гово̀рыць: у цябе́ пан бу̀дзе купля̀ць пшэніцу, то ты пруодавай ее“. Ек пан купіў пшэніцу, то пшэні́ца ста́ла со̀хці. Пан поба̀чыў, шо г*и*не пшэні̀ца, то пуодорова̀ў пшэніцу і гро̀шы. Wуот ідзе́ друг*и* раз той са̀мы дзіед і Пᵒэтро й Па̀ўло. Wоны̀ іду́ць поўзь ее. Пэтро кажэ: „Wуот я х*и*біў пшэніцу“. А дзіед кажэ: „Небуож пруода́ў пану эту пшэніцу“. Так Пᵒэтро кажэ: „Э, то мне трᵒэба направіць ее“. Узяў Пᵒэтро напра̀віў ее. Так

пан ужэ не хоцеў меняць слова і пудороваў ему ее. Дале ўжэ пшэніца поросла́. Тр°эба жаць ее. Ідуць трэці раз ены. Так говорыць П°этро: „Я направіў пшэніцу пану“. А дзіед говорыць, шо пан наза́д оддаў небожу пшэніцу. П°этро кажэ: Я цяпе́р нічого, не зьдзіелаю; то нехай ужэ будзе шо вуоз, то осьміна. Дзіед говорыць: „Нехай так.“ Да пузваў небо́жа собіе, да говориць: „зьдзіелай возіка, да возі по онному снопку.“ Скуолкі снопкоў переўёз, то стуолькі осьмін, с кожного снопа осьміна).

(Ад Івана Акуліча, 85 г. с. Танеж).

№ 19 ***.

Чоловіе́к погрэшыўса, у пуост зьіеў скоро́много. Пошоў wуон ужэ ў цэркоў. Колі гляне, аж на его́ позірають образы. Wуон говорыць„: Шчо-ж вы на мэне смо́трыце. Я скоро́мное іеў. „Зірнуў wуон у другі кут, ізноў і там позірають. Wуон рукі пудняў, і крычыць на ўсю цэркоў: Іеў, іеў одчэп этэса од м энэ“.

(Ад Сушчык, Ганны, 55 г. с. Букча).

№ 20. *Загадкі.*

Було два браты: Піліп і Петро́; которы богачы?
— Петро. Петро ўсе собірае, а Пілiп усе разрэбае.
Куды бліжэй: на той сьвіет, ці на не́бо?
— На не́бо. Оцец муой помрэ. Жду, а его нема́. А хмара от здаецца на зе́млю па́дае.
Пані Пу́шна за ворота вушла і з рожка вуоду п‘е?
— Гусь.
Седзіць пані ў коморы, ее кудры на дворы?
Морквіна.
Прышоў паніч: панно, панно, позыч. Велік°э маю, не wопхаю.
— Ключ.
Дзіед бабу нагнуў, wоўночку продуў, а ме́к°эньк°э прыкусіў.
— Орыэх.
Лецieў ек сокуол, упаў пуод стуол, і стопталі на онучу.
— Сьніег.

---

**Т. Кулакоў.**

# Мястэчка Азарычы Мазырскае акругі.

*(Кароткае апісаньне).*

Мястэчка Азарычы да раёнаваньня 1924 году зьяўлялася валасным цэнтрам і ўваходзіла ў склад Бабруйскага павету б. Менскай губ. Пасьля раёнаваньня мястэчка стала адміністрацыйным і экономічным цэнтрам Азарыцкага раёну Мазырскае акругі.

Ад сталіцы БССР г. Менску мястэчка знаходзіцца на адлегласьці 240 кілём., ад акружнога—г. Мазыра—53 кілём., ад бліжэйшае чыгуначнай станцыі Халоднікі, Зах. чыг.—23 кілём. і ад бліжэйшае воднае прыстані Парычы—45 кілём. Азарыцкі раён займае тэрыторыю да 108.586,8 гэктараў, падзяляецца на 13 сельсаветаў з 105 насялёнымі

пунктамі. Усяго насельнікаў у раёне 31.288 чалавек. Праз мястэчка праходзяць два значныя грунтавыя шляхі, з якіх адзін злучае такія пункты: Мазыр, Каленкавічы, в. Дамановічы, м. Азарычы, м. Парычы і г. Бабруйск. Другі шлях ідзе на Рудобелку, Глуск і Слуцак. Першы шлях мае бярозавыя прысады і на ім сустракаюцца дагніваючыя павёрставыя слупы. З ваколічнымі вёскамі мястэчка мае магчымасьць зносіцца па грунтавых дарогах аднолькава ўва ўсе поры году.

Мястэчка (гл. плян) распалажана на левым беразе невялчкай рэчкі Вішы, якая бярэ пачатак у Вішанскіх балотах, на поўнач ад мястэчка ў адлегласьці 15 кілёмэтраў. На паўднёвым захадзе ў рэчку Вішу ўцякае невялічкая рэчка Ёхаўна, выцякаючая з мясьціны Дзерць, якая ў 12 кілёмэтрах ад мястэчка на захад. Абедзьве рэчкі ў злучэньні цякуць у р. Іпу, прытоку Пціча. 30 год таму назад лесапрамыслоўцы

пракапалі канаву па рэчцы Вішы для сплаву копленага ў памешчыка лесу. Канава зьмяніла запраўднае русло рэчкі Вішы, і зараз апошняя прадстаўляе сабою звычайную канаву. Да пракапаньня канавы, рэчкі Віша і Ёхаўка ў час разводзьдзя выходзілі з берагоў і затаплялі вакольную мясцовасьць на вялікую прастору. Вада заставалася круглы год у выглядзе возера. Тубыльцы называлі гэтае возера Ёхаўскім.

У рэчках Вішы і Ёхаўцы вадзілася шмат баброў. Месца, дзе былі бабровыя хаткі, і зараз завецца Бабровінаю. Селянін вёскі Сяменавічы Новік Антось 20 год назад забіў бабра ў раўчачку, што ўпадае ў Вішу. Таксама ў рэчках вадзілася шмат рознае рыбы, якую, як апавядаюць старажылы, прырэчныя пасяленцы ў вялікай колькасьці знаходзілі ў хатах пасьля веснавога разьліву. Зараз рыбы вельмі мала і то дробная: шчупачкі, мянзы, карасікі і цяпуры. Абапал рэчак разьлегліся мурожныя сенажаці, на якіх сустракаецца хмызьняк, лаза, бярэзьнік вольха, крушына і іншыя. Каля мосту на рэчцы Вішы да 1918 году быў вадзяны млын з сукнавальняю, ад яго засталіся толькі гнілыя слупы.

Мясцовасьць, занятая мястэчкам, і ваколіцы—прадстаўляе нізіну палескага характару, прарэзаную далінамі з поўначы, захаду і поўдню. Усходняя частка больш прыпаднятая, з нязначнымі ўзгоркамі, пакрыта хваёвым лесам, які цягнецца градамі на ўсход і поўнач ад мястэчка. Лес мае нязначную прымешку бярозы, вольхі, дубу і елкі. У лесе расьце шмат грыбоў і ягад.

Наогул аб мясцовасьці можна сказаць, што ў мінуўшчыне яна была вазёрнаю і лясістаю. Сьляды вазёр відаць па даліне, якая вядзе ад рэчкі Вішы на поўнач і ўсход, дзе захаваліся такія назвы вурочышчаў: Каля грэблі, Азярышча, Кірэяў рог і Доўгая лужа. Апошняе злучае даліну з балотамі рэчкі Іпы—7 кілём. ад мястэчка на ўсход, каля паселішча Замашчаны. Мястэчка складаецца з аднае галоўнае вуліцы



Базарная плошча м-ка Азарыч.
1928 г. Фот. І. Лазьнік.

(гл. фотографію), якая офіцыйнае назвы ня мае. На ўсходняй часцы вуліцы ёсьць невялічкая базарная плошча, ад якое на поўнач вядуць ліпавыя прысады ў былы панскі двор. Пасьля раёнаваньня абапал прысад пабудаваны новыя хаты, утварылася новая вуліца—Кар-

пілаўская. Галоўная вуліца канчаецца каля царквы, а далей на ўсход і раўналегла мястэчку з паўночнага боку разьмясьцілася вёска Андрэеўка. Паміж галоўнай вуліцаю і царквою знаходзяцца старадаўныя яўрэйскія могілкі, а далей, пры дарозе ў Мазыр—праваслаўныя могілкі. Другія яўрэйскія могілкі (сучасныя) знаходзяцца ў канцы вёскі




Андрэеўкі, па дарозе ў в. Рылавічы (глядзі плян). Вуліцы мястэчка і прымыкаючай да яго вёскі Андрэеўкі да 1927 году былі надта бруднымі і непраходнымі ў вясну і восень. У мінулым-жа годзе яны значна былі падрамантаваны і іх можна лічыць здавальняючымі. Тротуараў у мястэчку няма. Вуліцы ў ночы не асьвятляюцца, хаця і ёсьць на іх каля 10 ліхтарань.

Усяго жылых будынкаў (дамоў) уласна ў мястэчку 219, але акрамя таго маецца дзяржаўных і грамадзкіх будынкаў 7, з якіх буды-

нак спажывецкае, сельска-гаспадарчае коопэрацыі пабудаваны ў 1926 г. на базарнай плошчы. Там-жа пасьля раёнаваньня пабудована пажарнае дэпо, над якім маецца невялічкая каланча (гл. фотог. базарнае плошчы). З дзяржаўных будынкаў у мястэчку маецца яшчэ пошта, недалёка ад царквы і нардом; апошні прыстасаваны з былой сінагогі, якую мясцовая яўрэйская абшчына дабраахвотна ўступіла пад народны дом у 1923 годзе. Да нардому прыбудавана ў 1926 годзе памяшканьне тэатру. У мястэчку ёсць 2 сінагогі, з якіх адна пабудавана ў 1910 годзе, а другая ў 1881 годзе.

Дамы ў мястэчку драўляныя, аднапаверхавыя, старыя і ў пераважаючай большасьці на фундаманце, крытыя гонтам і стружкаю. Большасьць дамоў мае выгляд старое карчмы. Сустракаюцца, праўда, і дамы гарадзкога тыпу, але ў нязначнай крлькасьці. Свабодных пакояў у домох мала, а таму пасьля раёнаваньня, калі ў мястэчку разьмясьціліся раённыя ўстановы, вельмі вострым стала кватэрнае пытаньне, якое і зараз ня зьнішчана. Утварэньне раёну ў мястэчку пацягнула за сабою шпаркае будаўніцтва як новых дамоў, так і рамонт старых.

Выдатнейшымі будынкамі ў мястэчку зьяўляюцца: каменная царква (гл. фотогр.), больніца, сямілетка (абедзьве на каменным падмурку і першая крыта жалезам), памяшканьне РВК (былы панскі дом), памяшканьне Райкому КПБ і аграпункт; апошні пабудаваны ў 1926-27 г. з перавезенага панскага дому. Да выдатных трэба аднесьці і будынак нарсуду,—былы папоўскі дом. Усе пералічаныя будынкі знаходзяцца на тэрыторыі вёскі Андрэеўкі.—Старасьвецкім будынкам трэба лічыць капліцу на хрысьціянскіх могілках. Цяпер яна апушчана, бяз вокан (гл. фотогр.). Мясцовае краязнаўчае т ва мела намер забраць яе пад памяшканьне раённага музэю, але сустрэла перашкоду з боку царкоўнае рады.

### Гістарычныя зьвесткі аб мястэчку.

Аб пахаджэньні назвы мястэчка існуюць два народныя паданьні. Першае, што названа мястэчка „Озарычы“ (у расійскім вымаўленьні) па імені першага ўладара і заснавальніка мястэчка, якогасьці папа Озара. Другое паданьне: назва мястэчка паходзіць ад вазёрнае мясцовасьці. Трэба думаць, што апошняе больш блізка да запраўднасьці, бо сьляды вазёр, як ужо гаварылася вышэй, засталіся навакол мястэчка.

У зборніку пад рэдакцыяй В. П. Сямёнава: „Россія. Полное описание нашего отечества“—том IX, стар. 533, адзначана, што мястэчка Азарычы распаложана над возерам, якое стварылася ад разьліву ракі Ёхаўкі, але мясцовае жыхарства называе раку—Віша, а Ёхаўка ўцякае ў Вішу недалёка ад мястэчка (гл. плян). Паводле тых-жа даных (зборнік Сямёнава) мястэчка знаходзілася ў уладаньні якогасьці Царынскага да III разьдзелу Польшчы. Царынскі ў 1762 годзе пабудаваў у мястэчку драўляную Пятра-Паўлаўскую царкву, якая згарэла ў 1899 годзе разам з часткаю будынкаў мястэчка. У 1786 годзе кароль Станіслаў-Аўгуст утварыў у мястэчку ярмаркі, якія і зараз адбываюцца два разы ў год: на Стрэчаньне 2 лютага і Пятра і Паўла—29 чэрвеня па ст. ст. Паводле паданьняў старажыл пасьля III разьдзелу Польшчы Азарыцкае староства было падаравана тайнаму саветніку Кацярынаю II—якомусьці Лашкарову Лазару Лазаравічу і па спадчыне пераходзіла яго насьледнікам аж да Кастрычнікавае рэволюцыі 1917 году. Апавядаюць, што да Лашкарова мястэчкам уладалі захудалыя дваране Жукоўскія, ад якіх Лашкароў адабраў граматы і зрабіў Жукоўскіх сваімі слугамі. Жукоўскія захаваліся ў в. Андрэеўцы да гэтага часу, але яны сябе дваранамі ня лічаць. Адзін з Лашкаровых Андрэй пасьля скаса-

ваньня прыгону надзяліў сялібамі сваіх прыгонных на ўсходняй і паўночнай частцы мястэчка, і назваў паселішча Андрэеўкаю. Другі Лашкароў Рыгор, апошні з уладароў мястэчка, пабудаваў у 1904-5 годзе каменную царкву, якая мае дужа прыгожы выгляд. Таксама ён пабудаваў больніцу і ніжэйшую Сельска-Геспадарчую школу, у памяшканьні апошняй цяпер сямілетка. Будынкі пастаўлены ў 1910 і 11 годзе. Сам Лашкароў Рыгор жыў у Ленінградзе, дзе займаў пасаду члена дзяржаўнага савету. Наяжджаў у Азарычы 1 раз у год. Маёнткам кіраваў падпанак Рынейскі, аб якім местачковае жыхарства ўспамінае з вялікаю агідаю. Шмат бяды ад яго мелі яўрэі, якім праз маёнтак хадзіць не дазвалялася. Расказваюць, што прыехаўшы з Бабруйску яўрэй, Залескі Хаім, ня ведаючы мясцовых парадкаў, прайшоў па панскіх прысадах, за што быў засечаны на сьмерць розгамі. Да рэволюцыі мястэчка кіравалася кагальным саветам: местачковы стараста, кагальны рабін, разьнікі і багатыя гандляры. За пляцы 10$\times$40 саж. плацілі памешчыку штогодна па 2 р. 25 к. Усе іншыя падаткі плацілі ў скарб. Судовымі справамі кіраваў рабін. Узаемаадносіны яўрэйскага насельніцтва з сялянствам в. Андрэеўкі былі дрэнныя. Часта адбываліся бойкі, гэтаму садзейнічалі паны і вураднікі.

Рэволюцыя 1905 году размаху ў мястэчку ня мела. Зрэдку зьяўляліся прадстаўнікі дэмократычных партый у мястэчка, але ўзбудзіць мястэчка было цяжка. Мястэчка перажыла нямецкую окупацыю і польскую, а апошняя зруйнавала мястэчка дашчэнту. Белапалякі ўчынялі зьдзекі над яўрэйскім насельніцтвам. Белапалякі зьнішчылі валасны архіў, архіў стараства, школы і шмат іншых каштоўнасьцяй.

Савецкая ўлада ўтварылася ў мястэчку ў канцы 1918 году. Быў выбраны Волрэвком і распачата праца па організацыі Саветаў па вёсках тэрыторыі воласьці. Насельніцтва з вялікім уздымам і радасьцю спаткала чырвоныя атрады і ўва ўсім ім дапамагала.

Гады громадзянскае вайны і разрухі былі надта цяжкімі для мястэчка. Будучы недалёка ад тэатру вайсковых падзей з белапалякамі, мястэчка заўжды было пад пагрозаю спаткаць у сябе няпрошаных гасьцей. Найміты буржуазіі, банды на чале з мясцовым галаварэзам Кісялём з вёскі Восьпік не давалі спакою мястэчку. У мястэчку тады была організавана самааборона, якая шмат дапамагала органам політбюро і чырвоным атрадам у зьнішчэньні бандытызму. Поўнае заспакаеньне ў мястэчку настала ў 1922 годзе, гэты год і лічыцца пачаткам мірнага будаўніцтва.

Некалькі слоў аб помніках старасьветчыны. З гістарычных помнікаў старасьветчыны зьвяртаюць увагу старыя яўрэйскія могілкі, паміж мястэчкам і в. Андрэеўкаю. Могілкі налічваюць каля 400 год. На поўнач ад мястэчка ў адлегласьці да 1 кілём. знаходзіцца мясьціна пад назваю „Каменныя могілкі" і пабач урочышча Глебаўка. Аб гэтых могілках існуе паданьне, што яны засталіся ад часоў Наполеона. На поўдзень ад мястэчка—адлегласьць да 1,25 клм. захваўся курган, плошчаю да дзесяціны, вышыня 1,25 мэтр., круглы з ямаю наверсе. На кургане старыя вялізарныя дубовыя пні. Курган нікім не раскопваўся. З помнікаў прыроды ў былым панскім двары ёсьць парк і сажалка ў ім. (Гл. фотогр.).

### Насельніцтва мястэчка.

Мястэчка населена яўрэямі, якіх налічваецца 219 сямействаў. Агульны лік насельніцтва 1.250 чал., з іх мужчын 612 ч. і жанчын 638

чал. За апошняе дзесяцігодзьдзе адбыліся наступныя зьмены ў складзе насельніцтва:

| Выехала з мястэчка | Лік сям. | Лік душ. | Адзіночкі | Прыехала ў мяст. | Лік сям. | Лік душ |
|---|---|---|---|---|---|---|
| На працу ў гарады . . | — | — | 72 | З розных мест | 11 | 35 |
| У Палястыну . . . . | 2 | 7 | 5 | | | |
| У Амэрыку . . . . . | 12 | 49 | — | | | |
| У Крым . . . . . . | 10 | 44 | — | | | |
| У гарады СССР . . . | 19 | 77 | — | | | |
| Усяго . . . | 43 | 177 | 77 | Усяго . . . | 11 | 35 |

Выезды з мястэчка тлумачацца ў большасьці экономічнымі прычынамі: недахоп працы для рамясьнікоў, зьмяншэньне прыватнага гандлю. Частка з выехаўшых накіравалася да сваіх крэўных у Амэрыку і Палястыну. Выехаўшыя ў Крым заняліся земляробствам. Сярод насельніцтва ёсьць яшчэ шмат жадаючых ехаць у Крым.

Адсутнасьць сталых зьвестак аб натуральным прыросьце насельніцтва за розныя гады не дае магчымасьці зрабіць належнае параўнаньне і вывады. Даныя Азарыцкага яўрэйскага сельсавету за 1927 год паказваюць наступнае: радзілася мужчын 28 чал., жанчын—18 чал., памерла—мужчын 8 чал. і жанчын—3. Шлюбаў адбылося 9 і разводаў 1.

### Заняткі насельнікаў мястэчка.

По роду заняткаў насельнікі разьмяркоўваюцца так:

| Заняткі | Колькі чалавек працуе | Заняткі | Колькі чалавек працуе |
|---|---|---|---|
| Шаўцоў . . . . . . . . | 36 | Крыльшчыкаў . . . . . . | 3 |
| Краўцоў . . . . . . . . | 37 | Шкляроў . . . . . . . . | 5 |
| Сталяроў . . . . . . . | 16 | Мельнікаў . . . . . . . | 3 |
| Цесьляроў . . . . . . . | 10 | Маюць ваўначоскі . . . . | 4 |
| Кавалёў . . . . . . . . | 5 | „ алейніцы . . . . | 3 |
| Загатоўшыкаў . . . . . | 2 | Выррабляюць скуры . . . . | 4 |
| Шапачнікаў . . . . . . | 3 | Гандляроў . . . . . . . . | 26 |
| Парыкмахераў . . . . . | 2 | Карабейнікаў . . . . . . | 21 |
| Вазакоў . . . . . . . . | 16 | Бяз сталых заняткаў . . . | 50 |
| Балаголаў . . . . . . . | 4 | Служачых . . . . . . . . | 35 |
| Булачнікаў (пекароў) . . . | 5 | | |
| Усяго . . . . . . . . . . . | | | 290 |

З табліцы відаць, што пераважная большасьць насельніцтва занята саматужнымі промысламі. Працы для ўсіх саматужнікаў у мястэчку не хапае. Добрая частка саматужнікаў вандруе па ваколічных вёсках Азарыцкага і суседняга Каленкавіцкага раёну, шукаючы сабе працы. Паводле падліку сельсавету, валавы доход саматужнікаў у год дасягае 45.750 р. Да заможнае часткі насельніцтва трэба аднесьці частку гандляроў. Асобы бяз сталых заняткаў жывуць на ўтрыманьні сваякоў.

Частка з іх атрымлівае даляры і пасылкі з Амэрыкі. Земляробскія заняткі сярод местачковага насельніцтва зусім адсутнічаюць.

## Коопэрацыя і гандаль.

Да рэволюцыі 1917 году ўвесь гандаль знаходзіўся ў прыватных руках. Лік крам у мястэчку даходзіў да 45, ня лічачы карабейнікаў, якіх было да 30 чал. У 1918 годзе ў мястэчку організавана спажывецкае т-ва, якое канчаткова зруйнавалі палякі ў часы окупаціі. Пасьля вызваленьня ад палякаў спажывецкае т-ва ў мястэчку організавана ў канцы 1920 году. У 1923/4 годзе організавана сельска-гаспадарчае т-ва і ў 1926 годзе—промыслова-саматужнае т-ва. У сучасны момант праца ўсіх відаў коопэрацыі характарызуецца наступным:

| Віды коопэр. | Пайшчыкаў. | Паявога капіталу | Сярэдні пай | Лік крам | Звароты за 1926/7 год | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Спажывецк. т-ва . . | 1294 | 5317,01 | 4,10 | 3 | 146,501,40 | Пайшч. і паявы капітал узяты на 1/III 1928 г. |
| Сельска-гасп. „ . . | 1316 | 6803,39 | 5,18 | 1 | 112,007,03 | |
| Прам. саматуж „ . . | 163 | 1129,38 | 6,90 | 1 | 19,800 | |
| Усяго . . . | 2773 | 13249,68 | 16,18 | 5 | 278308,43 | |

Раён дзейнасьці спажывецкае і сельска-гаспадарчае коопэрацыі налічвае: 9 сельсаветаў, з 79 насялёнымі пунктамі. Двароў 4.709 з лікам насельніцтва ў 21.016.

Прыватных крам у мястэчку: з патэнтамі II разраду 18, III разраду 8 і развазных з патэнтам I разраду 21. Агульны зварот прыватных крам, паводле даных сельсавету, за 1926/7 гаспадарчы год—142,300 руб. Два разы ў год—на Стрэчаньне 2 лютага ст. ст. і Пятра і Паўла 29 чэрвеня—у мястэчку адбываюцца вялікія кірмашы. На кірмашы зьяжджаецца насельніцтва ня толькі Азарыцкага раёну, але і суседніх: Каленкавіцкага, Капаткевіцкага і Парыцкага раёнаў. Напрыклад, у мінулым годзе на Пятра—29/VI—да таго было многа людзей, што выпілі ўсю ваду са студняў і хадзілі піць у рэчку. Напярэдадні кірмашу местачковае насельніцтва пагалоўна пячэ булкі, абаранкі, запасаецца цукеркамі і прадае іх на кірмашы. На кірмаш прывозяць шмат абуцьця, зброі, калёс, пасуды, пераважна драўлянай і розных гаспадарчых рэчаў. Цыганы прыводзяць коняй у вялікай колькасьці. Кірмаш цягнецца 2 дні.

У мястэчку з 1924 году існуе камітэт узаемадапамогі, які яднае 160 двароў і мае 726 руб. 19 кап. зваротнага капіталу. Камітэт значна дапамагае бяднейшаму насельніцтву мястэчка. У 1927 годзе выдадзена без звароту па розных неспадзяваных выпадках—129 руб. 75 кап. Насельніцтва зацікаўлена працаю камітэту.

З 1898 году ў мястэчку існуе паштовае аддзяленьне, якое зараз мае тэлефонную сувязь з акружным горадам. Для сувязі з вёскамі пошта мае 7 лістаношаў. Паштовае аддзяленьне шырака разгарнула працу па ашчэднай справе. За год каса ашчэднасьці мае 7.500 укладчыкаў. Корэспондэнцыю пошта атрымлівае 4 разы ў тыдзень з бліжэйшага Даманавіцкага паштовага агенцтва. У 1926 годзе ў мястэчку пабудована радыё, але зараз яно папсутае. Ёсьць надзея, што ў гэтым годзе яго адрамантуюць, бо раённы каштарыс прадугледжвае водпуск на гэтую справу 300 руб.

## Культурна-асьветная справа.

Да рэволюцыі ў мястэчку было 15 хэдараў з лікам вучняў у сярэднім на кожнага—13-15 чалавек. Была адна царкоўна-прыходзкая школа з 1 настаўнікам. Апошняя абслугоўвала спачатку цэлую воласьць. Школа адчынена ў 1862 годзе. Вучняў у школе штогодна было 60—70 чал.

У 1912 годзе была адчынена ў мястэчку ніжэйшая сельска-гаспадарчая школа, якая падрыхтоўвала аграномічных стараст. У 1916-17 школа гэтая пераробленa ў прагімназію, потым з 1918 па 23 г. была пяцігодкаю, а з 1923-24 году разгарнулася ў сямігодку.

Местачковыя дзеці як у царкоўна-прыходзкую так і сельска-гасп. школу доступу ня мелі. Толькі Вялікі Кастрычнік шырака распахнуў дзьверы школы для местачковага яўрэйскага насельніцтва. За апошняе дзесяцігодзьдзе культ-асьветная праца ў мястэчку значна разгарнулася. Няпісьменных сярод яўрэйскага насельніцва налічваецца толькі 5°/₀, якая частка прыпадае на старых. Цяпер у мястэчку маецца трохкамплектовая яўрэйская школа і сямігодка з 2-ма роўналеглымі групамі (4, 5). У першай навучаецца 97 вучняў і ў другой—320 ч. Школы маюць уласныя будынкі, добра абсталяваны і працуюць без перашкод.—Школа сямігодка набыла належны аўторытэт сярод сялянства і стала запраўдным культасьветным асяродкам Азарыцкага раёну.

У мястэчку ёсьць народны дом з невялічкай сцэнай і чытальняй. У нардоме адбываюцца ўрачыстыя пасяджэньні, зьезды і сходы раённых устаноў і організацый. Пры нардоме зьмяшчаецца раённы краязнаўчы музэй, адчынены ў дні совяткаваньня 10-годзьдзя Кастрычнікавай рэволюцыі.

Паводле даных Азарыцкага паштовага аддзяленьня местачковае насельніцтва і служачыя ўстаноў і організацыі выпісваюць наступную літаратуру: газ „Октябрь“ (яўр.—35 экз., „Дэр-Эмэс“—5, „Савецкую Беларусь“—14, „Правду“—35, „Зьвязду“—11, „Белар. вёску“—10, „Постройка“—11, „Чыр. Зьм“—83, „Крестьянскую“—8, „Чырвонае Палесьсе“—28 і іншых—31, Часопісы: „Работніца і Сялянка“—21, „Бальшавік“—3, „Плуг“.—3, „Зьмена“—4, „Белар. Піонэр“—4, „Асьвета“—3, „Народный уч.“—4, „Спутнік агіт.“—8, „Огонёк“—3 і розных іншых—49.

Новы быт у мястэчку відавочна расьце. Моладзь ад сінагог адхілілася. З шлюбаў, якія адбыліся ў 1927 г., 6 было бяз удзелу рэлігійных царамоній.

Старыя яўрэі паказваюць сябе надта набожнымі, трымаюць на свой кошт 2 рабінаў і 2 разьнікоў.

## Санітарны стан і мэдыцынская дапамога.

Вуліцы мястэчка ў раньнюю вясну і ў восень кароткі час бываюць гразнаватымі. Двары надта цесныя і панадворкі брудныя. Пакоі ў дамох цесныя і ў большасьці з дрэннымі (выгнутымі) падлогамі. Вэнтыляцыя ў домох зімою адсутнічае.

Ваду насельніцтва ўжывае з студняў, якіх у мястэчку 7. Студні знаходзяцца пад санітарным наглядам мясцовай больніцы, а таму каля іх чыста. Ёсьць 2 лазьні, адна грамадзкая, а другая—бальнічная. Першая з іх апальваецца раз на тыдзень па пятніцах.

Мясцовая раённая больніца карыстаецца аўторытэтам сярод насельніцтва. Знахары і шаптуны ў мястэчку адсутнічаюць. Сярод местачковага насельніцтва пераважаюць кішэчныя хваробы, і сухоты, прычынаю іх, па думцы мясцовай мэдыцыны, зьяўляецца: дрэннае харчаваньне і ўмовы хатняга жыцьця.

Азарыцкая раёнбольніца абслугоўваецца 4 дактарамі. Ёсьць акушэрка і 2 фэльчары. Пры больніцы ёсьць радзільня.

# ХРОНІКА.

## Краязнаўчы рух на Мазыршчыне.

Да самае рэволюцыі і некалькі год пасьля рэволюцыі на Мазыршчыне ня было ніводнае краязнаўчай організацыі ці аб'яднаньня, якія-б ставілі навукова-дасьледчыя мэты.

Праўда, асобнымі аматарамі краязнаўцамі, як Сямёнавым (г. Мазыр) і памешчыкам Горватам (м. Нароўля) выпадкова зьбіраўся той ці іншы матар'ял, больш у галіне культурна-гістарычнай. Горват нават склаў досыць сталы ў сябе ў м. Нароўлі музэй (у сучасны момант музэй Нараўлянскага раён. т-ва), які зьяўляецца цяпер культурным асяродкам Нараўлянскага раёну.

Кастрычнік узбудзіў краязнаўчы рух і на Мазыршчыне. Ужо ў пачатку 1924 г. у г. Мазыры складаецца ініцыятыўная група аматараў-краязнаўцаў пры Акруговым Аддзеле Нарасьветы, якія організацыйна аформілі краязнаўчы рух на Мазыршчыне.

Складзенае часовае акруговае праўленьне абуджае краязнаўчы рух, як у г. Мазыры, гэтак і ў раёне і ўводзіць яго ў плянавыя рамкі. У некаторых раёнах узьнікаюць краязнаўчыя гурткі з працаўнікоў раённых цэнтраў (больш настаўнікаў), якія пасьля ператтвараюцца ў раённыя т-вы краязнаўства.

К пачатку 1926 г. амаль што ўва ўсіх раёнах былі ўтвораны раённыя т-вы краязнаўства. Налічвалася ў іх 525 сяброў. Часовае праўленьне ў кастрычніку 1926 г. склікае першую акруговую краязнаўчую конфэрэнцыю. На конфэрэнцыі выявілася, што краязнаўчай працы, як навукова-дасьледчай, плянава організаванай да гэтага часу ня было. Матар'ял. які зьбіраўся гурткамі ці аматарамі краязнаўства, нікім стала не падлічваўся, не дасьледваўся і нікуды не дасылаўся. Конфэрэнцыя абрала акруговае праўленьне т-ва і вызначыла зьмест працы на бягучы час.

Новае праўленьне распачало працу пры надта цяжкіх абставінах. Ня было ніводнага спэцыяліста дасьледчыка, мала было аматараў краязнаўцаў. Адсутнічала кіраўнічая мэтодычная літаратура. Ня было сабрана бібліографія Мазыршчыны. Нават ня было памяшканьня (праўленьне ўвесь час зьмяшчалася ў памяшканьні Акрінспэктарыяту Нарасьветы), дзе-б праўленьне магло распачаць стала працу і концэнтраваць матар'ял, які прысылаўся з месц. А галоўнае, што ня было вопыту ў працы, і пры адсутнасьці мэтодычнае літаратуры прыходзілася самім вобмацкам вынаходзіць шляхі працы. Трэба было популярызаваць краязнаўства сярод партыйных організацый, сяброў профсаюзаў, сялянства і наогул шырокіх грамадзкіх колаў, організаваць краязнаўчы рух і ў далейшым стварыць краязнаўчыя організацыі, вызначыўшы для іх конкрэтны зьмест працы і даступныя заданьні ў галіне навукова-дасьледчай.

Популярызацыю краязнаўства Праўленьне праводзіла як праз друк: „Савецкую Вёску", „Савецкую Беларусь", часопіс „Наш Край", у якіх зьмяшчала артыкулы популярызацыйнага і навукова-апісальна-дасьледчага характару, гэтак і праз пастаноўку дакладаў на партыйных, профэсыянальных сходах, праўленьнях саюзаў, фабрыках і заводах.

Сродкі і тая ўвага, якая была зьвернута партыйнымі і савецкімі організацыямі, надта дапамаглі праўленьню ахапіць краязнаўчымі організацыямі большы лік сяброў, а таксама і паглыбіць зьмест працы і наладзіць яе з організацыйна-мэтодычнага боку. Праводзілася гэта шляхам выездаў у раёны сяброў праўленьня, інструктаваньня, абсьледваньня тэй ці іншай галіны працы, дасылкі анкетнага і інструкцыйнага матар'ялаў. Сувязь вялася як з раённымі т-вамі, гэтак (і нават у большай частцы) з паасобнымі сябрамі т-ва, а таксама і з тымі грамадзянамі, якіх на мэце мела праўленьне уцягнуць у сябры т-ва. Выезды ў раёны адбываліся ў часы конфэрэнцый (больш настаўніцкіх), дзе і популярызавалася ідэя вывучэньня роднага краю. Каб ня траціць сродкі, а іх і так было мала, інструктаваньне часта даручалася сябром т-ва, якія выяжджалі ў раён па тэй ці іншай справе.

Дзякуючы гэтаму так разрасталася краязнаўчая сетка і павялічваўся лік сяброў у краязнаўчых таварыствах:

| | 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1928 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. Азарыцкае . . . . . . | Вучоту ня было | Вучоту ня было | 73 | 80 | 107 |
| 2. Каленкавіцкае . . . . . | | | 52 | 52 | 52 |
| 3. Нараўлянскае . . . . . | | | 72 | 72 | 195 |
| 4. Жыткавіцкае . . . . . | | | 48 | 48 | 51 |
| 5. Капаткевіцкае . . . . . | | | 44 | 44 | 66 |
| 6. Лельчыцкае. . . . . . | | | 48 | 55 | 77 |
| 7. Тураўскае . . . . . . | | | 44 | 44 | 42 |
| 8. Слабадзкое . . . . . . | | | 22 | 48 | Улілося ў Нараўл. і Каленкавіцкае |
| 9. Пятрыкоўскае . . . . . | | | 41 | 41 | 44 |
| 10. Каралінскае . . . . . | | | — | 35 | 204 |
| 11. Юравіцкае . . . . . . | | | Заснавалася ініцыятыўная група ў канцы 1927 г. пасьля далучэньня да Мазырскае акругі з раней былой Рачыцкай. | | |
| 12. Мазырскае . . . . . . | | | 81 | 108 | 265 |

Усяго на Мазыршчыне цяпер 39 краязнаўчых аб'яднаньняў, з іх: 10 раённых т-ваў, 11 школьных гурткоў, 18 гурткоў пры с/с. Цяпер склад т-ваў наступны:

Склад краязнаўчых таварыстваў Мазырскае акругі.

| Па полу | | Партыйнасьць | | | Нацыянальнасьць | | | | | Соцыяльны склад | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| М. | Ж. | Чл. і канд. КПБ. | КСМ | Б/п | Бел. | Яўр. | Пал. | Рас. | Інш. | Раб. | Сял. | Самат. | Служ. | Вучняў |
| 698 | 305 | 131 | 200 | 772 | 765 | 249 | 22 | 33 | 34 | 23 | 66 | 7 | 627 | 380 |

Усе т-вы разгортвалі працу ў наступным напрамку: 1) прыродна-географічным, 2) грамадзка-экономічным, 3) культурна-гістарычным. Пры акр. і раённых т-вах існуюць яўр. сэкцыі і польсэкцыі ці іх упаўнаважаныя. Акрамя таго пры акрпраўленьні існуе яшчэ і фотосэкцыя. Сэкцыі працуюць згодна апрацаваных плянаў, зацьверджаных агульнымі сходамі сэкцый, кіруючыся дырэктыўнымі ўказаньнямі акрпраўленьня.

У пачатку праца разгортвалася, галоўным чынам, у такім напрамку: зьбіраньне матар'ялаў, узяцьце на вучот помнікаў старажытнасьці, складаньне архэолёгічных карт. Яшчэ і да гэтага часу раённыя т-вы вядуць гэтую работу, і толькі Мазырскае т-ва перайшло ў вышэйшую стадыю сыстэматызацыі і клясыфікацыі сабраных матар'ялаў, некаторых навуковых досьледаў, а таксама апрацоўкі інструкцый і анкет, складаньня слоўніка жывой мовы і правядзеньня для гэтае мэты дыялектолёгічных досьледаў, складаньня географічнага слоўніка, вывучэньня глеб, залежаў жалезнае руды, вывучэньне грунтовых вод, быту рабочых і інш. Другі момант—гэта праца экскурсыйна-экспэдыцыйная, якая шырака была разгорнута ў 1927 г. (Праца экспэдыцыі Цэнт. Музэя Народ. Экспэдыцыя Краязн. Т-ва БДУ; ЦБК і інш.), выкананьне заданьняў ЦБК.

Трэці—утварэньне на мясцох сталых навуковых пунктаў нагляданьня: фэнолёгічных, гідролёгічных, мэтэоролёгічных і інш.

Матар'ял, які зьбіраўся на мясцох, часткаю апрацоўваўся на месцы, а часткаю дасылаўся ў вышэйстаячыя організацыі.

Для вядзеньня сталай працы праўленьнем і асобнымі т-вамі набыты неабходныя падручнікі і дапаможнікі. Так пры акрпраўленьні ёсьць бібліотэка (каля 400 экз.), якая складаецца з надта каштоўнай мэтодычна-кіраўнічай, справачнай і пэрыоцычнай літаратуры, ёсьць прылады для архэолёгічных досьледаў, інструмэнты для зьбіраньня гэрбарыяў, мінэралаў. Ёсьць фотоапарат і прылады да яго, шклопіс і інш. Акрпраўленьне мае свой уласны будынак, дзе зьмяшчаецца і агруговы музэй.

У 1928 г. усе т-вы шырака разгарнулі работу па популярызацыі сярод сяброў краязнаўства і насельніцтва часопісу „Наш Край", вынікам чаго зьяўляецца падпіска па Мазыршчыне звыш 100 нумароў.

Год з невялікім упартае працы далі значныя конкрэтныя вынікі. Калі возьмем голыя лічбы па некаторых толькі галінах працы, то ўбачым наступнае:

Сабрана Мазырскімі таварыствамі краязнаўства.

| Слоў | Дыялект. картак | Матар. экспэд. характ. | Апрац. прогр. інстр. анкет | Фолькл. матар. | Гіст. апісан. і дакумэнт. | Стар. рэч. | Монэт | Вынайдз. стаянак | Фотоздымкаў | Матар. для геогр. слоўніка |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 20991 | 21000 | 115 | 7 | 1569 | 106 | 20 | 276 | 22 | 82 | 321 |

Заснаваны музэі ў наступных пунктах:
1) Горад Мазыр каля 1500 эксп.
2) Нароўля каля 1000 эксп.
3) М-ка Капаткевічы,
4) „ Азарычы і 5) Тураў.

Утвораны сталыя пункты нагляданьняў:

а) фэнолёгічных:
1) Азарычы вядзе працу—Мароз.
2) Яўтушкавіцкая Рудня—Старавойтаў.
3) Сялко—Сухоцкі.
4) Слабада—Турко.
5) Гародчыцы—Дарошык.
6) Хуснае—Кебец.
7) Капаткевічы—Ліпскі П.
8) Скароднае—Стрыбульскі.
9) Рэмязы—Карась.
10) Ельск—гурт. сямігодкі.
11) Сянюкі—Ш. С. М.
12) Буйнавічы—Стасенка.
13) Лельчыцы—Лебедзеў.
14) Астражанка—Крахмалюк.
15) Бібікі—Сякач.
16) Цешкаў—Прыкат.
17) Дзернавічы—Пісарэвіч.
18) Пятрыкоў—Мароз.
19) Танеж—Шаўковіч.
20) Тураў—Галіневіч.

б) Гідролёгічных:
1) Мазыр—Харавец.
2) Хуснае—Кебец.
3) Капаткевічы—гурток сямігодкі.
4) Лельчыцы—Лебедзеў.
5) Дзернавічы—Пісарэвіч.
6) Грушаўка—Каліноўскі.
7) Цешкаў—Прыкат.
8) Пятрыкоў—Мароз.

в) Мэтэоролёгічных:
1) Слабада—тэмпэратура і кірунак вятроў 3 разр.
2) Азарычы—тэмпэратура і кірунак вятроў 3 разр.
3) Капаткевічы—тэмпэратура і кірунак вятроў 3 разр.
4) Тураў—тэмпэратура і кірунак вятроў 3 разр.
5) Каралін—тэмпэратура і кірунак вятроў 3 разр.
6) Лельчыцы—тэмпэратура і кірунак вятроў 3 разр.

Тры апошнія мэтэоролёгічныя станцыі організаваны мэтэоролёгічным Бюро Наркамзему БССР (сьпіс апублікаваны ў „Нашым Краі"). (Працу на іх вядуць сябры т-ва краязнаўства).

Пералічэньне гэтага дае ўжо магчымасьць Мазырскаму краязнаўчаму т-ву займаць пачэснае месца ў агульнай сыстэме грамадзкакарыснай працы. Праўда, яшчэ многія працаўнікі не ўявілі ўсяе важнасьці гэтай працы і ня лічаць яе грамадзкай, што складае вялікую цяжкасьць і перашкоду ў рабоце. Вялікай перашкодай ў рабоце зьяўляецца адсутнасьць грашовых сродкаў.

У сучасны момант усе таварыствы праводзяць значную працу па зьбіраньні матар'ялаў для географічнага слоўніка, слоўніка жывой мовы, праводзяць дыялектолёгічныя досьледы, монографічныя апісаньні паселішч вясковага тыпу, зьбіраньне об'ектаў флёры і фауны, складаюць гістарычныя нарысы раёнаў, архэолёгічныя карты, карты помнікаў старасьветчыны, карты глебаў раёнаў і інш.

Большасьць пералічаных галін працы зьяўляецца і чарговымі заданьнямі на бягучы час.

І. М. Лакін.

## Азарыцкае раённае краязнаўчае т-ва.

*(Мазырскай акругі).*

Азарыцкае раённае краязнаўнчае т-ва організавана ў кастрычніку м-цы 1925 году, але да верасьня 1926 году т-ва было юрыдычна не аформлена. У верасьні 1926 году была складзена ініцыятыўная група з 14 асоб, якая прыняла статут т-ва і зарэгістравала яго ў адпаведных органах. Пасьля гэтага т-ва прыступіла да працы, паставіўшы перад сабою ў першую чаргу: папулярызацыю краязнаўства—уцягненьне новых членаў у т-ва і выкананьне заданьняў ЦБК і акр. т-ва краязнаўства.

У сучасны момант т-ва налічвае 107 сяброў, якія разьмяркоўваюцца наступным чынам: мужчын 77, жанчын 30. Беларусаў 83, яўрэяў 19 і іншых 5. Настаўнікаў 46, парт. і політпрацаўнікоў 6, мэдыкаў 3, лясных працаўнікоў 3, аграномаў 2, коопэратараў 4, савецкіх працаўнікоў 24, сялян 3 і вучняў 16.—Партыйцаў 13, комсамольцаў 14 і беспартыйных 80. Актыўнасьць больш праяўляецца з боку часткі настаўніцтва і вучняў, а іншыя катэгорыі працаўнікоў слаба ўцягваюцца ў працу. Можна наогул сказаць, што з агульнага складу т-ва працу вядуць больш-менш здавальнаюча 25 чалавек.

9 студзеня 1928 году адбылася II раённая краязнаўчая конфэрэнцыя, на якой была заслухана справаздача праўленьня т-ва і чарговыя задачы краязнаўчай працы ў раёне.

Таксама былі зроблены перавыбары праўленьня т-ва. У склад праўленьня абрана 7 асоб: 1. Кулакоў (старшыня), 2. Робак (сакратар), 3. Савановіч, 4. Лучкоў, 5. Бань, 6. Салапец, 7. Разумоўскі і 2 кандыдаты. Рэвізійная камісія абрана з 3-х членаў і 2 кандыдатаў.

Не зважаючы на цяжкія ўмовы краязнаўчае працы ў раёне: пасыўнасьць сяброў, адсутнасьць дапамогі з боку грамадзкіх колаў і іншых організацый, усё-ж такі таварыствам праroблена значная праца. Сабрана 2.462 картак слоў жывое народнае мовы, запісана да 300 відаў вуснае народнае творчасьці, з якіх 120 ужо ў ЦБК, апісана распаўсюджаньне гліны ў 5 сельсаветах, апісана жалезная руда ў двух мясьцінах раёну. Запоўнена розных анкет 25. Організавана мэтэоролёгічная станцыя 3-га разраду, 2 фэнолёгічныя пункты. Апісана мястэчка Азарычы — матар'ялы накіраваны ў „Наш Край".

К дзесятай гадавіне Кастрычніка быў адчынены раённы краязнаўчы музэй. Музэй сабраў матар'ялы па сьвяткаваньні дзесяцігодзьдзя Кастрычніка ў выглядзе дыяграм. На быў 4 каменныя малаткі, 60 старых монэт, царкоўныя летапісы, шмат старых кніг, фотоздымкі відаў мястэчка Азарычы і шмат іншага матар'ялу. Музэй мае невялічкі пакойчык пры нардоме. Наладжаны музэй за сродкі т-ва і дапамогу ў 10 руб. ад Мазырскага акр. т-ва. Распачата праца па зборы матар'ялаў, характарызуючых экономіку, прыроду, культуру і быт раёну. Працаваўшая ў Азарыцкім раёне ў канцы чэрвеня м-ца—г. г. этнографічная камісія ІБК на чале з т. В. Ю. Ластоўскім аглядала музэй і дала шмат практычных парад для далейшай працы музэю. Камісія абяцала даць у наш музэй фотоздымкі, зробленыя ў Азарыцкім раёне, і частку іншага матар'ялу.

Чарговымі працамі т-ва зьяўляецца: збор матар'ялу для ўкладаньня археолёгічнае карты раёну, збор географічнага слоўніку (ужо апісана 39 геогр. об'ектаў), папаўненьне музэю, працяг збору фольклёру, організацыя краязнаўчых гурткоў пры сельсаветах і наладжваньне працы ў гуртках, ужо організаваных пры 3-х сельсаветах і сямігодцы, увязка краязнаўчае працы з плянамі працы гаспадарчых і іншых органаў раёну, уцягненьне ў актыўную працу пасыўнае часткі сяброў т-ва і іншае. Таксама праўленьне т-ва паставіла перад сабою задачу да новага навучальнага году выдаць раённы краязнаўчы зборнік для школ раёну і распачаць запіс падзей з жыцьця раёну ў выглядзе летапісу. Падрыхтоўчыя працы да гэтага часткаю прароблены.

Сувязь т-ва з мясцовымі організацыямі добрая, але дапамогі з іх боку т-ва не адчувае, асабліва матар'яльнай. З Мазырскім акр. т-вам краязнаўства т-ва трымае цесную сувязь.

Грашовыя сродкі т-ва складаюцца з сяброўскіх узносаў, якіх за ўвесь час паступіла 76 руб. 80 к., атрымана дапамога ад Мазырскага акр. т-ва 40 руб. Выдаткаў зроблена 116 руб. 47 к. Ёсьць запазычанасьць да 25 руб.

Для паляпшэньня працы т-ва і накіраваньня яе ў больш сыстэматычны бок па вывучэньні свайго раёну неабходна: матар'яльная дапамога, больш актыўнасьці і адказнасьці за працу з боку членаў праўленьня і радавых сяброў т-ва, заціскаўленасьць краязнаўчаю працаю з боку партыйных, савецкіх і грамадзкіх організацый і разгрузка ад іншых грамадз. абавязкаў сталых мясцовых краязнаўцаў.

Т. Кулакоў.

## Капаткевіцкае раённае т-ва краязнаўства.

У жыцьці т-ва з пачатку яго заснаваньня да сучаснага моманту можна вызначыць два пэрыоды. Адзін з 1925 году па 1927 год. Другі—з 1927 году да цяперашняга часу.

Першы пэрыод праходзіць выключна пад знакам выконваньня заданьняў краязнаўчага характару, якія даваліся з ІБК і акружнога т-ва. Гэтая работа абмяжоўвалася толькі зьбіраньнем сырога матар'ялу. Пры такім становішчы працы завербаваць выстарчаючы кадр краязнаўцаў-аматараў цяжка. Яшчэ цяжэй, завербаваўшы іх, падтрымліваць у іх ахвоту да гэтае працы. Вынікі свае работы працаўнікі ў большасьці выпадкаў ня бачаць і ахвота да працы адпадае. У гэты пэрыод лічылася 44 сябры т-ва, але працавалі ня больш 3—5 чалавек.

Станоўчым бокам працы т-ва зьяўляецца тое, што яно організацыйна аформілася: на адным з сходаў саюзу працасьветы ў кастрычніку 1926 году быў зроблены запіс жадаючых стаць сябрамі т-ва. Тут-жа абрана было праўленьне ў ліку 5 чалавек. Аднак гэтае праўленьне засталося штабам бяз войску.

Другі пэрыод характарызуецца тым, што ў краязнаўчай працы былі пастаўлены ў першую чаргу задачы, цікавыя для самога раёну: організаваць раённы краязнаўчы музэй, скласьці ўсебаковае апісаньне раёну, улажыць цэлы шэраг карт раёну: географічную, глебавую, археолёгічную, організаваць мэтэоролёгічную станцыю, якая-б давала зьвесткі аб надвор'і мясцоваму насельніцтву. Ад такой пастаноўкі, як паказала практыка, палепшылася і праца.

Пастаўленыя мэты былі популярызаваны на сходах сяброў КПБ, КСМ, некалькіх саюзаў і вучняў раённае сямігодкі, апрача таго яны ставяцца на абгаварэньне на сялянскіх сходах.

Вынікі такія. Колькасьць сяброў узрасла амаль што ў тры разы. На 1-е сакавіка 1928 году ёсьць: настаўнікаў—37, палітасьветнікаў—3, аграномаў—3, лясных працаўнікоў—2, мэдычных працаўнікоў—2, працаўнікоў саветаў—3, рабочых—4, сялян—2, саматужнікаў—1, вучняў—54, а ўсяго — 111 чалавек. З іх організавана 3 гурткі: адзін пры раённай сямігодцы—66 чал., другі пры местачковым савеце (яўрэйскі) — 8 чал.; трэці пры Лучыцкім сельсавеце — 7 чал.

Гурткі организоўваюцца там, дзе вызначыўся краязнаўчы актыў у выстрачальнай кольказьці. Каб краязнаўчай працы не перашкодзілі іншыя віды прац, узяты напрамак, каб кожны організацыйны орган па краязнаўству вылучыў адзін вечар у тыдзень для свае працы.

Праведзеная кампанія па пашырэньні падпскі на „Наш Край" дала станоўчыя выніікі; завербавана 37 падпішчыкаў.

Краязнаўчая праца у сучасны момант разгортваецца па ўсіх трох галінах: прыродазнаўча-географічнай, культурна-гістарычнай і грамадзка-экономічнай.

Прыродазнаўча - географічная сэкцыя прарабіла такую працу:

1. Уклала географічную карту двух сельсаветаў.

2. Вядуцца акуратна фэнолёгічныя назіраньні ў двух пунктах.

3. Набыты флюгер Фільда, ртутны і мэталёвы баромэтр.

4. Пабудована мэтэоролёгічная будка, дзе ўстаноўлены звычайны атмосфэрны мінімальны і максымальны тэрмомэтры.

5. У двух пунктах раёну організованы былі назіраньні за сьнежным насьцілам, таўшчынёю лёду, прамярзаньнем глебы і становішчам грунтавых вод Зроблена гэта паводле заданьняў Ленінградзкага мэтэоролёгічнага інстытуту.

6. Для географічнага слоўніка апісаны вурочышчы і паселішчы па адным сельсавеце, ва ўсіх іншых праца гэтая організована, і матар'ялы з месц паступаюць.

7. Зроблена 11 фотоздымкаў мясцовасьці і людзей.

8. Сабрана і апрацована колекцыя матылёў.



Мэтэоролёгічная будка школьна-краязнаўчага гуртка пры сямігодцы з 3-ма назіральнікамі: Азёмшаю А., Ліпскім П. і Пракопчыкам М.

Па культурна-гістарычнай сэкцыі:

1. Сабрана поўнае апісаньне вясельля з 108 песьнямі ў в. Вялікае Сяло, 342 прыказакі, 267 загадак, 102 народных прыкмет аб пагодзе.

2. Організована зьбіраньне зьвестак аб падзеях пад час паўстаньня 1863 г., рэволюцыі 1905 г. Лютаўскае і Кастрычнікава рэволюцыі, польскае і нямецкае окупацыі Паступіла ўжо: жыцьцёпісаў партызан з апісаньнем іх падзей 4, рэволюцыйных дзеячоў—5, успамінаў старых людзей—2.

3. Апісаны помнікі старасьветчыны па двух сельсаветах, па іншых апісваюцца.

4. Зьбіраюцца зьвесткі па гісторыі яўрэйскай асьветы ў раёне.

4. Складаецца колекцыя грашовых знакаў і монэт..

5. Зьбіраюцца ўзоры мясцовае тканіны.

6. Заказаны рыбаком модэлі рыбалоўных прылад.

Па грамадзка-экономічнай сэкцыі:

1. Сабрана 3.452 картак-слоў.

Зроблена дасьледваньне дыялектолёгічных асаблівасьцяй гаворкі ў 4-х пунктах раёну.

3. Зьбіраюцца зьвесткі по гісторыі і сучасным становішчы спажывецкае, крэдытнае і сельска-гаспадарчае коопэрацыі ў раёне.

4. Вядзецца вывучэньне экономікі мястэчка Капаткевіч.

5. Зьбіраюцца матар'ялы аб становішчы паляводзтва, жывёлагадоўлі, садоўніцтва, гародніцтва і пчалярства ў раёне.

Цішка Паляны.

## Шкоднікі садоў г. Пятрыкова.

*(Мазырскай акр.)*

Па даручэньні Пятрыкоўскага Т-ва Краязнаўства мне прышлося заняцца вывучэньнем шкоднікаў пятрыкоўскіх садоў. Мае нагляданьні і працу я распачаў у сакавіку г.г, і ўсе матар'ялы, якія ў гэтым артыкуле сабраны, будуць адносіцца выключна да вясны 1928 г.

На падставе нагляданьняў я прышоў да вываду, што ў Пятрыкоўскіх садох ёсьць наступныя шкоднікі: бялян жываплотнік — (Aporia crataegi L.), златагузка—(Euproctus chrysorrhaea L.), кольчаты шаўкапрад—(Gastropacha nenotria), яблынёвая тля, зялёная,—(Aphis mali), яблынёвы цьветаед-„слонік". (Anthonomus pomorum) і зімовая пядзяніца (Cheimatobia brumata). Зімовыя кублы бяляна жываплотніка ўтвараюцца яшчэ з восені і вісяць не садовых дрэвах да вясны. Як толькі прыгрэе сонца, з іх пачынаюць вылазіць маленькія вусені, якія паядаюць зялёнае лісьце і кветкі на дрэвах яшчэ з вясны і зьяўляюцца пагрозай саду, бо лік іх бывае значны.

Вясной я меў магчымасьць знайсьці гэтыя зімовыя кублы. У большасьці кожнае кубло складалася з двух сухіх лісткоў, склееных павуцінкай паміж сабою. Былі выпадкі, калі кубло складалася і з трох такіх лісьцікаў.

Вусені, звычайна там знаходзіліся ў ліку ад 12—17 штук і ў рэдкіх выпадках да 25 штук.

Кубло звычайна вісела на дрэве на вышыні 3-4 мэтраў; сустракаліся на яблынях, ігрушах, на сьлівах і вішнях. Усе пералічаныя віды дрэў былі пашкоджаны бялянам жываплотнікам у большай ці меншай ступені.

Кублы златагузкі (Euproctus chrysorrhoea L.) зьмяшчаліся вышэй, у большай меры, чым кублы бяляна жываплотніка і мне прыходзілася здымаць іх з вышыні 6-7 мэтраў (у той час як кублы бяляна жываплотніка віселі на вышыні ад 3-4 мэтр.). Складаліся яны ўжо з 5-6 сухіх лісткоў, таксама склееных паміж сабой павуцінкамі. Прымацаваны былі да галінкі дрэва мацней, чым у бяляна жываплотніка. Дзякуючы таму, што кублы златагузкі складаліся з большай колькасьці лісткоў, яны па знадворным выглядзе адрозьніваліся ад кублоў бяляна жываплотніка сваёй велічынёю. За ўвесь час я абгледзеў 43 дрэвы (розных парод саду), на якіх я знайшоў 224 кублы бяляна жываплотніка і 38 кублоў златагузкі. Кублы кальчатага шаўкапрада пападаліся яшчэ радзей, чым кублы златагузкі. На гэтых-жа дрэвах (43 іх было абгледжана) я зьняў 8 кублоў кольчатага шаўкапрада.

Па колькасьці кублаў кольчаты шаўкапрад стаіць, як відаць, на апошнім месцы, златагузка на другім, а бялян жываплотнік на першым.

Затое па колькасьці вусеняў, якія павінны былі з іх выйсьці, златагузка будзе стаяць на першым месцы (калі прыняць лік вусеняў у яе кублах па 150 у сярэднім, а бывае да 200 штук—па Шчарбіноўскаму „Вредители сельского хозяйства" выд. „Новая Деревня". Москва, 1924 г. стр. 124), бялян жываплотнік на другім (224×17) і кольчаты шаўкапрад на трэцім, калі нават лік вусеняў з кожнага кубла яго будзе раўняцца максімум 400 (паводле Шчарбіноўскага). Падлічыўшы кублы і вусеняў, можна ўбачыць, якой вялікай пагрозай для саду зьяўляюцца паказаныя шкоднікі. Далей у групу шкоднікаў саду трэба занесьці і яблынёвую тлю (Aphis mali), якая шкодзіць маладым пупышкам, лістком. Мне прышлося ўбачыць тлю 4 мая г. г. у вялікай колькасьці на старых дрэвах, яблынях і ігрушах.

З тэй прычыны, што яны зялёныя і дробныя, іх цяжка ўбачыць.

На старых дрэвах, у большасьці, я наглядаў іх у садзе і сямігодкі.

Наступны шкоднік будзе яблынёвы цьвета д (Anthonomus pomorum).

Разгля даючы сапсаваныя кветкі, я знаходзіў чарву гэтага маленькага жучка.

Калі з яйка, якое самка кладзе ў завязь кветкі, выходзіць чарва, яна пачынае грызьці тычачкі, слупок і завязь кветкі. З такой кветкі, вядома, плоду ніколі ня будзе. У адным з садоў г. Пятрыкова яблынёвы цьветаед так пашырыўся, што вішні, якія ў вясну добра красуюць, урэшце не далі плоду і, відаць, толькі дзякуючы гэтаму маленькаму жучку з доўгім носікам і з белаватымі палоскамі на цёмных надкрыльлях.

Сустракаюцца ў нашых садох і вусені зімовай пядзяніцы (Cheimatobia brumata) сьветла-зеленаватага колеру, якія за кароткі тэрмін (да 20 мая з моманту іх зьяўленьня) у адным садзе зьнішчылі лісты на двох маленькіх яблынях.

С. Марозаў.

# Сьнежная бура 13 і 14 красавіка ў даліне р. Прыпяці.

*(В. Мардвін Мазырскае акругі).*

Вясна ў гэтым годзе пачалася, позна і ня спраўдзілася вясковая прымета: „зіма трымаецца моцна—вясна будзе дружная“. Вясна была сырая і халодная: хавала сонца, гнала сіверку, куталася ў халодныя туманы. Часам сьціхалі халодныя вятры, бывалі цёплыя сонечныя дні. І раптам наляталі птушкі, якія, відаць, спыняліся ў дарозе і чакалі лепшага надвор'я. Але ўсё-такі яны пасьпяшаліся: нечакана зноў вярнулася зіма з моцнай сьнежнай завеяй 13-14 красавіка, прынесла шмат птушкам сьмерць.

За некалькі дзён да гэтага 7/IV раніцою разам з дажджом падалі сьняжынкі. А 7 гадзіне раніцы пайшоў адзін сьнег і шоў да самага вечара. Усё пабялела. Ноччу пачало падмярзаць. Перад гэтым на балота (Кунеэўку, Чарэціна, „пад Алес“) прыляталі карміцца качкі, было шмат бакасаў. Раніцою 8 IV мы пайшлі з праваднікам, думаючы прабрацца цераз балота да старой Убарці. За ноч балота замерзла, падмерз і сьнег, што выпаў на ваду. На сьняжку прыкметны замерзлыя дарожкі качак, застыглыя сьляды кулікоў. Мы ламаліся праз лёд вярсты тры па голым балоце і паднялі аднаго бакаса. Да старарэчча Убарці, якая не замерзла, было яшчэ вярсты дзьве. Мы бачылі вялікія стады ныркоў гогаляў (Clangula clangula L.), качак крыжанак (Anas boschas L.) і качак чыркоў, якія праляталі і зьніжаліся.

На зваротным шляху праз лес мы бачылі, як птушкі зьбіраліся каля незамерзлых забалочаных лясных раўчакоў. Асьцярожна, як і заўсёды, шмыгалі салаўі чырвонашыйкі (Dandalus rubecula L.), невялікімі групамі трымаліся дразды (Turdus pilaris L., Turdus philomelus Brehm. і Merula merula). Скакалі па зямлі, лазілі па кустох лазы гаічкі (Poecile palustris L.) і блакітніцы (Cyanistes coeruleus L.). Птушкі зьбіраліся да вады, дзе ім можна было карміцца.

Але катастрофа чакала іх. Усю ноч з 12. на 13/IV ішоў сьнег. Раніцою зноў усё бела, і б'юць у вокны абледзянелыя крупы. На вуліцах сумёты сьнегу і пяску. Сьнежная завея ўвесь дзень. Мардвінцы паехалі глядзець жакі,—і вярнуліся, не даехаўшы ні да воднага. У полі супроць ветру зусім немагчыма ісьці. Вераб'і (Passer domesticus L. і Passer montanus L.), жоўтабрушкі (Emberiza citrinella L.), юркі (Fringilla coelebs L. і Fringilla montifringilla L.) наляцелі ў вёску. Яны садзіліся каля самых дзьвярэй, залятали ў гумны, скручваліся ў камочак каля плятнёў, дзе хвалі прыганялі да берагу сьмецьце, дзе ня так бушавала завея. Сюды, да вады, зьбіраліся і сітаўкі (Motacilla alba L.). Разам з імі хадзіў і кулік-чарняк (Helodromus ochropus L.) і троху далей, каля самых варот, кулік балотны (Limoza limoza L.).

Жаўранкі баяліся падляцець да двароў. Яны лятали і хадзілі па сьнежным полі, па палях, усё яшчэ намагаючыся пяяць пры ўзьлётах. Да іх далучылася некалькі ерчыкаў (Oenanthe oenanthe L.). Нязграбна, віхляючыся, прыляцеў зьнекуль удод (Upupa epops L.) і згінуў у завеі.

Качкі-крыжанкі (Anas boschas L.) і качкі-чыркі (Querquedula querquedula L.) таксама шукалі незамерзлых месц і падплывалі да плятнёў.

З гадзіны пасьля поўдня.

Вераб'і і жоўтабрушкі забіліся ў гумны ў салому, з імі разам юркі. Жаўранкі чубатыя (Galerida cristata L.) ужо на вуліцах вёскі. Птушкі замярзаюць. Юркі, надзьмуўшыся, сядзяць пад дубамі і каля плятнёў, ня хочуць узьлятаць.

З лесу, з палёў да гумнаў стадамі ляцяць дзікія галубы (Columba oenas L.).

Удод яшчэ мятусіцца каля гумнаў. 14/IV. Раніцою завея тая самая.

Знайшлі памершых юркоў каля аднаго гумна цэлую кучу—20 штук. Птушкі не баяцца чалавека: юркі сядзяць каля самых дзьвярэй.

З чаротаў і сітнякоў бура выгнала сітняковых жоўтабрушак (Cynchramus schoeniclus L.). Яны сёньня каля вады, каля плятнёў, разам з імі салаў'і чырвонашыйкі (Dandalus rubecula L) і сітаўкі (Motacilla alba). Жаўрункі (Alauda arvensis L.), як і раней, знаходзяцца на палёх і не падлятаюць да гумнаў. Удод забраўся пад крышу. Яго знайшлі там і адагрэлі.

Кнігаўкі (Vanellus vanellus L.), якія былі ўвесь час асьцярожнымі, не баяцца чалавека і ходзяць каля вады, недалёка ад вёскі.

Вада ўвесь час павялічваецца; сьнежніца перашкаджае сходу вады.

А 1 гадзіне заціхла завея. Ноччу вялікі мароз.

15/IV. Мароз. Ня толькі плёсы — замерзьлі ўсе пратокі. У лазе трымаюцца салаў'і чырвонашыйкі, дразды (Merula merula L.), рабіньнікі і тынаўкі (Accentor modularis L.). Яны скачуць па лёдзе і падпускаюць крокаў на 10.

Лясныя стракаткі вылецелі з лесу на зяленіва і ральлю, ці сядзяць на кучах вывезенага гною.

Вяртаючыся з лесу, я бачыў на полі, на першых праталінах, групы вераб'ёў, жоўтабрушак, юркоў. Яны выляцелі з вёскі.

Пасьля мне гаварылі што ў в. Сіманавічах 13 і 14/IV замерзьлі буслы (Ciconia ciconia L.).

На ўсходзе Смал. губ. (у быўшым Дарагабускім павеце) гракі на час завеі заляцелі ў гумно і замерзьлі.

С. Кірык.

**Ул. Пракулевіч.**

# Бібліографія Мазыршчыны[1]).

*(Паводле матар'ялаў Бібліографічнае Камісіі ІБК).*

Падзелы: 1) Карты. 2) Географія. 3) Геолёгія. 4) Гідрографія; кліматолёгія. 5) Расьліннасьць. 6) Фаўна. 7) Адміністрацыйна-гаспадарчыя ўстановы. 8) Статыстыка. Ведамственая літаратура. Даведачная літ-ра. 9) Асьвета. 10) Мэдыцына. Санітарыя. 11) Экономіка краю. 12) Коопэрацыя. 13) Партыйныя організацыі. 14) Профрух. Праца. Гісторыя разруху. Бандытызм. 15) Этнографія. 16) Краязнаўчыя організацыі. 17) Гісторыя і археолегія.

*Карты.*

Азбукін, М. і Смоліч, А.—Школьная карта Беларусі. Маштаб 1:500.000, 1 сант.=5 кілём. Менск 1926. 4 аркушы.

Атласъ картъ и чертежей къ очерку работъ Западной Экспедиціи по осушенію болотъ 1873-1898. 1899. 77 картъ и чертежей +(1) стр. содерж.

Да Мазыршчыны маюць адношэньне прыблізна 30 карт гідролёгічных, кліматычных, геолёгічных.

(Змудзінскі, Г.) Карта новага адміністрацыйна-гаспадарчага падзелу Беларускай Социялістычнай Савецкай Рэспублікі. Маштаб: 5 в. у цалі. Менск. 1925. 9 аркушоў.

Кайгарадаў, А. І., проф. Кліматычная карта Беларусі (у этнографічных межах паводлуг карты Ў. М. Ігнатоўскага). Маштаб 20 кл. у 1 см. Горкі. 1926. 1 арк.

Кайгародаў, А. Кліматычны атляс Беларусі.—Менск. 1927. 13 стар. і 76 карт.

Карскій, Е. Ф. Этнографическая карта бѣлорусскаго племени.—У яго працах: 1) Бѣлоруссы, Вильна, т. І. 1904.; 2) Этнограф. карта. Петроград. 1918; тэкст і карта.

Карта Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі. Маштаб 25 в. у цалі. Менск. [1925].

Карта Минской губерніи. Масштабъ: 3 в. въ дюймѣ. СПБ. Изд. Военно-Топографического Отдѣла. 41 аркуш.

Карта Минской губерніи. Масштабъ: 10 в. въ дюймѣ. СПБ. Изд. Военно-Топографического отдѣла. 6 аркущоў.

Карта Мозырскаго уѣзда Минской губерніи. Масштабъ: 3 в. въ дюймѣ. СПБ. Изд. Военно-Топографическаго отдѣла. 10 аркушоў.

Пікулік, Яз. Карта Беларусі. Паводле карты М. Азбукіна і А. Смоліча апрацаваў Яз. Пікулік. Маштаб 1: 2000.000. Менск. 1926.

[Риттихъ, А. Ф.] Атласъ народонаселенія западно-русскаго края по исповѣданіямъ. Составленъ Министерствомъ Внутренних Дѣлъ въ канцеляріи завѣдывающего устройствомъ православныхъ церквей въ западныхъ губерніяхъ. Изданіе 2-ое, испр. и доп. СПБ. 1864. 7 картъ+2 табл. и поясненія.

Спеціальная карта Европейской Россіи. Масштабъ 10 в. въ дюймѣ. Петроградъ. 1915. Изд. Военно-Топографическаго Отдѣла Генеральнаго Штаба.

Палесьсе—16-й аркуш.

Тилло А. А. 1896.—Гипсометрическая карта западной части Европейской Россіи въ связи съ прилегающими частями Германіи, Австро-Венгріи и Румыніи. Масштабъ 1:1680000 или 40 верстъ въ англійск. дюймѣ. СПБ. 1896. на 4 лист.

Тилло, А. А.—Атласъ распредѣленія атмосферныхъ осадковъ на рѣчныхъ бассейнахъ Европейской Россіи, по мѣсяцамъ и за весь годъ. на основаніи двадцатилѣтнихъ наблюденій 1871-1890. (Труды Экспедиціи для изслѣдованія источниковъ главнѣйшихъ рѣкъ Европейской Россіи). СПБ 1897. Стр. 2 нен.+VI+XIV картъ.

Тутковскій, П. А.—Карта-справочникъ строительныхъ матеріаловъ по западному фронту. Листы 30 и 31 (Мозырь—Кіевъ—Тараща). Масштабъ: 10 в. въ дюймѣ. Петроградъ 1916. 19 стр.+1 карта.

Atlas Ukrainy i Polesia. (Pińsk-Homel-Czerniowce-Humań) w podziałce: 1:400.000. Warszawa. 1926 Główna Księgarnia Wojskowa. Str. 50+9 map.

Zwicker, dr. 1) Tabula Paludum Polesiae. Danzig. 1560. 2) Nova et nunc primam edita paludum Polesiae tabula.—Gedani. 1650.

*Географія.*

Жилинский, І. И. Очерк работ Западной Экспедиции по осушению работ (1873 1898),—СПБ. 1899. Стр. V+744.

Зеленский, И. Минская губерния.—СПБ. 1864. ч. І. и ІІ. (Материалы для гео-

[1]) Бібліогр. Камісія па Мазыршчыне мае звыш 600 бібліогр. картак, але з прычыны абмяжованасьці старонак зьмяшчаецца ў гэтай працы меншая палова іх. З гэтае-ж прычыны, каб павялічыць колькасьць матар'ялу, бібліографічныя запісы падаюцца са скарачэньнямі, а часткай зборнымі; прыводзяцца толькі самыя неабходныя орыэнтовачныя анотацыі. Бібліаграфія ахопліваюць Мазыршчыну ў сучасных межах.

Аддз. археолёгіі падрыхтаваны С. Дубінскім (маецца каля 100 картак).

графии и статистики России, собр. офицерами ген. штаба).

Киркоръ, А. К.—1) Долина Припети; 2) Природа Белоруссии; 3) Поселения в Белорусском Полесье.—„Живописная Россія“. СПБ. 1882. Т. III. ч. 2. 1) Стр. 339-356; 2) стр. 329-338; 3) (аб Мазыршчыне), стр. 378-381.

Крукоўскі, А. Я. Горад Мазыр і яго ваколіцы.—„Наш Край“. Менск. 1927, № 3 (18), стар. 16-28. з 12 мал.

Крукоўскі, А. Старадаўні Тураў і яго ваколіцы.—„Наш Край“. Менск. 1926, № 8-9 (11-12), стар. 51-56, з плянам.

Максимовъ, В. „Князь“ или „Жидъ“ озеро и окрестности. Мозырь. 1914.

Нивичъ, Яковъ—Туровъ, Минской губ. 1) „Сѣверо-Западная Жизнь“, газ. 1913. № 107. 2) Записки Сев.-Зап. Отдела Имп. Русскаго Географическаго О-ва за 1913 г. Вильна 1914. кн. 4. стр. 217-113.

Россія. Полное географическое описаніе нашего отечества. Настольная и дорожная книга подъ редакціею В. П. Семенова. Т. IX: Верхнее Поднѣпровье и Бѣлоруссія. С картами и рисунками. СПБ. Стр. VII+620.
Карыстайся паказчыкам: „Указатель. Имена географическія“—стар. 583-603.

Рудневъ, Я. И. —Белорусско-Литовское Полѣсье. По „Этнографіи Россіи“. Л. Весина и др. источникамъ составилъ... 1) СПБ. 1898. стр. IV+205; 2) Москва. 1904. 256 стр. и карта.

А. Ѳ. С. [Селиванов] Мозырь [и уезд]. —Энциклопедическій Словарь Брокгауза и Эфрона. 1896. т. XIX-а. Стр. 607.-609.

Семеновъ, П.— Географическо-статистическій словарь Россійской Имперіи, составлен по порученію Географическаго Общества.—СПБ. 1862-1888. Т. I-V.
М. інш. „Мозырь“, т. III, стр. 287-290; „Припять“, т. IV, стр. 215-216; „Туров“, т. V, стр. 280-281.

Слупскій. Туров и Изяславль. „Северо-Западный Колендарь“. Минск. 1888.

Смоліч, А.—Географія Беларусі. Рэдакцыя школьнае камісіі Беларускага Навуковага т-ва. 1) Вільня. 1919. 200 стар. 2) Вільня, 1922. 368 стар. 3) Вільня. 1923; 367 стар.

Смоліч, Аркадзь.—Кароткі курс геаграфіі Беларусі.—Менск. 1925. 352 стар.+1 карта Беларусі.

Ястремскій, Ф.—Краткій очеркъ Минской губерніи въ физико-географическомъ и статистико-экономическомъ отношеніяхъ. Ч. I: Физико-Географическій очеркъ. Минскъ 1897. Стр. [4]+94.

Iel(ski), Al. Turów.—Słownik Geograficzny Królewstwa Polskiego. Warszawa. 1892, t. XII, str. 649-652.

Iel [ski], Al. Mozyrz (i powiat) Słownik Geograficzny Królewstwa Polskiego. Warsz. 1885, t. VI, str. 754-759.

[....—Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego i sąsiednich krajów słowiańskich, Tomów 16. Warszawa. 1879-1904.

*Геолёгія.*

Крукоўскі, А. Я. Жалезная руда на Мазыршчыне. „Наш Край“. Менск. 1) 1926, № 8-9, стар. 43-44. 2) 1928, № 1, стар. 24-27.

Оппоковъ, Е. Нѣкоторыя свѣдѣнія о болѣе глубокіхъ буровыхъ колодцахъ Полѣсья. Съ 1 таблицей. 1) „Известія Геологическаго Комитета“. СПБ. 1906. т. XXV. Стр. 89-144. 2) Адбітка [Глядзі: стр. 112-121, 133-141 і інш.].

Оппоковъ, Е. В.—Глубокое буреніе 1914-1915 г. въ Минскѣ въ сопоставленіи съ другими глубокими буровыми скважинами въ районѣ Полѣсья.—„Матеріалы по изслѣдованію рѣкъ и рѣчныхъ долинъ Полѣсья“. Вып. I. Кіевъ. 1916. Стр. 89-103, съ 2 фотогр. снимк.

Тутковскій, П.—Ископаемыя пустыни сѣвернаго полушарія.— „Землевѣдѣніе“. Москва 1909. Приложение. Стр. VIII+373, 2 карты и 1 рис. [Гл.: стр. 213, 229-247, 258-261].

Тутковскій, П.—Краткій гидрографическій очерк центральнаго и южнаго Полѣсья. —„Труды Общества по Изслѣдованію Волыни“. Житомір. 1910. т. II. Стр. 67-141. Съ 2 табл.
Мазыршчыны датычыцца значная частка артыкулу.

Тутковскій, П. А.—Объяснительная записка къ справочной картѣ строительныхъ матеріалов.... [На вокладцы: „Карта-справочникъ строительныхъ материаловъ по Западному фронту. Листы 30 и 31 (Мозырь, Кіевъ, Тараща)].—Петроград. 1916. 20 стр. и 2 карты.

Тутковскій, П. А.— Геологическій очеркъ Минской губерніи. По даннымъ научной литературы и собственнымъ изслѣдованіямъ. Съ геологической картой. Вып. I. Кіевъ. 1915. 344 стр.
Библіографія: „Литература по геологіи Минской губерніи“—стар. 5-18.

Тутковскій, П. А. проф. и академик. —Геологические исследования в Минской губернии. (На территории быв. Минской губернии) по данным научной литературы и собственным исследованиям составил....Ч. II. Витебск. 1925. Стр. 362.
Бібліографія: „Литература по геологии Минской губернии—стар. 9-22.

Хорошевскій, В.—Геологическія изслѣдованія, произведенныя въ последнее время въ Полѣсьи. 1) „Горный Журналъ“. СПБ. 1881. Т. II. № 6. Стр. 350-375. 2) Адбітка. 28 стр.

Ярошевич, Н.—К вопросу о почвенном изучении Советской Белоруссии. [З дадаткам 4 табл. Тэрыторыяльнае размеркаваньне глеб Менскай губэрні і сьпіс валасьцей Менскай губэрнії і іх глебавая характарыстыка].—„Народное Хозяйство Белоруссии“. Минск. 1922. № 2. Стр. 1-13.

Ярошевич аграном.—Почвы Белоруссии.—1922. Стр. 228+3 карты+[4]. [Литография].

Choroszewski, W.—Poszukiwania geologiczne, dokonane w ostatnich latach na Polesiu. 1) „Pamiętnik Fizyjograficzny“. Warszawa. 1881. T. I. Str. 115-132. Z mapą Polesia. 2) адбітка. 18 str.

Перагляд літаратуры.

